# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №4 (165), 25 СТУДЗЕНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ






**Гэты здымак ананcуе інтэрв'ю Жаны ЛАШКЕВІЧ з Мікалаем ХАЛЕЗІНЫМ (ён на здымку), мастацкім кіраўніком цэнтра сучаснага мастацтва «VITA NOVA». Матэрыял чытайце ў бліжэйшых нумарах.**

# ЧЫМ СЛОВА НАША ПРАРАСТАЕ?

Апошнім часам у Беларусі пачасціліся з'явы , скіраваныя супраць беларускай мовы, культуры, сімволікі. У цывілізаваным свеце пастаноўка пытання адносна статусу мовы карэннай нацыянальнасці проста немагчымая, бо абсурднасць яго зразумелая кожнаму — як аўтахтону, так і прыезджаму чалавеку. У нас жа моўна-культурныя дыскусіі, забіраючы нямала сілаў і часу грамадства, набываюць характар высакароднай барацьбы за правы чалавека, якія, вядома, вышэй за правы народа, нацыі, дзяржавы. А што, калі права кожнага асобна ўзятага чалавека ці нават групы людзей у дзяржаве нясе ў сабе разбуральную патэнцыю для самога грамадска-палітычнага ўтварэння?

Думаецца, у такім разе на ўсіх узроўнях улады і кіравання павінен быць выпрацаваны механізм вырашэння спрэчнай справы, угрунтаваны на нацыянальным заканадаўстве і вопыце сусветнай супольнасці, з улікам нацыянальных інтарэсаў краіны. Ва ўсякім разе, менавіта дзяржава павінна браць на сябе асноўны цяжар вырашэння пытанняў, звязаных з яе цэласнасцю, захаваннем уласных асноватворчых аспектаў, фармаваннем прыкметаў пазнавальнасці ў свеце. Гэта аксіёма.

Тэндэнцыі, скіраваныя супраць утрывалення беларускай моўна-культурнай традыцыі, абапіраюцца на дастаткова шырокі спектр з'яў: ад звычайнай моўнай неахайнасці або непісьменнасці ў беларускіх СМІ, інфармацыйна-рэкламнай прадукцыі, побытавых сферах да дзеянняў канкрэтнай палітычнай скіраванасці. Чым можна вытлумачыць, напрыклад, рост колькасці заяваў бацькоў супраць навучання іх дзяцей на беларускай мове?

Мяркуем, што нейкай адной прычыны тут няма. Ёсць цэлы іх шэраг, вытокі якога, як ні дзіўна, прасочваюцца на адлегласці трох з лішнім сотняў гадоў ад дня сённяшняга. Можна было б з разуменнем паставіцца да патрабаванняў увядзення двухмоўя (праўда, чаму толькі двух(!)моўя?) і свабоднага выбару мовы навучання, калі б не вядомыя ўсім вынікі правядзення "мудрай" нацыянальнай палітыкі кіраўніцтвам былога СССР і яго васалаў у нацыянальных рэспубліках. Беларусь здолела выстаяць дзякуючы хіба жыватворным сокам нацыянальнай свядомасці, без уздыму якой у канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя сёння пра беларускасць на Беларусі можна было б гаварыць роўна столькі, як і пра аналагічныя прыкметы на этнічных беларускіх землях Смаленшчыны, Браншчыны ці Пскоўшчыны.

Адна бязвінная, але вузка скіраваная фраза прэзідэнта ў педуніверсітэце стала свайго роду той кропляй, якая памкнула за сабой прыціхлую было плынь на прарыў заканадаўчай плаціны, усталяванай дзеля захавання асноватворчых прыкметаў беларускай нацыі. Усе наступныя выказванні вышэйшага кіраўніка дзяржавы адносна беларускай мовы і яе месца ў жыцці нацыі — у АН Беларусі, на сесіях аблсаветаў — змушаюць бачыць у іх спробу ўсталявання новай дзяржаўнай палітыкі. Немцу або французу ніякім чынам немагчыма растлумачыць сутнасць нашых моўна-культурных праблемаў, бо яны выходзяць за межы разумення законапаслухмяных грамадзянаў еўрапейскіх краін. Гэтак жа не ў стане чалавек цывілізаванага свету пагадзіцца з маўчаннем дзяржавы (беларускай), калі чыніцца здзек, а яшчэ больш — гвалт над яе дзяржаўнымі сімваламі.

Падобныя дзеянні ў законапаслухмяным грамадстве былі б расцэнены ці не за найгоршае злачынства. Нашы ж праваахоўныя органы ў сказаным ганіцелямі дзяржаўнай сімволікі не ўглядаюць ані каліва абразы, тым больш антызаконных дзеянняў. Нам прапануюць бачыць у іх толькі палітычныя памкненні, бесперашкодная рэалізацыя якіх, калі не скіраваны яны на гвалтоўную змену існуючага ладу, у дэмакратычным грамадстве гарантуецца заканадаўствам. Чым вытлумачыць маўчанне дзяржавы, калі прадстаўнікі "левых сілаў" з істэрычным імпэтам дзяруць Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь, пры многіх сведках абзываючы яго і герб "Пагоня" "фашистскими символами"? Так было вясной 1993 года ў Менску, калі ўшаноўвалася памяць аб ахвярах хатынскай трагедыі. Так сталася і нядаўна ў Гродне проста на ганку гарсавета. Праявы падобных злачынных дзеянняў можна прасачыць у шэрагу іншых мясцінаў Беларусі, дзе актыўнічаюць "левыя". У маўчанні ж адказных дзяржаўных структураў з нагоды ўсіх такіх фактаў міжволі адчуваеш пэўную сімптаматычнасць.

*(Працяг на стар. 3)*

## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

Вертыкаль

# ПАЛЯВАННЕ НА ВЕДЗЬМАКОЎ: АДКРЫЦЦЁ СЕЗОНУ

Паляванне на ведзьмаў бывала ў гісторыі чалавецтва не аднойчы. З таго часу як быў напісаны славуты "Молат ведзьмаў", не адзін звышпільны інквізітар, імкнучыся заслужыць асаблівую ласку божую, узіраўся ў вочы западозраных жанчын, вышукваючы ў іх д'ябальскія іскрынкі.І не толькі ўзіраўся, але і бязлітасна пасылаў няшчасных на вогнішча.

У цывілізаваным XX стагоддзі амерыканскае ЦРУ заслужыла сумную славу сваімі забаронамі на прафесію вядомым у краіне людзям, якія спачувалі камуністам. Гэтую з'яву таксама празвалі "паляваннем на ведзьмаў" — па аналогіі з тымі, даўнімі, хаця аб вогнішчах гаворкі ўжо не было.

У нашай фантастычнай краіне пачынаецца паляванне на ведзьмакоў. Дакладней, на аднаго з іх, а менавіта — Ведзьмака Лысагорскага.

Шырока вядомы Вядзьмак, выдатны твор якога "Сказ пра Лысую гару" нарадзіўся на пачатку 70-х, спажываў сваю славу досыць доўга, не ўмешваючыся ў грамадска-палітычныя працэсы. Ён не азваўся ні на экзерсісы Гарбачова, ні на слюнькоўска-сакалоўска-кебічаўскія канвульсіі (праўда, адгукаўся на некаторыя з іх адзін з паслядоўнікаў, Вядзьмак Лысагорскі-меншы).

Аднак здзек з мовы, які апошнім часам шырока сталі дазваляць сабе новаспечаныя палітыкі, дапёк і яго. Вылезшы з дупла апошняга са стогадовых дубоў, якія яшчэ водзяцца на некаторых нашых Лысых гарах, не прададзеныя на мэблю адной з беларускіх "лімонціяў", Вядзьмак склаў паэму "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт".

Ну, што возьмеш з Лукі Мудзішчава? Ён — герой адной з самых недрукуемых паэм XIX стагоддзя. Забаўны персанаж мастацкага твора.

Аднак у нашым кантралюемым свеце не бывае герояў, у якіх бы хоць хто-кольвечы сябе не пазнаваў бы. Пазнавалі сябе, напрыклад, хатнія гаспадыні ў вобразах "ракавых гераінь" Томаса Вулфа і не давалі беднаму амерыканцу заехаць ў бацькоўскі гарадок, пагражаючы яму ўсемагчымымі карамі. "Пазнала сябе" гераіня аднаго з артыкулаў на маральную тэму нашага карэспандэнта Міхася Равуцкага і нават спрабавала судзіцца з нашай газетай, але, дзякуй Богу, адмовілася...

"Разоблачили" і Луку Мудзішчава. І не толькі пазналі ў ім — каго б вы думалі? Як бы гэта шэптам... ну... самага нашага "ўсенароднага", але і... Так, дарагі чытач! Узбуджана крымінальная справа на падставе арт.188 Крымінальнага кодэкса незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Калі справа ўзбуджаная, то, самі ведаеце, што далей.

1. Абшукваюцца ўсе стогадовыя дубы на ўсіх Лысых гарах Беларусі. А іх, апроч азначаных у БелСЭ, нашмат болей, бо нячыстая сіла любіць збірацца і называе сваімі, г. зн. Лысымі, і іншыя горкі і ўзвышшы, не дакладваючы пры гэтым, скажам, нашаму Крымінальнаму кодэксу, чаму ім падабаецца, скажам, якая-небудзь Чырвоная горка ці якая іншая.

2. Правяраюцца пашпарты ўсіх падазроных ведзьмакоў, не толькі нашага, Лысагорскага. А колькі ж іх жыве на сваіх гарах! Колькі штампаў аб прапісцы ўвогуле не пастаўлена!

3. Нарэшце, пры наяўнасці самога таварыша (так, таварыша, а не якога там спадара) Лысагорскага трэба яшчэ даказаць, што дадзеная паэма належыць яго пяру. Можа, ён і піша пяром з хваста чорнага Пеўня, як пісалі ў гады яго маладосці. А калі ён карыстаецца кампутарам? І калі на экземпляры, закінутым у "Свабоду", няма ягонага аўтографа?

Прыцягваюцца лепшыя крымінальныя сілы краіны, рыпяць кампутары, пішуцца паперы, працуе "сыскная" служба...

А тым часам чысцяць нашы кішэні і, як да сябе на летнік, лезуць у нашы кватэры...

Тым часам у турмах месяцамі за мяшок украдзенай капусты сядзяць дзядзькі, бо следства не мае на іх часу...

Жарт жартам, але ж вось што адбываецца: лепшыя юрысты краіны зараз сядзяць і гадаюць: "Дык ці той ці не той — Лука Мудзішчаў? Ці ён, усё ж, не прэзідэнт, гэты самы Лука, а сам па сабе?" І ўвогуле, як тут быць: прызнаваць, што паэма — пра нашага дарагога Прэзідэнта (цьфу, цьфу на нячыстую сілу, знайшла на каго замахнуцца!), ці здагадвацца, што герой мастацкага твора існуе ўсё ж у нейкай іншай, паралельнай прасторы, куды не дабрацца аніякаму Крымінальнаму кодэксу?

Можна, вядома, знайсці і небараку-пісьменніка, які, вядома ж, быў падкуплены і завярбаваны БНФ яшчэ ў тыя, далёкія 70-я (далёка гады-бэнэфаўцы сягалі, пераплюнулі нават КДБ, якое не даўмелася, што за дыверсія рыхтуецца, і тады ж не "прыхлопнула" шкодніка). Дык вось, можна знайсці пісьменніка і аб'явіць, што ён і ёсць Вядзьмак. І засудзіць яго па арт. 188, ці па любому, які ўгодліва падкажа ўладам наша ну вельмі паслухмяная Феміда (якая, дарэчы, так і не знайшла стралкоў, якія ледзь не пазбавілі нас Першага Прэзідэнта яшчэ ў часе выбарчай кампаніі).

Але ж і наступныя пакаленні беларусаў (калі толькі застанецца памяць пра нашы сумныя часы) усё будуць задаваць сабе пытанне:

— Дык... першы "ўсенародна абраны" быў — Мудзішчаў ці не?!

**В.М.**

# КРАЙ ПЕРАКУЛЕНЫХ НЯБЁСАЎ

Невялічкая зала кінатэатра "Змена", што на вуліцы Казлова ў Менску, перапоўнена. Сапраўды, яблыку няма дзе ўпасці! Занятыя ўсе крэслы, людзі стаяць каля сцен, у праходах, многія не могуць уціснуцца ў залу і ўтвараюць у дзвярах "пробку". Народу столькі, што хапіла б на дзве, калі не тры такія зальчыкі. І з якой нагоды! Не на сенсацыйны "баявік" прыйшлі сюды ўсе гэтыя людзі, а на прагляд дакументальнай стужкі, да таго ж таксама не сенсацыйнай, не "выкрывальнай", не "крымінальнай", — лірычнай. Ці, дакладней, лірычна-філасофскай, з адзіным персанажам, які ў гэтай стужцы толькі разважае, думае ўслых, глядзіць у вочы гледачам — часта моўчкі. Проста глядзіць людзям у вочы. І яшчэ на нябёсы, на лес, на возера, у якім плывуць тыя ж нябёсы і задуменна стаіць той жа лес — блакіт і воблакі, сосны і яліны, перакуленыя ў люстра возера, адбітыя ў ім, нібы ў воку.

Раптам бліскае маланка, грыміць гром, хлешча лівень, і возера аж кіпіць ад кропляў. І паступова зноў становіцца спакойнай, ціхай вадою, у якой адчуваецца глыбіня і самой гэтай вады, і таго часу, які сплыў, сплывае і вечна будзе сплываць разам з ёю.

Возера гэтае завецца Горадня, а чалавек гэты Васіль Быкаў. Стужка знятая на яго радзіме, на Віцебшчыне, ва Ушацкім раёне, непадалёк ад вёскі Бычкі, дзе дагэтуль стаіць родная Васілёва хата, даўно ўжо — пасля смерці маці пісьменніка — зачыненая на замок, спарахнелая, чорная ад часу. І ад гора, якое неаднойчы гасцявала на гэтай зямлі. Ды і гасцюе... Бо гора — гэта не толькі нястача, не толькі ваенная навала, не толькі смерць блізкіх у любыя часы, гэта яшчэ і крыўда роднай мовы, і крыўда народа, у якога адабралі ягоную самасць і дагэтуль не даюць, перашкаджаюць ёй адрадзіцца, гора — гэта няпэўнасць далейшага лёсу гэтай зямлі і яе народа, якога некалі прымусілі забыць Бога, і здаецца, што Бог з тае пары адвярнуўся ад яго. Гора — гэта калі людзі самі не маюць патрэбы ў нешта верыць — у высокае, вечнае, не жывуць — існуюць.

Пра гэта думае, пра гэта разважае ў стужцы Васіль Быкаў. Пакутуе душою. І мы разам з ім пакутуем, думаем, разважаем. Разам з ім усміхаемся нейкаму ўспаміну дзяцінства, разам з ім згадваем вайну, тых хлопцаў, якія сваёй смерцю падоўжылі наш век, аплацілі наша жыццё. У імя чаго?

Быкаў не дае адказаў, шчыра прызнаецца, што ён іх не ведае. Нібы кажа: пашукайма разам адказ на пытанне — у імя чаго мы жывем? Як жывем? Што робім? І ці выжывем? Ці адродзімся калі-небудзь як народ, як нацыя, як гістарычная індывідуальнасць, імя якой — Беларусь?

Задумаў гэтую стужку і напісаў сцэнар Рыгор Барадулін, паставіў на студыі "Летапіс" рэжысёр і аператар Сяргей Пятроўскі — зняў хораша, спакойна, з тым роздумам і засяроджанасцю, якія ўласцівыя беларускай мастацкай манеры. Выдатныя кінапартрэты пісьменніка, і добра, што яны чорна-белыя. Стужка толькі выйграе ад таго, што яна чорна-белая, строгая, як малюнак пяром. Гэта, так бы мовіць, псіхалагічная, філасофская кінагравюра — своеасаблівая ілюстрацыя да быкаўскай прозы.

Нездарма так горача апладзіравалі фільму шматлікія гледачы — настаўнікі беларускіх школ сталіцы, для якіх кінатэатр "Змена" і наладзіў гэты прагляд. Апладзіравалі фільму і самому Васілю, які прысутнічаў на праглядзе. І аўтару сцэнара Рыгору Барадуліну. І, вядома ж, Сяргею Пятроўскаму, — за яго майстэрства і рэжысёрскае, і аператарскае.

Адна з настаўніц, якая прыняла ўдзел у абмеркаванні стужкі, выказала пісьменніку папрок, што ён ці не задужа песіміст. Думаю, адказ на гэты папрок дае сам факт такога гарачага і зацікаўленага прагляду. Бо ён ператварыўся хай сабе ў маленькае, так бы мовіць, мясцовае, але свята — свята адраджэння, за якое і творамі сваімі, і роздумам сваім — часта горкім — змагаецца Васіль Быкаў. Нашае суперажыванне яму таксама на карысць адраджэнню...

**Валянцін ТАРАС**

# ШТО ЗАСТАНЕЦЦА АД РЭШТКАЎ?

**Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь сп. ЧЫГІРУ М.М.**

Пытаньне пра захаваньне апошніх сапраўдных помнікаў нашай гісторыі і культуры, што засталіся ў Верхнім горадзе — гістарычным цэнтры Менска, патрабуе самай пільнай увагі грамадства і асабліва службовых асобаў. Заказчыкам усіх работ і адпаведна адказным за ўсё, што там адбываецца, зьяўляецца акцыянернае таварыства "Стары Менск". Практычна на ўсіх помніках, на якіх мусяць праводзіцца рэстаўрацыйныя працы, парушаюцца элементарныя мэтодыкі ў гэтай галіне. А ў большасьці выпадкаў пад шырмай рэстаўрацыі будынкі XVIII-XIX стст. цалкам зьнішчаюцца (па вул. Інтэрнацыянальнай № 21/3, 25, 27, 33а, Герцэна 2а, 4,6,8 і па Музычным завулку 1).

На сёньняшні дзень у Верхнім горадзе захаваўся толькі адзін помнік канца XVIII стагодзьдзя — жылы дом N 31 па вул. Інтэрнацыянальнай, дзе цалкам захавалася аўтэнтычнасьць канструкцыяў. Рэалізацыя праэктна-каштарыснай дакумэнтацыі па яго рэканструкцыі і прыстасаваньні пад філію бібліятэкі прывядзе да страты каштоўнага помніка, як адбылося зь іншымі будынкамі Верхняга горада.

Акрамя таго ёсьць зьвесткі, што ў двары кляштара базыльянак плануецца ўзьвядзеньне буйнога сучаснага комплексу з падземнымі гаражамі. Гэта супярэчыць першапачатковай канцэпцыі рэгенерацыі Верхняга горада і прывядзе да значных стратаў, зьнішчэньня культурнага слоя.

Да гэтага часу не праведзена кансэрвацыя рэшткаў муроў і часткі росьпісаў разбуранага летась дома № 2 па вул. Герцэна.

Таму мы патрабуем:

1. Спыніць зьнішчэньне Верхняга горада як комплекснага помніка архітэктуры, горадабудаўніцтва і археалогіі.

2. Прыцягнуць да адказнасьці асобаў, што бралі ўдзел у разбурэньні нашых каштоўнасьцяў, і чыноўнікаў, якія спрыялі гэтаму.

3. Тэрмінова правесьці кансэрвацыю муроў, якія цудам захаваліся, а таксама рэшткаў жывапісу XVIII-XIX стагодзьдзяў (дом № 2 па вул. Герцэна).

4. Распрацаваць навукова абгрунтаваны праэкт рэстаўрацыі дома № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай, які б прадугледжваў поўнае захаваньне і кансэрвацыю ўсіх яго гістарычных канструкцыяў, а ўжо пасьля гэтага вырашаць пытаньне пра яго рэстаўрацыю і далейшае выкарыстаньне.

5. Не праэктаваць і не будаваць ніякіх падземных ці наземных сучасных пабудоваў у Верхнім горадзе.

6. Правесьці грамадзкае абмеркаваньне праэктаў рэканструкцыі Верхняга горада і фактаў парушэньня заканадаўства па ахове помнікаў у гістарычным цэнтры Менска з удзелам дзяржаўных структураў, грамадзкіх установаў, творчых саюзаў і ўсіх зацікаўленых асобаў.

**М.КУПАВА,**
**старшыня Камісіі па культуры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**

# ЯК МАЕЦЕСЯ, КАЛЕГІ?

17 снежня ў Міністэрстве культуры і друку адбылася чарговая калегія па пытанні асвятлення дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальна-культурнага адраджэння ў перыядычных выданнях.Агляд па выніках праверкі супрацоўнікамі міністэрства работы перыядычных выданняў Брэсцкай вобласці зрабіў начальнік упраўлення сродкамі масавай інфармацыі У.Ламека.

Сёння ў вобласці выдаецца 30 газет, 20 з якіх на балансе ўпраўлення інфармацыі. Гэта 2 абласныя і 18 раённых і гарадскіх.

Агульны разавы наклад усіх газет складае 268207 экземпляраў, што на 9,2% менш, чым у мінулым годзе. Як падкрэсліў у сваім дакладзе начальнік аддзела інфармацыі Брэсцкага аблвыканкама сп.Тамашэвіч, "агульную колькасць газет па вобласці складаюць: рэспубліканскія — 55%, абласныя, гарадскія і раённыя — 38% і краін СНД — 7%". У сваёй прамове ён адзначыў, у прыватнасці, сістэмнасць у асвятленні праблематыкі беларускай гісторыі і нацыянальна-культурнай спадчыны ў адзінай беларускамоўнай абласной газеце "Народная трыбуна". Але, як высветліў наш карэспандэнт пры размове з рэдактарам гэтай газеты сп.Пратасевічам, "у газеты ёсць пэўны шанс трапіць за мяжу выжывання. Гэтае адзінае абласное беларускамоўнае выданне ў заходнім рэгіёне Беларусі звярнулася з лістом да Міністэрства культуры і друку і абласнога Савета дэпутатаў з просьбай разгледзець пытанне аб бюджэтным фінансаванні. За амаль тры гады свайго існавання газета мае сваю ўласную канкрэтную канцэпцыю, частка якой — адраджэнне нашай спадчыны, культуры і мовы.Наклад яе больш за 7000 экземпляраў."

Але не толькі праблемы фінансавання мясцовай прэсы былі заслуханы на калегіі. Сур'ёзныя пытанні ўздымаў старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза журналістаў Беларусі сп.Ерамінок. Ён звярнуў увагу на парушэнне перыядычнасці выхаду газет,гаварыў пра неабходнасць перадачы будынкаў рэдакцый на баланс заснавальнікаў,пра "інфармацыйны голад" з-за несвоечасовага паступлення свежай інфармацыі ў вобласць з прычыны адсутнасці сучаснай тэхнікі сувязі ў рэдакцыях. На заканчэнне пасяджэння міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч унёс прапанову, каб у рэзалюцыю быў уключаны адзін з пунктаў, які б прадугледжваў распрацоўку палажэння аб правах і абавязках дзяржаўных органаў, якія хочуць быць заснавальнікамі таго або іншага перыядычнага выдання. І, спаслаўшыся на Закон аб друку, дадаў, што варта было б распрацаваць у сваю чаргу і крытэрыі, па якіх выданням можа быць нададзены статус дзяржаўных.

Канчатковая рэзалюцыя калегіі аб асвятленні праблем дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальна-культурнага адраджэння ў перыядычных выданнях Брэсцкай вобласці будзе выпрацавана з улікам своеасаблівасці гэтага рэгіёна рэспублікі. Саму ж дзейнасць органаў інфармацыі вобласці калегія Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь прызнала здавальняючай.

**Наш кар.**

# БЕНЕФІС КАМЕРНАГА СПЕВАКА

Той, хто думае, што спяваць на канцэртнай эстрадзе значна прасцей, чым на опернай сцэне, памыляецца. Камерныя спевы маюць сваю асаблівую тонкую спецыфіку. Калі салісту оперы дапамагаюць аркестр, адпаведны касцюм, грым і тэатральныя дэкарацыі, то выканаўца камернай музыкі, застаючыся сам-насам з публікай, можа спадзявацца толькі на падтрымку аднаго партнёра - піяніста, ды на ўласнае майстэрства.

Сярод камерных спевакоў нашай краіны прыкметна вылучаецца заслужаны артыст Беларусі Мікалай Багданаў. Беларус паходжаннем, скончыў вакальны факультэт Кіеўскай кансерваторыі (клас вядомага прафесара Д.Еўтушэнкі). Ён з 1972 года працуе салістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Валодаючы даволі моцным лірыка-драматычным барытонам шырокага дыяпазону і прыемнага тэмбру, гэты спявак несумненна мог бы ўпрыгожваць спектаклі любога музычнага тэатра, выконваць галоўныя партыі.

У гэтым не цяжка было пераканацца, слухаючы ў камернай зале на Залатой горцы бенефісны канцэрт Мікалая Багданава, арганізаваны нашай філармоніяй з нагоды 25-годдзя ягонай творчай дзейнасці. Падрыхтаваная салістам разам са сваім пастаянным канцэртмайстрам Валерыем Баравіковым юбілейная праграма мела рэтраспектыўны характар.

Відаць, каб распецца, М.Багданаў пачаў выступленне з мілагучных народных песень ("А ў полі вярба", "Ніч яка місячна", "Выйду я на вуліцу"), у нейкай ступені з'яднаных зместам і музычна-інтанацыйным ладам.

У другім аддзяленні М.Багданаў пасляхова выступіў як сапраўдны оперны спявак і цудоўны выканальнік неапалітанскіх песень. Горача, тэмпераментна гучалі ў яго інтэрпрэтацыі знакамітая арыя Рыгалета з аднайменнай оперы Дж.Вердзі, складанейшы па псіхалагічным настроі маналог Яга з оперы "Атэла" таго ж кампазітара, арыета Млынара з рэдка выконваемай оперы Д.Паізіела "Цудоўная млынарка".

Цёплы прыём слухачамі спевака-юбіляра, які шмат, неабмежавана спяваў на "біс", яскрава сведчыць, што ён знаходзіцца ў росквіце мастацкага таленту.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

# НА РОЎНЫХ У СТРАСБУРГУ

23 студзеня распачаўся візіт міністра культуры і друку Анатоля Бутэвіча ў Страсбург. Мэта візіту — удзел у чарговай 63-й сесіі Савета Еўропы па культурным супрацоўніцтве. Яна працягнецца з 24 па 26 студзеня. У 1993 годзе наша дзяржава падпісала афіцыйныя дакументы Еўрапейскай канвенцыі, распрацаваныя яшчэ ў 1954 годзе, што ўпершыню дало магчымасць Беларусі ўвайсці ў Савет Еўропы па культурным супрацоўніцтве і заявіць пра сябе як пра цывілізаваную еўрапейскую краіну.

**Наш кар.**

# ВІНШУЕМ!

Канун Новага года па старому стылю шмат для каго стаў гістарычнай падзеяй. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў шэраг указаў аб наданні ганаровых званняў. За вялікі ўклад у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва і падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў мастаку-жывапісцу, прафесару Беларускай акадэміі мастацтваў Маю Вольфавічу Данцыгу нададзена ганаровае званне народнага мастака Беларусі.

За значны ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва званне народнага артыста Беларусі ўдастоены мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Валеры Раеўскі і артыстка Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра Беларусі Вольга Дзянісава-Клебановіч.

СІТУАЦЫЯ

# ЧЫМ СЛОВА НАША ПРАРАСТАЕ?

*(Працяг. Пачатак на стар.1)*

Так, крызіс глыбока ўеўся ў матэрыяльныя і духоўныя сферы жыцця краіны. Можна з разуменнем паставіцца да тэзы, быццам на пусты страўнік не проста вывесці на належную вышыню палёт творчае думкі. З іншага ж боку, варта памятаць, што найлепшыя творы мастацтва, духоўнасці, пры пэўных, зразумела ж, выключэннях, былі створаны не дужа спешчанымі лёсам творцамі. Таксама варта не забывацца, што менавіта духоўна-культурным грунтам вымашчаны шлях грамадства да цывілізаванага яго стану. Гэта без намаганняў прасочваецца на прыкладзе гістарычнага лёсу многіх далёкіх і блізкіх нашых суседзяў па сусветнай супольнасці.

Сёння пра неабходнасць мацаваць духоўнасць, мараль гаворыць, здаецца, кожны, хто хаця на каліва заклапочаны ўласным лёсам, будучыняй сваіх родных (найперш дзяцей), сваёй дзяржавы і, калі весці размову пра яшчэ больш высокія матэрыі, свету. Фонды, грамадскія арганізацыі, палітычныя ўтварэнні, уладныя і кіраўнічыя структуры навыперадкі абвяшчаюць сябе найпершымі руплівцамі аб чысціні чалавечае душы. Ды часам гэта шматгалосая гамана нагадвае сітуацыю вядомай крылоўскай байкі пра лебедзя, рака і шчупака. Такая адцэнтрабежная тэндэнцыя ўзнікае найперш з-за адсутнасці аб'яднаўчай ідэі, на грунце якой утварыліся моцныя дзяржавы, якіх сёння мы, няхай і з прыхаванай зайздрасцю, называем цывілізаванымі. Ва ўсіх народаў такім паяднаўчым чыннікам былі дзяржаўніцкая і нацыянальная ідэі, якія і сталіся трывалым падмуркам нацыянальнай дзяржавы.

Як бачым, нават тэрміналагічныя аспекты не дазваляюць у перспектыве бачыць нешта іншае. Калі будучыня Беларусі бачыцца некаму інакай, то й гаворка павінна весціся з выкарыстаннем іншай тэрміналогіі. Царскі рэжым XIX стагоддзя або пілсудчыкі 20-30-х гадоў у прыватнасці паступалі сумленна, не дапускаючы і думкі пра беларускую дзяржаву, а называючы нашы землі "Северо-западным краем" у выпадку першым або "крэсамі всходнімі" — у другім. Сённяшнія ж "дабрадзеі" беларушчыны, прыкрываючы свае сапраўдныя намеры, навыдумлялі такіх тэрміналагічных "валяпюкаў", што простаму чалавеку разабрацца ў іх сутнасці проста немагчыма. Гаворыцца пра "спрадвечную дружбу ды культурную еднасць", "немагчымасць існавання адзін без аднаго", усчыняецца тыпалагічны гармідар вакол "рублёвых зонаў", на рэгіянальным узроўні прыплятаецца нейкая "Етвызь", апошнім часам мусіруецца гаворка яшчэ і пра "белорусское казачество" з "атаманом Витебским и Приднепровским"... Ды толькі ў большасці выпадкаў за гэтымі словаспляценнямі прасочваецца імкненне маляваць сусвет у выключна адзіны колер, які бачыцца стваральнікам такіх "шэдэўраў". Але трэба нагадаць падобным "вынаходнікам", што дарога гісторыі надзвычай пакручастая і далёка не заўсёды дыхтоўна забрукавана. Дзеля абгрунтавання ўласнага бачання развіцця падзей варта было б спаслацца на рэальныя факты і сведчанні. Пры вольнай жа трактоўцы нашай мінуўшчыны і пабудове на гэтым хісткім грунце перспектываў развіцця краіны кожны з нас з лёгкасцю дакажа, што ў аснове ўтварэння беларускай нацыі ляжаць прыкметы нейкага з плямёнаў дакалумбавай Амерыкі і з гэтай прычыны будучыня наша вось такая і такая.

Некалі "незабыўны" Лаўрэн Абэцадарскі моцна недалюбліваў археалогію, вызначаючы прадметам яе вывучэння скопішча начных гаршкоў на гарадской звалцы. Прычыны такой нелюбові ды кепікаў зразумелая. Самаахдана раўняючы звесткі пра беларускую мінуўшчыну па "линии партии", пастыр юначых душаў з высокім прафесарскім тытулам у разгортванні археалагічных доследаў інстынктыўна адчуваў пагрозу канцэпцыі гісторыі Беларусі, увагнанай ім у імперскую рамку. Ён нібы прадбачыў, што назапашаны археолагамі за гады даследаванняў матэрыял непазбежна дазволіць беларусам вылезці з лапцей, у якія абувалі нас усе, хто бачыў у нашай зямлі толькі выгодную для задавальнення ўласных інтарэсаў ды прыдатную для пражывання тэрыторыю. Сведчанні ж пісьмовых крыніцаў і працы нават самых аўтарытэтных даследчыкаў можна было або замоўчваць, або трактаваць у залежнасці ад кан'юнктуры канкрэтнага перыяду.

Калі прыняць раздзел гістарычнай навукі, які вывучае найперш звесткі пісьмовых крыніцаў, за тэорыю, а археалогію, прадметам вывучэння якой з'яўляюцца матэрыяльныя сведчанні жыццядзейнасці чалавека, за практыку, то да месца тут прыгадаць вядомае выказванне: тэорыя без практыкі мёртвая. Так і словы, пазбаўленыя канкрэтнага факталагічнага апірышча, здатныя ўтварыць толькі пустую, але ж грукатлівую, нібы бубен, абалонку. Разважанні, угрунтаваныя на звестках мінулага і прыкладах дня сённяшняга, вымагаюць асэнсаванага іх успрыняцця. Параўнанне аднаго з другім і дасягненне такім чынам пэўных высноваў патрабуе, бывае, мазольнай працы.

Ці ўсе да яе здатныя?

Мы абкрадалі сябе ўсё жыццё, жывучы ў свеце ілюзій, ігнаруючы аб'ектыўныя законы жыцця. Таму і пакутлівы наш шлях да вышыняў ісціны па пакручаста-скамянелых схілах жыццёвых рэаліяў. Сёння, калі на даляглядзе ледзь бачнае мроіва будучых выбараў, а пасля іх наракаць давядзецца толькі на сябе, трэба памятаць, што нават самая адмысловая музыка на грукатлівых бубнах для Беларусі — не больш як экзотыка далёкіх краёў. Гучанне бухкаючых рытмаў для беларускага вуха было і будзе заўсёды чужым.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ**



**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# Я — СЯМ'Я З АДНАГО ЧАЛАВЕКА

***Бяжым, спяшаемся. Штодня цягнем на сабе торбы, цывілізаваныя на выгляд, а па вазе тыя ж самыя, што і пяць-дзесяць гадоў таму. Усё менш усміхаемся адно аднаму. Намі авалодвае комплекс безграшовасці, як дадатак да комплекса непаўнавартаснасці. Не звяртаем увагі на дробязі, якія як мага больш трапна падкрэсліваюць дэпрэсіўнае становішча нашага грамадства. Ці, наадварот, абвастраюць успрыманне рэчаіснасці...***

Па Беларусі крочыць капіталізм. Гэта я ўсім нутром і кішэняй адчуў, зайшоўшы днямі ў сталічны піўны бар "Свіслач". Піва тут так сабе, ды і закуска вочы не радуе. Затое цэны... Паўлітровы куфель цягне ні многа ні мала, а на 1999 "зайцоў". Вельмі тонкі камерцыйны ход і псіхалагічна на аматараў хмялёвага водару ўздзейнічае.

Рэшту ж тут, як звычайна, даюць не заўсёды і не ўсім...

*

Гадоў колькі таму на нашым беларускім TV-канале глядзеў нейкую перадачу пра энергетычна адмоўныя кропкі Мінска. Вось адна з такіх "чорных плямаў" знаходзіцца ў раёне самага дарагога сталічнага магазіна "Гандлёвы дом на Нямізе". І гэта магу засведчыць асабіста, бо, трапляючы ў супермаркет, нават з месячным заробкам у кішэні, сапраўды адчуваю сябе больш чым ніякавата.

*

Гэтую старую жанчыну я часцяком сустракаю на другім паверсе сталічнага "Цэнтральнага" універсама, у народзе празванага "італьянскім". Яна жыве тут, недзе непадалёку. Дабірацца да іншых крамаў стала ўжо не пад сілу, таму яшчэ па старой звычцы ходзіць ва універсам, арэндаваны італьянцамі. Па яе кішэні тут толькі хлеб, малако ды якая салата айчыннай вытворчасці. Але жанчына ніколі не губляецца сярод стракатых замежных тавараў, а наадварот, трымаецца інтэлігентна, нават з гонарам.

Толькі аднойчы я ўлавіў адчай у яе вачах, калі тая стаяла з пустым кошыкам ля разборачнага аддзела, дзе колькі месяцаў таму яшчэ выкідвалі "народныя тавары": крывянку, ліверку, зэльц...

Тады, напэўна, адзін я змог пачуць з яе вуснаў ледзь улоўнае, сарамлівае: "Ізноўку нічога для жабракоў..."

*

У кнігарні "Светач", што на праспекце Машэрава, з нядаўняга часу палова плошчаў адведзена пад валютны аддзел прамысловых тавараў і сувенірныя вырабы. І таму наведнікі ў большасці сваёй значна не тыя, чым пару-тройку гадоў таму. Рэдкімі тут сталі студэнты — прагныя да ведаў, клапатлівыя матулі, што спяшаюцца прэзентаваць сваму нашчадку якую кніжку. Дарагавата будзе... Заходзяць калекцыянеры-аматары ў прапітках, скуранках і сабалях, для якіх кніга — даніна модзе і аздоба хатняга інтэр'ера.

Аднойчы бачыў, як сюды завіталі людзі ў пагонах з бляхамі на грудзях — ваенны патруль з трох чалавек. Старэйшы па званні адразу з дзелавітым выглядам прыняўся за вывучэнне валютных паліцаў, а хлопцы, учарашнія школьнікі, — за разгляд маляўнічых вокладак мастацкіх альбомаў.

Афіцэру яўна цяжка было ўцяміць, адкуль у ягоных падначаленых з'явіўся ў вачах жывы агеньчык. Ён, неяк збянтэжыўшыся, падышоў да хлапцоў, нібыта добры бацька-камандзір, паляпаў кожнага па плячы, і прамовіў: "Ну, ну, пайшлі. Кніжак ніколі не бачылі, ці што?"

*

Вучыліся з ёй у адной "alma mater", але на розных факультэтах. Прывабная, кампанейская, гаваркая. Часцяком сустракаў яе ў асяроддзі хлапцоў. Ад былога аднакурсніка я даведаўся, што зараз яна кінула ВНУ і зарабляе на пражытак даволі непрыстойнай працай, а дакладней, прастытуцыяй. Але, як кажуць, не вер вушам сваім, бо зайздроснікаў у наш час хапае.

Сустрэўся з ёй выпадкова. На Камароўцы. Гандлявала джэмперам з уласнага пляча. Аказваецца, выйшла замуж (пацверджанне таму — пярсцёнак на руцэ), нарадзіла дачку, зімовую іспытовую сесію здала пасляхова экстэрнам.

А на пражытак сапраўды не хапае.

*

Уздоўж праспекта Скарыны мастакі выстаўляюць на продаж свае карціны, Я ледзь не штодня бываю тут і амаль кожнага сябра гэтай творчай тусоўкі ведаю ў твар. Асабліва вызначаўся адзін высачэнны дзяцюк з заўсёды распушчанымі чорнымі валасамі, нібы ўсім сваім экстравагантным выглядам падкрэсліваючы адносіны да іншай публікі. На маёй памяці ён ужо каля пяці гадоў дыхае паветрам праспекта. Але з цягам часу змяніў кампанію і кліентаў. На тым месцы, дзе раней выстаўляліся творы мастацтва, зараз усталяваны камок "Exchange office", і цяпер з вуснаў хлапца на працягу ўсяго дня гучыць звыклае, даўно стаўшае будзённым — "долары, марачкі".

*

Старая ўсё лета і восень прасядзела ў падземным пераходзе. Зараз сядзець халаднавата. І яна раз-пораз вылазіць з падзямелля і тупае ў бок суседняга кіёска "Марозіва", ля якога нават узімку поўна народу. Сухенькая кабэта сунецца да акенца і... "падайце Хрыста радзі..."

Рэшту за марозіва тут, як ні дзіўна, даюць спраўна, але ненадоўга "зайцы" застаюцца з пакупнікамі, яны пераскокваюць у далонь жабрачкі. "Падайце Хрыста радзі..."

Уся чарга ўзрушваецца і далучаецца да дабрачыннай акцыі, бо кожны, калі што не так, адчуе сабе ў спіну асуджальны позірк. Дзесяць, дваццаць, сорак чалавек.

Марозіва, нарэшце, заканчваецца, і старая зноўку знікае ў сваім падзямеллі. І адтуль ужо працягвае даносіцца: "Падайце Хрыста радзі..."

*

Знаёмы студэнт-гісторык акрамя стыпендыі мае больш ці менш стабільны прыбытак. На цыгарэты. Здае пустыя бутэлькі, што застаюцца пасля вечарыны ад суседзяў па інтэрнаце. Апошнім часам ён навучыўся спраўна гуляць на "курсе" шкляной валюты, кошт якой няспынна расце. Хваліўся, што раней меў на дзень да дзесяці тысяч дадэнамінаваных "зайцоў". Зараз — утрая болей (мінус адзін нуль).

Пасля новага года на заробкі не ездзіць, бо прадбачыць чарговае падаражанне.

*

У кавярні "Духмяная" кубачкі для кавы заўсёды аддаюць спіртам, як пасля дэзынфекцыі, і тытунём, нібыта ў свой час яны саслужылі ролю попельніцы. Пасля нейкіх святаў (колькі ж апошні час іх звалілася на нашыя галовы!) раніцаю заходзіць маладая, прыстойна апранутая жанчына, але ўжо з яўным адбіткам побытавага п'янства на твары. А разам з ёю ў слязах — дзяўчо дзесяці-дванаццаці гадоў.

Жанчына замаўляе шклянку нейкага дарагога віна, не падыходзячы да стойкі, выпівае і накіроўваецца да выхаду са словамі: "Ну вось, а ты плакала. Я ж за дзень нараджэння таты, за ягонае здароўе, дый каб нас з табой не крыўдзіў..."

*

Недзе прачытаў, нібы ў арганізм паступае аднолькавая колькасць кілакалорыяў як ад адной порцыі марозіва, так і ад страваў, ужытых падчас абеду. Я таксама люблю марозіва: сметанковае, пламбір у шакаладнай глазуры... Але пры ўсім тым не адмовіўся б махнуцца з кім на якую порцыю гарачага...

*

Я і не ведаў, што я чалавек сямейны, да таго часу пакуль у газеце "Рэспубліка" за 4 студзеня не патрапіў на вельмі цікавую інфармацыю, а дакладней, цытую: "Инструкция о порядке нормирования потребления и расчётов за электроэнергию с населением в Республике Беларусь" да подпісам міністраў паліва і энергетыкі РБ сп.Герасімава, а таксама жыллёва-камунальнай гаспадаркі сп.Батуры.

Інструкцыя як мае быць, але ж прыведзеная побач табліца не пакінула мяне абыякавым. А дакладней, у ёй прыводзіліся нормы спажывання электраэнергіі для сем'яў, што складаюцца з пяці, чатырох, трох, двух чалавек і (самае цікавае) аднаго чалавека.

Значыцца, хацелася б мне таго ці не, але я таксама чалавек сямейны. Бо мая сям'я складаецца з аднаго чалавека.

*

Мая суседка — цудоўны чалавек. У яе ёсць дыплом аб вышэйшай педагагічнай адукацыі. У беларускай мове плавае, як сякера ў вадзе. Але ж на табе, — выкладае ў школе беларускую мову і літаратуру, а плюс да ўсяго — гісторыю роднай краіны ў сярэдніх класах. І таму, калі ў яе ўзнікаюць праблемы, дык па дапамогу звяртаецца да мяне.

Неяк тэлефануе і пытаецца, як "по-рюсски" шпалеры будуць, а то нібыта ўсё зразумела, а вось слова зачэпістае з панталыку збівае. Пасля наконт "фіранак" дамагаецца ці "заслонаў сакрэтнасці"...

Але больш за ўсё напакутавалася над перакладам слова "шляхта". Ды і адкуль яно ўвогуле ўзялося на нашай зямлі? Пакуль зноў не насмелілася і не затэлефанавала. Дык вось, пасля такога выпадку я пераканаў яе ў карыснасці звяртання да мяне пры малейшай неабходнасці.

Так і набываюць адукацыю яна і яе сорак вучняў.

*

Набыў сабе акуляры — танныя, але модныя. Нішто сабе такія. Галоўнае, надаюць салідны выгляд. Цяпер добра бачу здалёк і свабодна чытаю рэкламныя праспекты і цэннікі ў крамах. І заўважыў, што калі затрымліваюся падоўгу каля якой паліцы, у мяне прадаўцы пытаюцца: "Што вас цікавіць?" І прапаноўваюць свае паслугі.

Раней не прапаноўвалі.

Акуляры зараз нашу не здымаючы.

*

На працу зручней дабірацца сорак трэцім тралейбусам, нягледзячы на тое, што там заўсёды "поўны аншлаг". Таму, напэўна, за шматлюднасць і не любяць яго сталічныя кантралёры.

... Тралейбус збочвае з праспекта Скарыны. Другі прыпынак ад яго — вуліца Камуністычная. А па розныя бакі знаходзіцца Оперны тэатр і штаб Беларускага войска. Тут мне выходзіць. І адным разам, праціскаючыся да дзвярэй, пачуў ад юнака, мабыць, прыезджага, які спрабаваў бліснуць сваімі ведамі перад дзяўчынай аб архітэктурнай забудове Мінска: "Так, а гэта хутчэй за ўсё (меў на ўвазе Оперны) альбо ТЮГ, альбо Ленінка".

А ў маёй галаве маланкай пранеслася думка, што гэтыя маладыя людзі доўга будуць беспамылкова адрозніваць хіба толькі маўзалей ад Крамля...

*

Пачынаю разумець, чаму ў грамадскім транспарце першыя месцы адведзеныя для састарэлых і пасажыраў з дзецьмі. Напэўна, таму, каб мы, седзячы на апошніх, сваім сэрцам маглі адчуць, якой часам незайздроснай бывае старасць, як няўмольна ляцяць гады і наколькі самая бесклапотная пара нашага жыцця — дзяцінства.

**Міхась РАВУЦКІ**

МАСТЫХІН

**ВІНШУЕМ!**

*З 75-годдзем — **Данелію Пятра Аляксеевіча,** жывапісца.*
*З 60-годдзем — **Петэрсона Эльмарта Адэльбертавіча,** мастацтвазнаўцу, педагога.*
*З 50-годдзем — **Скрамблевіча Баляслава Антонавіча,** мастака-прыкладніка.*
*З 50-годдзем — **Шастака Фёдара Віктаравіча,** мастака-прыкладніка.*


В. ЖАЎНЯРОВІЧ. "Лукавіна".

# НЕВЯДОМЫ ЖАЎНЯРОВІЧ

У нядаўніх энцыклапедыях пра Віктара Жаўняровіча нельга было прачытаць ні радка: эмігрант. Апошнім часам імя гэтага мастака згадвалі ў друку Л. Юменаў, Б.Сачанка... Барыс Іванавіч у сваёй публікацыі "Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні" пра майго земляка пісаў наступнае: "Віктар Жаўняровіч. Паходзіць з Дзісеншчыны. Вучыўся ў Віленскай кансерваторыі імя М.Карловіча. Быў знаёмы з Рушчыцам, Драздовічам, Сергіевічам. Яго залічваюць да імпрэсіяністаў. Прымаў удзел ва многіх выстаўках у Парыжы, меў персанальную выстаўку ў Нью-Ёрку. Тэмы твораў у асноўным беларускія".

"Паходзіць з Дзісеншчыны..." А гэта ж своеасаблівая дзяржава ў нашым вялікім Гаспадарстве. Калісьці мела 21 воласць. З Дзісеншчыны і Я.Гушча, і бацька А.Грына... Можна было б скласці энцыклапедыю з біяграфій выдатных людзей гэтага атуманенага невядомасцю культурнага абшару-мацерыка.

А ў вёсцы Грудзінава, што пад мястэчкам Лявонпаль (Мёрскі раён Віцебскай вобласці), у хаце Генадзя Крупенькі я нядаўнім летам аж застыў перад невядомаю карцінаю: надта ж адметнаю падалася яна сярод звычайных, як часцяком бывае ў падкультураных дамах, рэпрадукцый у зашклёных рамках. Гаспадар сказаў, што гэта работы жончынага родзіча — Жаўняровіча Віктара, які яшчэ за польскім часам выехаў у Францыю.

Усё сваяцтва братоў Віктара — Міхаіла і Аляксандра — раз'ехалася па свеце (аказваецца, адзін з братоў працаваў аптэкарам у маім родным Лявонпалі). Спадчына В.Жаўняровіча зараз знаходзіцца не толькі ў Грудзінаве, але і ў Огрэ пад Рыгай, у Гомелі — у Святаслава Генадзевіча Крупенькі. Магчыма, яшчэ ў Друі, а таксама ў Лодзі, дзе жыве дачка Міхаіла.

Спадзяюся, што новыя пошукі прынясуць новыя звесткі пра земляка. А на гэты раз хочацца паказаць хоць і не вельмі ўдалы пераздымак з карціны Віктара Жаўняровіча. Яна была знойдзена ў пустым доме Юзіка Бунты — вартаўніка былога графскага маёнтка Лапацінскіх, калі там займаліся адбудоваю студэнты Інстытута культуры.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

# АДЛІК — АД ГЭТАЕ ВЫСТАВЫ



Выстава, якая праходзіла ў Палацы мастацтва з 28 снежня па 19 студзеня, была даволі незвычайнай — на ёй экспанаваліся творы выкладчыкаў і вучняў адной школы, да таго ж нават не сталічнай. Прыехаўшы з г. Ліды Гродзенскай вобласці на нейкіх паўдня, і вучні, і выкладчыкі СШ № 14 борзда прыбіралі пасля закрыцця карціны — спяшаліся паспець выбрацца да цемнаты ў свой няблізкі шлях.

Гасцей на закрыцці выставы было няшмат — сталіца спешчаная прэзентацыямі і мерапрыемствамі. Мастакоў жа ў гэты дзень не было ўвогуле. А шкада, таму што, выбраўшыся ў Палац, яны — некаторыя — змаглі б убачыць сляды сваіх уласных пошукаў у працах вучняў, якія, як адчуваецца, сочаць за айчынным жывапісам і, як водзіцца, шукаюць сваё праз перайманне.

Прыйшлі ж на выставу пісьменнікі, работнікі адукацыі і міністэрства культуры і друку, Таварыства беларускай мовы. Выступалі і ўручалі падарункі дзецям і выкладчыкам Н. Гілевіч, В. Іпатава, намеснік міністра культуры і друку І.Карэнда (які, дарэчы, шмат паспрыяў адкрыццю выставы), ад Фонду культуры — А.Тоўсцік. Усе яны падкрэслівалі значнасць таго, што ў Лідзе існуе сапраўдны прыцягальны сваёй духоўнасцю цэнтр мастацтва, што яно, мастацтва, нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, развіваецца і паказвае нам, наколькі таленавіты наш народ і наша зямля.

І сапраўды — пры самых розных творчых почырках паглядзець было на што. Вось карціны Уладзіміра Мельнікава: з лёгкасцю і амаль нетутэйшай празрыстасцю аблокаў над любімым ім Нёманам, з партрэтамі людзей Лідчыны, дзе занатаваны яго ўласны духоўны вопыт і пошук вышэйшага, боскага пачатку ў чалавеку. Выкладчык школы, ён вучыўся ў мастацкім інстытуце ў Таліне, мае за плячыма блакады Ленінград, эвакуацыю, вяртанне на радзіму маці — Полаччыну, затым працу на Лідчыне. Беражліва апякаў ён, стараючыся паказаць прэсе сваю вучаніцу — таленавітую васьмікласніцу Іну Карней. Дарэчы, школьнікі — Віка Звонік, Іна Станюк, Вольга Лук'яновіч, Сяргей Якубоўскі і іншыя — экспанаваліся нароўні са сваімі выкладчыкамі, і ў гэтым і ёсць сапраўднае патрабаванне мастацтва, дзе не бывае ўзросту ці становішча, а ёсць толькі адно — Талент.

І нездарма Ніл Гілевіч падкрэсліў, што, можа быць, для многіх з іх гэтая выстава пачне адлік будучых біенале, будучых сустрэч і поспехаў...

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**





*На здымках:*

удзельнікі выставы;
А. ВАРАКСА, выкладчык СШ № 14 з сынам Кірылам;
выкладчык СШ № 14, мастак У. МЕЛЬНІКАЎ з вучаніцай І. КАРНЕЙ;
"Дождж у горадзе" — работа Каці ЛІШЫК (12 гадоў).

# СМУТКУЮ...

Зусім нядаўна адышлі ад нас Уладзімір Мудрогін, Анатоль Ткачонак, Васіль Хмялеўскі, Уладзімір Кузняцоў... І вось яшчэ адна страта — Мікалай Аляксеевіч Рыжанкоў. І ўсё, што адбываецца і будзе адбывацца з яго краінай, мастацтвам, з тымі, каго ён любіў,— зараз усё гэта ўжо без яго, ён завяршыў свой зямны шлях. Але думкай прымаць гэта немагчыма, я не магу падумаць, што ён аддзяліўся ад нас, жывых. У сваім нядоўгім жыцці, ён паспеў шмат, больш за 30 гадоў аддаў любімай скульптуры. Я ўспамінаю, з якою ўпартасцю ён працаваў над вобразам Маці-патрыёткі ў жодзінскім манументе, над мемарыяламі на Віцебшчыне, над помнікамі ў іншых рэгіёнах рэспублікі, над станковымі кампазіцыямі і партрэтамі для выставак. Яго майстэрня, што па вуліцы Сурганава, заўсёды была адчынена для ўсіх, хто жадаў бачыць яго творы. Мікалай Аляксеевіч, чалавек шчырага сэрца, быў заўзятым абаронцам духоўнасці нашай культуры, не прымаючы ў мастацтве і жыцці ніякага фальшу і кан'юнктуры. І ў той жа час ён быў вельмі спагадлівым і вясёлым з пранізлівым пачуццём таварыскасці.

Знікаюць майстры — застаюцца музыка іх непаўторнай мастакоўскай мовы, іх пластычная інтанацыя, іх патрабавальны погляд. Застаецца культура... І вечная падзяка Мікалаю Аляксеевічу Рыжанкову за гэта.

**Барыс КРЭПАК**



# ВАСТРЫНЯ І ДАЛІКАТНАСЦЬ

Напрыканцы мінулага года ў мінскім Палацы мастацтва адбылася выстава твораў двух цікавых майстроў.

Керамічная скульптура Мікалая Байрачнага заўсёды нечаканая, сацыяльна завостраная. Яго творы нясуць адбітак індывідуальнасці аўтара, стыль якога не зблытаеш ні з кім. "Куды ідзем?" — так называлася адна з кампазіцый мастака, якая экспанавалася ў залах галерэі і сваёй публіцыстычнасцю адказвала на балючыя пытанні нашай рэчаіснасці...

Вадзім Удавенка працуе ў старажытнай тэхніцы "батык", прыўносячы ў яе свае тэхнічныя прыёмы. У ягоных працах вельмі тонка, далікатна суіснуюць жывапіс і дэкаратыўнае мастацтва. Традыцыйна "жывапісныя" жанры — партрэт, карціну, пейзаж — ён вырашае сваімі арыгінальнымі сродкамі, уласцівымі толькі батыку. Нават складаныя біблейскія матывы знайшлі ўвасабленне ў роспісе па тканіне.

**Надзея ЗЕЛЯНКО**





*На здымках:* **М. БАЙРАЧНЫ.** "У самы поўдзень", "Ідэнтыфікацыя". **В. УДАВЕНКА.** "Знішчэ з крыжа".

**Фота Г. ЖЫНКОВА**




Алесь АРКУШ

# СПРОБА МАНІХФЭСТУ

Беларуская літаратура сьцішылася ў чаканьні Генія. Нібыта ўсё сьведчыць аб тым, што ён вось-вось прыйдзе: зьліквідавана цэнзура; хоць пакрысе, але набірае моц беларускасьць; на двары пераломна-гістарычная часіна (гісторыя падказвае, што нараджэньню Генія спрыяюць вялікія сацыяльныя зрухі); з'яўляюцца новыя літаратурныя выданьні. Адышоўшая перабудова нічога не дадала да сказанага раней сучаснымі пісьменьнікамі. У сталах аказалася пуста. Усю надзею ўсклалі на чакаемага Генія. Маўляў, толькі ён здолее зьдзейсьніць цуд. Катарсіс Беларускага Духу.

Але хутка скончыцца XX стагоддзе, а Генія ўсё няма. Вось ужо й моладзь у тоўстых беларускіх часопісах пачала скардзіцца на няўвагу чытачоў і ўрада. Наклады падаюць, чытачы лістоў пісьменьнікам ня шлюць, жанчыны кветкамі не закідваюць, ганарары мізэрныя. Што за жыцьцё!!!

А мы кажам — жыцьцё файнае, пішуцца вершы, лёгка дыхаецца, нас паважае літаратурны сьвет, наперадзе вялікая справа, мы самі гаспадары сваіх лёсаў!

Хто такія мы? Сябры Таварыства Вольных Літаратараў.

Мы больш *ня верым нікому*. У нас скончылася трываньне. Мы ўпэўніліся, што беларускай літаратурай амаль ніхто не займаўся. Яна лядача існавала ў адведзенай ёй рэзэрвацыі. Ад яе імя сьціпла прамаўляла некалькі "паўпрэдаў". На ўзроўні афіцыйных прыёмаў або фармальных дзён культуры. Маргінальнасьць беларускай літаратуры дасягнула апагею.

Калі мы скантактаваліся з расейскім літаратурным андэграўндам, маскоўскія прадстаўнікі паралельнай культуры зьдзівіліся, што на Беларусі ёсьць штосьці падобнае. А калі яны пазнаёміліся з творамі тэвээлаўцаў — прызналі незалежнасьць беларускай літаратуры (бо да гэтага ведалі толькі пра шклоўскія агуркі ды бадай яшчэ пра Быкава).

Прасьцей было паразумецца з украінскімі калегамі. Хаця трэба зазначыць, што на Украіне дэцэнтралізацыя літаратурнага працэсу пачалася раней, чым у нас. Сёньня на Украіне актыўна дзейнічаюць дзесяткі літаратурных суполак і груп, яны спаборнічаюць паміж сабой і тым робяць літаратурны працэс больш дынамічным і цікавым.

І таму мы гаворым — ня трэба займацца міфалагізацыяй!

Няма чытача? Адна газэта "Звязда" выходзіць накладам больш за 170 тысячаў. Памножце гэтую лічбу на 2 або нават на 3 і вы будзеце ведаць, колькі чытачоў амаль штодзень чытаюць па-беларуску. Ці выйшла ў вас хоць адна беларуская кніга гэткім накладам?

Малыя ганарары? Напішыце хаця б адну кнігу, якая разышлася б стотысячным накладам і вы зразумееце, што ганарары трэба зарабляць, а не прасіць.

Маскультура прыціскае сапраўдную культуру? Да Беларусі гэтая тэза ўвогуле не датычыцца. Наадварот — трэба ствараць беларускую маскультуру. Аднак, як ні дзіўна, на Бацькаўшчыне сёньня прасьцей рабіць элітарную літаратуру — мадэрновую паэзію, філасафічную прозу, альтэрнатыўную драматургію. Па-першае, аматар беларускага прыгожага пісьменства — гэта пераважна інтэлігент, якога ня вабяць "эмануэлі" і "анжалікі". Па-другое, ствараючы альтэрнатыўную літаратуру, ідзеш па цаліку і гэта выклікае цікавасьць да твайго шляху як у роднай хаце, так і ва ўсім сьвеце (таму так зацікавіліся ў Маскве "рысасловамі" Людкі Сільновай, таму так хутка разыходзяцца зборнікі сэрыі "Паэзія новай генэрацыі").

Карацей, сёньня на Беларусі самыя спрыяльныя часы для літаратуры. Таму зноў вяртаемся да Генія. Так прыйдзе ён ці не? Ён не прыйдзе, пакуль мы не пераўсталюем сыстэму ладжаньня літаратурнага працэсу. Мы зьвяртаемся да моладзі. Бярыце адказнасьць на сябе. Стварайце літаратурныя суполкі, аб'ядноўвайцеся па эстэтычных, канцэптуальных або якіх іншых схільнасьцях і задачах. Стварайце свае выдавецтвы, друкарні. (У адной Варшаве каля 500 выдавецтваў.) Мы адмыслова больш нікога не прымаем у ТВЛ. Мы ня хочам ствараць другога "Маладняку". Праяўляйце сваю ініцыятыву. Спаборнічайце з намі. Мы гатовыя ўзгадняць з вамі дзейнасьць, даваць парады і нават дапамагчы з друкаваньнем кніг. Але кнігі гэтыя мусяць стаць адметнымі падзеямі на Бацькаўшчыне.

Беларускага Генія мы выхаваем самі. Мы створым яму спажыўную глебу. Мы запоўнім усе культуралягічныя нішы, пасьля чаго беларуская культура пазбавіцца нямогласьці.

Магчыма, гэта задужа саманадзейна й гэткая катэгарычнасьць (або франдзёрства) шкодзіць беларускай літаратуры. Аднак паглядзім праўдзе ў вочы — у сусьветным літаратурным архіве мы практычна адсутнічаем. Адсутнічаем не таму, што ў нас не было кандыдатаў на залічэньне ў архіў, а з-за нашай няздольнасьці праводзіць уласную літаратурную й культуралягічную палітыку. Нават чарнобыльская бяда ня "выпхнула" з Беларусі твор сусьветнага гучаньня.

Адсутнасьць унутранага цывілізаванага літаратурнага мэханізму робіць беларускую літаратуру яшчэ больш лякальнай і муміфікуе яе. (Адсюль і няўвага чытачоў.) Калі нават і зьяўляецца таленавіты твор, дык "агучыць", "прачытаць" яго не атрымліваецца. Ня кажучы ўжо аб тым, каб вынесьці яго на сусьветны літаратурны рынак. Ні беларускі Пэн-клюб, ні Скарынаўскі цэнтр, ні "Бацькаўшчына", ні тым больш СП ня могуць гэта зрабіць. Бо пры кволай структураванасьці цяжка вызначыць раўнадзеючы вэктар. Трэба каб было больш суб'ектаў літаратурнага працэсу, што дазволіць дакладней вымалёўваць гэты вэктар і пазьбягаць лабіраваньня "дохлых" літаратурных праектаў.

Прысьпешвае нас ствараць новыя літаратурныя структуры і тое, што ўсе сёньняшнія афіцыйныя беларускія літаратурныя праэкты разьлічаны на рэй пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня, якія, на жаль, ня маюць ніякіх шансаў на сусьветны архіў (а гэта сьмяротная небясьпека для нашага прыгожага пісьменства). Тое, што яны ня ўмеюць эфэктыўна выкарыстоўваць дзяржаўныя інвэстыцыі ў літаратуру, сьведчыць пэрманэнтнае чэзьненьне "Бібліятэкі часопіса "Маладосьць" (за два апошнія гады ніводнай зьявы).

"Наша ніва", "Калосьсе", сэрыя зборнікаў "Паэзія новай генэрацыі", гэтая канфэрэнцыя яскрава пераконваюць, што трыццацігадовыя здольны самастойна, прафесійна праводзіць нацыянальную літаратурную палітыку. Але гэтых новых структураў замала. Іх трэба шматкроць больш. У 1995 годзе іх колькасьць павялічыцца ў некалькі разоў. І гэта ўсяляе аптымізм.

Няхай жыве беларуская літаратура!

# АКТУАЛЬНАСЦЬ АКТУАЛЬНАГА

Гэты нумар "ЗНО" цалкам складзены з тэкстаў удзельнікаў і гасцей* міжнароднай канферэнцыі "Альтэрнатыўная літаратура. Паасобныя намаганні да агульнай мэты. Новыя імёны новай Усходняй Еўропы", якая адбылася 19-20 лістапада 1994 года ў Наваполацку. Ладзіла канферэнцыю Таварыства Вольных Літаратараў пры фінансавай падтрымцы фонду Сораса — Беларусь.

Асабіста для мяне (ды, пэўна, не для мяне аднаго) гэты літарацкі збой выпадае з шэрагу шараговых літаратурных падзей. І справа тут не ў прыметніку "міжнародны" (які ад пампезнасці ратаваў хіба прадстаўнік Албаніі, бо цяжка пакуль лічыць замежнікамі расейцаў ды ўкраінцаў), і нават не ў тым, што ці не ўпершыню падобнае мерапрыемства ініцыявалася і праводзілася без згоды і падтрымкі адзяржаўленых літаратурных структур, а ў тым, што наваполацкія спавешчанні, дыскусіі, палемікі пераважна адбываліся ў параметрах, набліжаных да сучаснага эстэтычнага мыслення, і ў пэўнай меры ахоплівалі праблематыку, як уяўляецца, *сёння актуальную* для беларускай літаратуры.

Брак сучаснага мыслення і актуальнай праблематыкі, якая б разгорталася ў полі напругі гэтага мыслення — падаецца ці не найбольшая загана белітаўскай цяперашчыны, бо літаратура, як і ўсё, што адбываецца, адбываецца адно ў сілу і з прычыны сваёй актуальнасці. Страта літаратурай пачуцця актуальнасці — гэта страта вектара накірунку і тым самым перспектывы руху; і тады не мае значэння — стаяць на месцы ці рухацца, бо куды б ты ні рухаўся, заўсёды ідзеш не туды (той, хто падоўгу вандраваў сярод незнаёмых і бязлюдных мясцінаў, добра ведае гэтую сітуацыю)...

Разам з тым не станем перабольшваць значэнне наваполацкай канферэнцыі, урэшце, яна толькі абазначыла наяўнасць у нашай літаратуры падставы да актуалізацыі знакаў перспектывы, як прадумовы ўсялякага руху.

Іншая рэч, што з гледзішча адэпта асветніцка-эвалюцыянісцкай традыцыі, пэўна, лепей увогуле не рухацца, чым рухацца насустрач такім жахам, як постмадэрнізм (транслагізм), шызафрэнія (паранойя), архіў (муміфікацыя), дэканструкцыя (руіны) і г.д. і да т.п.

Бадай, можна было б заспакоіць "традыцыяналіста" тым, што гаворка пакуль ідзе не столькі пра змену структуры вартасцяў, колькі пра змену сістэмы тэрмінаў, што, скажам, "патрапіць у літаратурны архіў" гэта ў нас амаль тое самае, што і "з усім народам гутарку весці", што шыльда "Шызамайстэрня" (не ў знаку, а ў значэнні знака) лічы нічым не адрозніваецца ад шыльды "Творчая майстэрня", што ягамосць постмадэрнізм (па-беларуску) — гэта ўсяго толькі чарнавы варыянт сацрэалізму, які цяпер не абавязкова (а мо нават і не пажадана) чысціць, выпраўляць ды перапісваць "набело"...

Аднак, хаця апісанне сітуацыі, здаецца, збольшага і супадае з рэальным станам рэчаў, суцяшаць уяўнасцю пагрозы "традыцыяналіста" было б не шчыра, бо ён мае рацыю ў сваёй перасцярозе да ўсіх гэтых паняткаў-"пачвар" як да "знака бяды".

Рэч у тым, што там, дзе літаратурны рух адбываецца нязмушаным, натуральным чынам, спачатку выспявае з'ява, падзея і толькі затым яна атрымлівае найменне, панятак, ды, урэшце, катэгорыю — пасля чаго ўтаймоўваецца ў эйдычным суплёце ідэй.

У нашым выпадку ўсё не так. Мы — гэта відавочна — сёння належым да тых, хто ідзе последам за выперадзіўшымі. Таму канструяванне (у герменеўтычным сэнсе) літаратурнай прасторы адбываецца дакладна наадварот: на шляхах последу мы найперш сустракаемся з найменнямі, паняткамі, тэрмінамі падзей — азначаемымі, якія самі з сябе ініцыююць (а часам і правакуюць) на вымыканне з утоенасці ў нашым культуралагічным ландшафце рэальна-наяўнай падставы для саміх сябе.

Адным словам, засвоеныя намі новыя, у выперадзіўшых нас культурах народжаныя знакі, неўзабаве становяцца прычынамі тых падзей, якія яны павінны азначаць. Вось якраз на гэтай мяжы, паміж наяўнасцю новага знака і ўжо акрэсленай ім (на плоскасці семіятычнай прасторы) фігуры паўставання тоеснай яму падзеі, мы і знаходзімся.

Падзея яшчэ толькі пачынае ўнаяўвацца, прыўздымацца над сваёй латэнтнасцю, яна пакуль у сваім значэнні не большая за свой знак — і таму можна суцяшаць і суцяшацца, што гэта не змена структуры вартасцяў, а толькі перамена тэрміналагічнай сістэмы, але ці не на лепшае было б выразна ўсвядоміць, што адбываецца папраўдзе.

Уласна мне ў стратэгічным плане найбольш істотным падаецца тое, што літаратура канчаткова пакідае этычную прастору і мяркуе цалкам атабарыцца на эстэтычных разлогах. Праўда, на ранейшым месцы за ёй яшчэ нейкі час будзе заставацца колькі там прыкладных функцый (дыдактычная ў адукацыйнай сферы ўсіх узроўняў і да т.п.), аднак ролю генератара духоўнай, ідэалагічнай і маральнай энергіі грамадства яна ўжо болей адыгрываць не будзе — прынамсі, у віочнай перспектыве. А з гэтага (акрамя шмат чаго іншага) вынікае, што нам патроху трэба ўнікаць, адвыкаць, пазбаўляцца ў падыходах і ацэнках літаратурных тэкстаў этычных (маральна сацыялагічных) крытэрыяў, якія непасрэдна ці ўскосна дамінавалі ў нашым бачанні не толькі тэксту ўвогуле,але і кожнага з ягоных фрагментаў — інакш мы патрапляем ў сітуацыю меры без меры, калі "плоскасць" вымяраецца "аб'ёмам" і ўся сума апынаецца ў рэштках.

Паколькі літаратура уціскаецца да памераў сваёй эстэтычнай функцыі, то цяпер ў яе вымярэнні і не можа быць іншых крытэрыяў, акрамя эстэтычных (як у арнамента), што робіць цалкам магчымым увядзенне ў яе цела не толькі імаральнай, а нават і амаральнай фактуры. У пэўным сэнсе ўведзеныя ў цела літаратуры гетэратопныя прасторы хоць у нейкай ступені кампенсуюць страту ёю этычнай прасторы.

Прыгажосць і гульня як механізм дынамізацыі статыкі прыгажосці — вось тыя каардынаты, на якіх, верагодна, наканавана далей палягаць літаратуры. Гэтае наканаванне да згорнутасці ў самой сабе спакваля выцісне літаратуру наўзбоч стратэгіі быцця, скіне яе ў маргіналію, натуральна не пажаданую ні "традыцыйнаму" літаратуру, ні "авангарднаму". Першы такой сумнай перспектывы раней нават не прадчуваў, таму цяпер стаіўся ў эсхаталагічнай нудзе, а другі хоць і прадчуваў, але не даваў сабе веры, бо, наследуючы "гістарычную традыцыю", таксама не ўяўляў сябе без цэнтрапалеглага месца на стратэгіях быцця. Адсюль эпатаж, скандал, правакацыя (што ў тэксце, што па-за тэкстам) — як сродак у барацьбе з уласнай маргінальнасцю, адсюль і перформэнс — пошук хаўрусу з іншымі відамі мастацтва дзеля той самай мэты.

Марныя вымогі. У традыцыйнай і авангарднай літаратуры адна каляіна, з якой нікому не выскачыць. У авангарда тут хіба вось якая перавага: ён паскача-паскача і зразумее, што адбылося, прыме сябе адпаведна наканаванню. І хаця гэтая выснова быццам далёка не заўсёды аргументуецца тут прадстаўленымі тэкстамі (найбольш супярэчаць ёй якраз нашыя "тэвээлаўцы", якія ўжо нібыта спрабуюць на зуб эстэтыку постмадэрна, але ідэалагемна не ведаюць, як адшчапіцца ад тычкі логацэнтрызму), аднак менавіта падзеі накшталт полацкай канферэнцыі даюць падставу спадзявацца, што набліжаныя да поля сучаснага мыслення рэфлексіі дапамогуць нам намацаць актуаліі ўжо маргінальнай рэальнасці як адзіна магчымай перспектывы саміх сябе.

Не ўсё, што адбываецца — актуальна, але што актуальна — тое адбываецца.

*На канферэнцыі падзел на "ўдзельнікаў і гасцей" быў досыць умоўным, але паспрабуем правесці гэтую "мяжу" для "ЗНО": першыя — Алесь Аркуш (да таго ж галоўны арганізатар канферэнцыі), Юрась Барысевіч, Мікалай Байтаў, Юры Гумянюк, Сяргей Мінскевіч, Дзмітрый Кузьмін, Уладзімір Цыбулька; другія — Валянціна Аксак, Алесь Анціпенка (да таго ж прадстаўнік фонду Сораса — Беларусь), Ігар Сідарук, Сяргей Цімохаў.

**Валянцін АКУДОВІЧ**




Юрась БАРЫСЕВІЧ



# ЛІТАРАТУРА І ШЫЗАФРЭНІЯ

Як вядома, адным з першых сімптомаў шызафрэніі з'яўляецца падазрона вялікая ўвага да нязначных і непатрэбных, на погляд большасці, рэчаў. Тут сабраліся адныя інтэлектуалы, нас шмат, і гэта радуе, бо стварае ілюзію, а больш дакладна — галюцынацыю цікаўнасці ўсяго грамадства да элітарнай літаратуры. У нашым выпадку гэта нават галюцынацыя ў квадраце: большасць насельніцтва Беларусі не цікавіцца беларускамоўнай літаратурай, а тым больш — высокаінтэлектуальнай. Мы маем, з аднаго боку, вельмі нешматлікіх чытачоў, а з другога — вялікі імпэт многіх праектаў, некаторых выданняў і асобных аўтараў. Гэта сведчыць, на маю думку, што найноўшая беларуская літаратура ствараецца з надзеяй быць па-сапраўднаму прачытанай калісьці ў лепшыя часы для паразумення з чытачом, без плоці якога аўтар рызыкуе назаўжды застацца беспрытульным прывідам.

Разлік на лепшую будучыню робіць нашую літаратуру чымсьці выключным на фоне постмадэрнісцкіх практык заходнееўрапейскай ці амерыканскай культуры, дзе пісьменнік адмаўляецца быць разумнейшым за чытача і распавядае зразумелымі для большасці сучаснікаў словамі які-небудзь агульнавядомы сюжэт (напэўна, гэта і дазволіла там літаратуразнаўцам абвесціць "смерць аўтара"). Іншая сітуацыя ў Беларусі: тут захаваліся ўмовы для існавання "непрызнаных геніяў" (зрэшты, гэтае калісьці рамантычнае азначэнне і ў нас ужо амаль ператварылася ў клінічны дыягназ).

Адзначым таксама, што ігнараванне законаў рынку, інтэлектуальная партызаншчына ва ўмовах акупацыі грамадства іншамоўнай маскультурай набліжаюць авангардную літаратуру да рэвалюцыйнай практыкі — у тым сэнсе, у якім яе трактуюць Жыль Дэлёз і Фелікс Гватары ў сваім творы "Капіталізм і шызафрэнія". Кідаючы выклік ідэалогіі спажывецкага грамадства, маладыя беларускія нонканфармісты пішуць і выдаюць шызарэвалюцыйныя кнігамашыны, машыны часу, якія супольна набліжаюць да нас новую культуралагічную сітуацыю, калі мы ўсе будзем мець якасна і колькасна іншага чытача.

Цяпер, калі амаль увесь пралетарыят люмпенізаваны, а старая інтэлігенцыя ўжо не ведае, што сказаць людзям, рэвалюцыйны патэнцыял грамадства сканцэнтраваны на полюсе маргінальных груповак. У беларускай літаратуры такой групоўкай сталася, перадусім, Таварыства Вольных Літаратараў. Мэтай яговых удзельнікаў з'яўляецца пераадоленне папулісцкай мовы сучаснай палітычнай і літаратурнай улады, але таксама — пераадоленне дэспатычнай улады самой мовы над паэтам. Дзеля гэтага скарыстоўваюцца самыя розныя стратэгіі пісьма. У першую чаргу гэта пераарыентацыя з гісторыі рэчаіснасці на археалогію сучаснасці і будучыні.

У эпоху дэканструкцыі савецкай імперыі, калі рассыпалася іерархія звыклых каштоўнасцяў, калі ў пошуках уласнага лёсу разасабляюцца народы, людзі і нават складнікі чалавечай душы, напісаць альбо прачытаць эпічны твор, каб адчуць сябе "народным" пісьменнікам (ці "народным" чытачом) амаль немагчыма. Кожны цяпер піша або чытае сам за сябе. Рэчаіснасць, якая сама была найбольш дасканалым соцрэалістычным тэкстам, ператварылася ў шалёны калаж, дзе суіснуюць і паразітуюць адно на адным атавізмы сацыялізму, рэанімаваныя фрагменты традыцыйнай культуры, імпартаваныя парасткі буржуазнага ладу жыцця. Грамадства пачувае сябе няўтульна і няпэўна, бо жыве, сапраўды, паміж руінамі ды закінутымі новабудоўлямі. Каб адлюстраваць дух гэтай эпохі, патрэбны мастак з шызафрэнічна-археалагічнай свядомасцю, а не паранаідальна-гістарычнай, якая пануе яшчэ ў структурах "вітрыннай" беларускай літаратуры.

* * *

Кожны творца, напэўна, атаясамляе сябе альбо з лекарам грамадства, альбо з ягонай хваробай.

Ледзь не ўсё, што нам напісалі майстры сацыялістычнага, а цяпер — нацыяналістычнага рэалізму, надта падобнае да шматтомнага фармуляру "гісторыі хваробы" ўласнага народа і даволі аднастайных рэцэптаў ягонага аздараўлення. Такой стратэгіі пісьма і мыслення прытрымліваюцца і многія сябры ранейшага беларускага авангарду — аб'яднання "Тутэйшыя". Магчыма, першым промнем шызалагічнай думкі над Беларуссю сталася апавяданне "Выспа" Ігара Бабкова (зборнік "Перад маімі вачыма"), дзе аўтар атаясамляе сябе ўжо не з медперсаналам, а з пацыентам сусветнай гісторыі.

Герой апавядання па ўласным жаданні адпраўляецца ў дзяржаўную вар'ятню ў пошуках "горнага паветра і размоў з далікатнымі дактарамі", але неўзабаве разумее, што трапіў у пастку: яго не столькі лечаць, колькі прымушаюць іграць ролю безнадзейна хворага. "І немагчыма давесці, што ты не хворы: усе твае словы аўтаматычна трапляюць у гісторыю хваробы". Ад сапраўднага вар'яцтва героя ратуюць толькі маўчанне (напэўна, мова — агульначалавечая хвароба, а ўся сусветная літаратура, пачынаючы з шумерскага клінапісу, — гісторыя гэтай хваробы), а таксама сон: нябачныя для санітараў уцёкі з гісторыі, якая і пачалася калісьці з падзелу людзей на хворых і лекараў, на вар'ятаў і "розум нацыі".

Гэтае апавяданне пісалася на досвітку перабудовы, калі "шызафрэнізацыя ўсёй краіны" яшчэ была дзяржаўнай палітыкай, а не асабістай справай свабодалюбнага чалавека. Для новай хвалі беларускіх літаратараў, якую спарадзіў распад СССР, штодзённая вар'ятня — ужо не экзотыка і не кашмар, а натуральныя ўмовы жыцця і творчасці. Сябры ТВЛ — першае пакаленне паэтаў, якое моцным голасам заявіла аб сабе ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці і пераходу грамадства да рынкавых зносін. Шмат супольнага яны маюць з еўрапейскай традыцыяй "выклятых паэтаў", для якіх вар'яцтва было як другое паветра (напрыклад, кнігу "Лета ў апраметнай" Арцюр Рэмбо называў гісторыяй аднаго са сваіх шаленстваў).

Падобна сваім славутым папярэднікам (альбо, паводле тэрміналогіі Дэлёза і Гватары, "адбыўшымся шызафрэнікам") удзельнікі ТВЛ распрацоўваюць розныя мадыфікацыі літаратурнай шызамашыны, якая павінна вытварыць новыя стратэгіі пісьма, чытання і нават палітычнай практыкі (бо мяжы паміж жыццём і творчасцю для сапраўднага шызапаэта ўжо не існуе).

Дэлёз і Гватары сцвярджаюць, што шызарэвалюцыйнае мысленне з'яўляецца не проста альтэрнатыўным кансерватыўна-паранаідальнаму, яно па сваёй прыродзе шматальтэрнатыўнае. Адбыўшыйся шызафрэнік здольны атаясаміць сябе з чым заўгодна (ён "вялікшы пралетарый, чым сам пралетарый і, адначасна, вялікшы буржуа, чым сам буржуа"), і таму ягоныя кнігі і само жыццё ператвараюцца ў бясконцы лабірынт унутранага дыялогу. Прынцыпова шматаблічны, часам ён раствараецца ўшчэнт сярод сваіх псеўданімаў. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца прыклад Лявона Вольскага, які напісаў зборнік вершаў "Калідор" у сааўтарстве з Лявонам Гамонскім, Гамонам Кастольскім, Валюсём Лявонскім і процьмай іншых персанажаў сваёй шматлікай асобы.

Другі сябра ТВЛ — Ігар Сідарук — у эсэ "Вольнаму — воля?" (альманах "Калосьсе" № 1 - 93) распрацоўвае адразу некалькі праектаў шызамашыны, якая вытварае свабоду. Паводле аднаго з іх, нам трэба ўсвядоміць, што мы ўсе — трактары "Беларус" апошняга пакалення, якія вырашылі збегчы на волю. Або можна ўявіць сябе разбітым люстэркам, якое само дае свабоду іншым рэчам і людзям, бо адпускае з сябе іхнія, захопленыя раней у палон, вобразы.

Шызафрэнічная фрагментарнасць адлюстравання навакольнага свету скарыстоўваецца гэтым аўтарам таксама ў аргазм-паэме "Споведзь самагубцы", якая распадаецца на 21 аскепак. Рухавік шызамашыны сілкуецца ў ёй полем напругі паміж палюсамі Эраса і Танатаса:

*... аргазм*
*упадаць у рэдкакаштоўны маразм*
*і выкшталцонасцю наталяцца:*
*сярод трупярні — кахацца!*

Фармулюючы крэда "вольнага літаратара", І.Сідарук у згаданым эсэ піша: "Я — вольны. Бо я — вар'ят. Мы ўсе вар'яты... Якія вырашылі збегчы на волю. Для гэтага зусім неабавязкова пакідаць вар'ятню. Дастаткова абвесціць сябе гордымі і незалежнымі. А горды вар'ят — як быццам ужо й не вар'ят!" Нельга не заўважыць адрознасць гэтай пазіцыі ад прынцыповага няўдзелу ў агульным шаленстве, які абраў герой апавядання І.Бабкова.

Юры Гумянюк археалагічную машынерыю сваёй творчасці раскрывае ў эсэ "Твар Тутанхамона". Паводле яго, "зрокавыя аналізатары" шызамашыны паэзіі павінны ўспрымаць навакольны свет амаль літаральна: "Спалучэнне жыццёвага бруду з містычнай прыгажосцю, нібы прамень звычайнага сонечнага святла, праходзіць праз прызму мозга, каб нарадзілася нешта рознаколернае. Менавіта так нараджаюцца вершы. А крыніца інспірацыі — аскепкі акаляючай рэчаіснасці, творы мастацтва розных часоў і народаў, унутраныя перажыванні, абсэсіі ды фрустрацыі". Улюбёны колер паэта — чырвоны:

*Прыемна кахацца з чырвоным вар'ятам:*
*Ахвяраю будзеш, а ён — тваім катам.*
(верш "Мазахізм")

Эрота-танатычнымі матывамі прасякнута і паэзія Славаміра Адамовіча, якога можна назваць стратэгам палітычна-сексуальнай экспансіі адначасна "на Усход, на Захад, на Поўдзень і Поўнач". Адзначым, што паэт піша не толькі для сучасных і будучых чытачоў, але і для нябожчыкаў (гл. у "Калосьсі" прыватныя лісты рэпрэсаванаму ў 30-х гадах Максіму Гарэцкаму). Але галоўная шызамашына С.Адамовіча — палітычная арганізацыя "Правы рэванш". Алесь Аркуш у тым жа нумары "Калосься" слушна заўважыў, што легенды нараджаюцца ў часы гвалту і дэспатызму. "Правы рэванш" — машына вытварэння легенды аб літаратары, які не паспеў стацца ахвярай камуністычнага рэжыму і наўмысна правакуе цяпер адносна памяркоўную ўладу. Зрэшты, пагодзімся з А.Аркушам: чым больш легендаў у літаратуры, тым яна багацейшая.

Сам Аркуш, аднак, асноўнымі радовішчамі літаратурных легендаў лічыць не палітыку, а мастацтва і рэлігію. Сярод іншых эксперыментаў ён ажыўляе на сваім лецішчы бетонны слуп, які, на мой погляд, увасабляе для паэта здранцвелы дух беларускага на-

Мікалай БАЙТАЎ (Расія)

# ЛІТАРАТУРА ВА ЎМОВАХ РЫНКУ

У апошнія два-тры гады літаратура ўсё выразней бачыць і ўсведамляе сваю сувязь з рынкам. Раней ёй даводзілася жыць у адной замкнутай прасторы з ідэалогіяй. Цяпер ідэалогія выпетрылася, сцены пабурыліся, прастора адамкнулася. Літаратура бачыць, што паўсюль суцэльны рынак, і акрамя рынка быццам нічога няма. Прынамсі, уся бясконцая прастора, дзе цяпер належыць жыць літаратарам, зладжана па кшталтах рынку. Рынак структуіруе быццё культуры гэтаксама, як гравітацыйнае і электрамагнітнае (ды яшчэ два другіх) узаемадзеянні структуіруюць фізічны свет. Атрымалася, што ніякага "абуджэння" не адбылося: літаратура прачнулася з аднаго жахлівага сну ў другі.

Паколькі наша канферэнцыя прысвечана "альтэрнатыўнай літаратуры", мы ў першую чаргу мусім зразумець: што гэта значыць — "альтэрнатыўная" і да чаго гэтая літаратура альтэрнатыўная. Атрымліваецца, што ў сучасных умовах даводзіцца гаварыць пра літаратуру, якая альтэрнатыўная рынку. Нам належыць высветліць, наколькі рынак татальны, наколькі самаўладна ён кіруе нашым рухам у мастацтве і ці мажлівая ўвогуле ў нас якая-кольвек альтэрнатыва?

Мастак, чалавек, які займаецца мастацтвам, заўсёды так ці інакш шукае сабе максімальнай свабоды. Ён заўсёды злуецца і пратэстуе, калі яму кажуць і даводзяць, што ягонай творчасцю кіруюць нейкія магутныя і непадуладныя яму сілы, — напрыклад, класавы інстынкт, падсвядомасць, "воля да ўлады", "бясконцае жаданне", мова, "бясконцая тэкстуальнасць". Безумоўна, мастак можа прымірыцца з гэтымі сіламі і на нейкі час амаль пераканаць сябе, што ўсё так і павінна быць, — і пачуваць сябе камфортна. Але паколькі яму даводзіцца несупынна шукаць і тварыць у мастацтве нешта новае, то калісьці перад ім паўстае неабходнасць парушыць запрапанаваны яму механізм творчасці.

Цяпер многія ўжо прачыталі ці чытаюць кнігу Барыса Гройса "Утопія і абмен". Яна сапраўды вельмі цікавая і ў пэўным сэнсе выдатная, асабліва эсэ, якое называецца "Пра новае". Тут, паколькі я спрабую казаць пра рынак і пра альтэрнатыву рынку, мне давядзецца канспектыўна, сваімі словамі, пералічыць асноўныя тэзы гэтай працы. Гройс сцвярджае, што адзіны інстынкт, які кіруе культурай, гэта інстынкт самазахавання. Мастак, які стварае творы мастацтва, з'яўляецца міжвольным выказвальнікам гэтага інстынкту: кожны твор мастацтва мае на мэце патрапіць у архіў культуры, у калектыўную памяць і затрымацца там як мага даўжэй. Архіў жа зладжаны такім чынам, што захоўвае ў сабе толькі моманты культурных інавацый і не прымае ніякіх паўтораў, — проста з-за эканоміі памяці, з-за таго, што памяць абмежаваная. Атрымліваецца, што мастаку, калі ён свядома ці несвядома маніфестуе ў сваёй творчасці інстынкт самазахавання культуры, даводзіцца турбавацца аб тым, каб ягоныя творы былі інавацыямі ў культуры, гэта значыць былі нечым іншым адносна ўжо існуючага.

Далей, па Гройсу, усякая культурная інавацыя ўяўляе сабой спекулятыўную аперацыю, гэта значыць адвольнае надаванне культурнай каштоўнасці аб'екту, які да таго, як на яго звярнуў увагу мастак, ніякай каштоўнасці не меў. Выходзіць, што механізм функцыянавання культуры вельмі падобны да механізму рынку і найбольш адэкватна тлумачыцца мовай эканомікі. Такім чынам, Гройс разбурае фантомы розных ідэалогій, а таксама розных відаў падсвядомасці і пакідае над мастаком адну знешнюю сілу — інстынкт самазахавання, а праз яго — татальную ўладу рынку. Мастак — жадае ён гэтага ці не жадае, атрымліваецца ў яго ці не атрымліваецца, — заўсёды змушаны займацца інавацыямі. Матэрыял для інавацый, натуральна, вымаецца са сферы, не звязанай з культурай, са сферы, якую Гройс пазначае тэрмінам "прафаннае" і якая ёсць проста побыт, жыццё, яшчэ не заўважанае культурай і не атрымаўшае культурнай каштоўнасці — альбо гэта смецце, рэшткі ранейшых формаў культуры, якія апынуліся выкінутымі з архіваў у масавую свядомасць і таму страцілі сваю ранейшую каштоўнасць. Так у літаратуры, напрыклад, у XIX стагоддзі, у эпоху рэалізму, было патрабаванне адлюстроўваць "жыццё" і нават "жыццё простага народа". У нашу пару, у постсталінскую эпоху, буйнейшым рэзервуарам інавацый стаўся лагерны побыт, які ўнеслі у культурны архіў Салжаніцын і Шаламаў. Гэты рэзервуар не вычарпаны па сённяшні дзень, за што сведчыць з'яўленне такіх твораў, як, да прыкладу, "Адлян, ці Паветра волі" Леаніда Габышава. Глыбокія сферы яшчэ не апісанага "прафаннага" знойдзеныя Лімонавым і Сарокіным у зусім простым неэкзатычным жыцці. Сарокін, акрамя таго, выкарыстоўвае для сваіх інавацый агромністыя абломкі аддзеленага ад сусветнай культуры архіва — архіва сацыялістычнага рэалізму, які быў разбураны ў апошнія два дзесяцігоддзі. Я пералічваю ў асноўным тых літаратараў, якія найбольш паспяхова правялі інаватыйную аперацыю і, як на маё разуменне, надоўга затрымаюцца ў архіве. Ёсць яшчэ літаратары (сярод іх згадаем Віктара Ерафеева), якія патрапілі ў архіў за кошт больш дробных інавацый, гэта значыць выкарыстоўваючы экзотыку нашага тутэйшага жыцця ў вачах заходняга чытача. Істотна падкрэсліць, што пакуль гаворка ідзе менавіта пра заходні архіў, які ў нашым бачанні так ці інакш супадае з архівам "сусветнай культуры". У нас хаця ўжо і з'явіўся літаратурны рынак, але яшчэ не склалася мікраструктура, неабходная для сувязі з архівам. Больш за тое, у нас, пасля таго як ранейшы архіў быў разбураны, пакуль не створаны свой нацыяна-

рода: "Нікому і ў галаву не прыйдзе ажыўляць бетонны слуп, бадай, толькі вар'яту. Аднак усё ж я распачаў безнадзейную справу" (зацемка "Слуп, які бачыць"). Напэўна, гэты слуп сімвалізуе і літаратурную сітуацыю на Беларусі, дзе "ўсё новае падаецца як анамалія або наогул ігнаруецца". Заўважым, што А.Аркуш выконвае абавязкі галоўнага інжынера незалежнай шызамайстэрні вольных літаратараў, якая наважылася канкурыраваць з дзяржаўным камбінатам беларускай літаратуры.

Сярод шызалагічных стратэгій пісьма і чытання нельга не згадаць транслагізм Сержука Мінскевіча і Алеся Туровіча. Паводле іх,усялякі збег літар (ад дзвюх да мільёна) абавязкова мае некалькі сэнсаў — калі не ў роднай, дык у іншых мовах. Праз адмысловыя "тудылінкі" і "сюдылінкі" можна злучыць між сабой усе тэксты і мовы, што існуюць у свеце, і нават усе разгалінаванні матэрыяльнай рэчаіснасці. У першы дзень канферэнцыі гэты метад ужо моцна крытыкавалі, але не за той недахоп, які бачу я: гэта залішняя рацыянальнасць, апора на лагічнае мысленне чытача, а не на ўласцівы кожнаму ў глыбіні душы ірацыяналізм. Транслагічныя тэксты ўсё яшчэ занадта лагічныя, бо ў нешта нечаканае трансфармуюцца не думкі, а ўсяго толькі словы: лагізм ужо ёсць, а сапраўднага транса яшчэ не адчуваецца. Я перакананы, што чалавек думае і чытае не асобнымі літарамі і словамі, а сама мала, словазлучэннямі ці ланцужкамі вобразаў. Ад кожнага слова разыходзіцца веер магчымых асацыяцый. Мысленне складаецца не са словаў, а з думак, пераважна шаблонных, штодзённа паўтараемых. Гэтыя стэрэатыпы і не трэба ігнараваць, а паварочваць супраць адзін аднаго, скарыстоўваць адразу ў якасці рухавіка і сыравіны для літаратурнай "машыны жаданняў", якая павінна вытварыць новыя жыццёвыя сілы для беларускага народнага слупа.

* * *

Сябры ТВЛ ужываюць розныя варыянты шызапісьма хутчэй інтуітыўна, чым свядома, — пад уплывам шалёнага духу самой эпохі. Але вынікам гэтых паасобных намаганняў, на мой погляд, магло б стацца стварэнне літаратурна-мастацкага стылю з умоўнай назвай "шызарэалізм". Тэорыя і практыка гэтага стылю яшчэ чакаюць больш грунтоўнай распрацоўкі, але некаторыя высновы і прапановы можна зрабіць ужо цяпер.

Псіхіятры жартуюць паміж сабой, што ўвесь свет — гэта вар'ятня, а Бог — яе галоўны ўрач. Але, напэўна, і ўнутры кожнага чалавека існуе свая асабістая вар'ятня, дзе ролю галоўнага ўрача выконваюць сумленне альбо эстэтычнае пачуццё меры. Мэтай шызарэалізму і павінна стацца адлюстраванне аб'ектыўнай або выяўленне ўласнай шызарэальнасці, распрыгоньванне вачэй чытача і рукі літаратара.

Спаконвеку магі, філосафы і мастакі шукалі шляхі трансцэндэнцыі чалавечай свядомасці, шукалі выйсце за межы яе жорсткай сэнсавай капсулізацыі. Асноўным метадам шызалітаратуры з'яўляецца трансцэндэнцыя тэксту як матэрыяльнага носьбіта свядомасці: не разбурэнне ягоных павярхоўных сэнсаў, а наданне ім здольнасці амаль бясконцага самапанаўлення. Для гэтага можна хай сабе некаторыя словы ўжываць адначасна ў прамым і пераносных сэнсах — і не толькі словы, але і фразы (напрыклад, цытаты з вядомых твораў); будаваць сюжэт не з падзей, а з вобразаў, трансфармуючы лагічна-перспектыўнае пісьмо ў плынь адвольных і пераканаўчых асацыяцый (менавіта так разгортваюцца нашыя сны); апавядаць пра высокае з ироніяй, а пра нізкае — з недарэчным пафасам, каб размыць у рэшце рэшт межы паміж мовай жыцця і мовай літаратуры, паміж будзённай рэчаіснасцю і сакральным іншасветам.

Можна таксама перакуліць г.зв. метад дэканструкцыі, распрацаваны Жакам Дэрыда для філасофскага і філалагічнага аналізу: трэба не шукаць з лупай у чужых тэкстах, а закладаць у свае слой метафар і апорных паняццяў, якія паказваюць на несаматоеснасць тэксту. Напрыклад: "Рука — нешта сярэдняе паміж крылом і капытом... Асабліва, калі яна піша вершы". Тут мы знаходзім не толькі дослед у анатоміі чалавечага цела, не толькі вызначэнне нашых экзістэнцыяльных каардынат паміж небам і зямлёй, але і непрамоўленую алюзію на Пегаса, на якім паэт спрабуе дагнаць прыгожае слова.

"Адбыўшыйся шызатэкст" здольны да няспыннага дыялогу з самім сабой, бо вытварае падчас чытання сваіх нябачных, ненадрукаваных двайнікоў з іншай семантычнай афарбоўкай. Трэба толькі разгалінаваць сістэму семантычных каардынат, паводле якіх будуецца тэкст ці асобны сказ, каб надаць яму некалькі дадатковых вымярэнняў, у якіх амаль бясконца можа блукаць чалавечая думка.

Яшчэ адзін прыклад — з майго тэксту пад назвай "Ілюмінацыі" ў "ЗНО" № 12: "Зайшоў у ліфт, а там — нейкая авіяцыя: муха лётае ў розных напрамках". Вось некалькі магчымых прачытанняў:

— Муха — даволі распаўсюджаны ў паэзіі сімвал няўлоўнай, брыдкай, але па-свойму зграбнай рэчаіснасці, якая настойліва нагадвае аб сабе нават у апараце, які сімвалічна ўздымае нас да нябёсаў або скідае ў апраметную. Дарэчы, такім прыстасаваннем можна назваць і саму літаратуру, — але, як мы бачым, і падчас пісьма або чытання адчапіцца ад рэчаіснасці немагчыма.

— Муха параўноўваецца з авіяцыяй, бо ў цеснай кабінцы ліфта яна сапраўды выглядае паважна — зусім не меншай за самалёт пад аблокамі. Апрача таго, калі здолееш разгледзець у мусе самалёт, раптам вырастаеш сам амаль да нябёсаў.

— Чаму "нейкая" авіяцыя? Таму што тая муха, нібыта самалёт-шпіён, была без якіх-кольвек распазнавальных знакаў на крылах.

Машына шызарэалізму прыўздымае чалавека на некалькі сантыметраў над звыклым ландшафтам жыцця і дазваляе нам хадзіць па айчынных глебах і асфальтах так, як Хрыстос хадзіў па вадзе — не праваьваючыся па самыя вочы і вушы (дарэчы, каб трохі ажывіць бязмоўны слуп беларускага народа, Алесь Аркуш намаляваў яму вока).

Новы лад мыслення патрэбны нам не толькі, каб асвоіць занядбаныя абшары чалавечай свядомасці. Паўнавартасны адказ на выклік, што кідае нам эпоха агульнай абыякавасці, страты сэнсаў і раз'яднанасці, можа вытварыць адно эфектыўная і паўнакроўная шызамашына пісьма — літаратурнага, выяўленчага, харэаграфічнага, а нават і палітычнага.

Алесь АНЦІПЕНКА

# ПРОСТА СЛОВЫ





*"Усе словы, ужытыя тут, могуць быць скарыстаныя дзеля напісання ноых вершаў". З постмадэрнісцкага маніфесту Свабоды.*
***Аўтар***

* * *

*Крышталікамі ільду*
*Падаюць*
*Словы.*
*У пустой прасторы —*
*Чалавек.*
*Птушкі*
*Напалохана крычаць.*

* * *

*The Woman asked me:*
*— Why didn't we meet sooner?*
*Of course,*
*I gave her no reply,*
*Because*
*I had loved her for so many years already.*

* * *

*Сонечны прамень*
*Лашчыць цела,*
*Вочы*
*Увабралі ў сябе*
*Усё неба.*
*Напэўна,*
*Гэта апошняя хвіліна*
*Перад расстаннем.*

* * *

**Dedicated to Liz**

*Some people are like birds...*
*To tell the truth, it's not easy*
*To be like a bird.*
*Sometimes they get tired*
*And loose their ability*
*To fly.*
*And then for a little while*
*They live on the earth,*
*Among us.*
*No doubt, it would be better*
*For them*
*To live in the sky,*
*But*
*They are still people*
*Even though they are like birds.*

* * *

*Пятніца,*
*чацвер,*
*серада...*
*Рух па часе ўніз.*
*Раптам надыдзе панядзелак.*

льны, актыўна функцыянуючы архіў, з чаго і не могуць быць наладжаныя нармальныя стасункі нацыянальнага архіва з сусветным.

Увогуле трэба заўважыць, што Гройс, калі ён апісвае механізм інаватыўнага абмену ў культуры, заўсёды мае на ўвазе мастацкі рынак, а не літаратурны. Мастацкі рынак пабудаваны зусім інакш. Яго складаюць галерэі, музеі і прыватныя зборы. Мастацкі аб'ект вымаецца з прафаннай сферы і ўкладаецца мастаком у прастору галерэі, дзе ён прыроўніваецца да другіх аб'ектаў і толькі з гэтай прычыны ўпершыню робіцца мастацкім, а гэта значыць, атрымлівае культурную каштоўнасць. Далей з кан'юнктуры музеяў і прыватных збораў вызначаецца ягоны кошт, які ні ў якай меры не залежыць ад масавай свядомасці і масавага густу, а калі і залежыць, то толькі па закону адваротных велічынь. Уся справа ў тым, што мастацкі аб'ект адрозніваецца ад, так бы мовіць, літаратурнага аб'екта тым, што ён унікальны. Літаратурны аб'ект, наадварот, становіцца гэткім адно тады, калі ён тыражаваны. З чаго ён спачатку павінен быць праданым і толькі ў такой якасці ён трапляе ў поле бачання культурных інстытутаў. Цікава заўважыць, што ў нас, напрыклад, прэмія Букера, якая магла б зрабіцца аналагам галерэі ў механізме літаратурнага рынку, прымае да разгляду адно работы апублікаваныя, а значыць тыя, што так ці інакш, але ўжо вытрывалі рынкавую канкурэнцыю і адбор. Мне думаецца, што і для заходняга літаратурнага рынку, пры ўсёй паўнаце яго мікраструктуры, гэтая праблема таксама спецыфічная, і там, у звязку з гэтым, найбольш інаватыўныя аб'екты рызыкуюць застацца (а верагодна і вельмі часта застаюцца) культурнымі маргіналіямі і зусім не патрапляюць у архіў. Прыкладам гэтаму могуць быць шматгадовыя пакуты джойсаўскага "Уліса" да таго (і нават пасля таго), як ён быў апублікаваны. Тое, што "Уліс" у рэшце рэшт усё ж патрапіў у культурны архіў, зусім не сведчыць аб нейкай перамозе свабоды і справядлівасці, а сведчыць адно аб тым, што Джойс не перайшоў нейкай мяжы "публікуемасці". Мне, напрыклад, лёгка ўявіць творы куды больш інаватыўныя, чым "Уліс", публікацыя якіх будзе цалкам залежыць ад выпадку. Дарэчы, Сарокін распавядаў, што публікацыя ягонага рамана "Чарга" ў Францыі адбылася з выпадку зусім ідыёцкага. Выдаўца, які ў гэтым рамане не зразумеў абсалютна нічога, узяў яго адно таму, што, як ён сказаў Сарокіну, "французскі чытач ведае, што ў Савецкім Саюзе шмат чэргаў, і яму гэта будзе цікава". Калі ўлічыць, што менавіта з гэтай публікацыі пачалася вядомасць Сарокіна на Захадзе (г.зн. разумныя людзі, калі прачыталі раман, убачылі там сёе-тое яшчэ акрамя чэргаў), то можна толькі жахнуцца, як шмат значнага ў літаратуры, напэўна, застаецца па-за нашай увагай, бо мы не маем надзейнай сістэматычнай працэдуры, якая б дазваляла нам ахопліваць усе літаратурныя падзеі і быць упэўненымі, што мы нічога не прамінулі.

Аднак я вяртаюся да пачатку майго даклада. Цяпер я хачу звярнуць увагу на той факт, што нават тая літаратура, якая, з прычыны асаблівасцяў літаратурнага рынку, не трапляе ў культурны архіў, не можа яшчэ разглядацца як "альтэрнатыўная", таму што літаратар, нават нікому не вядомы і маргінальны, усё роўна адпрацоўвае рыначныя стратэгіі, паколькі акрамя рынку і механізму культурных інавацый не засталося ніякай сілы, якая рухала б ягоную творчасць. Сам панятак альтэрнатыўнасці змяніўся. Тыя пісьменнікі, якіх я згадаў, — Салжаніцын, Лімонаў, Сарокін, Джойс — у сваю пару былі "альтэрантыўнымі", але цяпер ужо не з'яўляюцца гэткімі, бо, з поспехам правёўшы свае інавацыі, здабылі высокі рыначны рэйтынг і атрымалі месца ў архіве. Цяпер не можа быць ні альтэрнатыўнай ідэалогіі, ні альтэрнатыўнай падсвядомасці, ні альтэрнатыўнага пісьма, таму што гэтыя сілы, калі яны засвоеныя і адрэфлексаваныя, ужо не дзейнічаюць у мастацтве — застаецца адзін толькі рынак. Цяпер трэба шукаць альтэрнатывы адно толькі рынку, і, як звычайна, дзеля таго каб вызваліцца ад улады над сабой нейкай знешняй сілы, трэба вызваліцца ад аўтаматызму гэтай сілы ў сабе, гэта значыць давесці яе наяўнасць да сваёй свядомасці і зразумець, як яна дзейнічае. Праца Гройса тым і цікавая для нас, што яна ўпершыню выводзіць на ўзровень свядомасці эканамісцкі (ці квазі-эканамісцкі) механізм у культуры. З Гройсам можна спрачацца і не пагаджацца па многіх прыватных момантах. Але сам падыход да праблемы — істотны. Гройс кажа нам, што праблема сувязі мастацтва і рынку знаходзіцца не на паверхні і не ў іх знешніх стасунках паміж сабой — механізм рынку працуе ў самай глыбіні сучаснай культурнай вытворчасці. І мы мусім пагадзіцца, што гэта ўжо даўно намі адчувалася. Тэарэтычныя разлікі на гэтую тэму адно прасвятляюць і замацоўваюць нашыя прадчуванні.

У Маскве цяпер працуе група, у якую я ўваходжу і якая называецца "Дэтэктыўны клуб Дзмітрыя Кіясава". Гэтая група якраз займаецца вывучэннем рынкавых стратэгій і ў прыватнасці такіх, амаль ананімных, як дэтэктыў і любоўны раман. Гэтыя феномены цікавыя менавіта тым, што яны атрымліваюць найвышэйшыя каціроўкі на літаратурным рынку, пры гэтым напэўна не атрымліваюць аніякага месца ў культурным архіве. На іх прыкладзе можна было б зразумець узаемадзеянне механізмаў эканамісцкага і квазі-эканамісцкага, якія на мастакоўскім рынку супадаюць, а на літаратурным паўстаюць супрацьскіраванымі. "Дэтэктыўны клуб Дзмітрыя Кіясава" займаецца не толькі тэарэтычнымі даследаваннямі, але і эксперыментаваннем. Па-рознаму дэфармуючы відавое цела дэтэктыва альбо любоўнага рамана, мы выкідваем іх на рынак і назіраем, што адбудзецца. Вынікі паспрабуем падсумаваць у спецыяльных допісах, але гэта справа будучага. Ёсць надзея, што на гэтым шляху ў нас атрымаецца наблізіцца да, так бы мовіць, "мета-рынкавых" відаў мастацтва, гэта значыць да мастацтва, усвядомленага як вольная і незацікаўленая гульня (у прыватнасці, не зацікаўленая і ў архіўнай фіксацыі). Ёсць меркаванне, што такая, пазбаўленая ўсіх сэнсаў гульня, увогуле ў мастацтве першасная. Калі мастацтва вызваляецца ад улады якой-кольвек кіруючай сілы, яно пачынае з гэтай сілай гуляць. І наадварот — яно пачынае гуляць для таго, каб у працэсе гульні вызваліцца. Адзіная мэта гульні — гэта вызваленне: паслядоўнае апафеатычнае адмаўленне ўсіх канцавых сэнсаў мастацтва. На дадзеным этапе гэта адмаўленне эканамісцкіх і квазі-эканамісцкіх сэнсаў, а значыць — гульня з рынкам і архівам. Так гэта разумеецца нашай групай.

Калі зазірнуць трохі наперад, то нам неўзабаве давядзецца адвергнуць і апошнюю, бачную мэту гульні, гэта значыць, дэканструяваць саму фігуру вызвалення. Затым, напэўна, давядзецца дэканструяваць саму дэканструкцыю... Далей пакуль не бачна.

СТАГА, РАЗУМНЫ раптам убачыў іншую лесьвіцу. І вяла яна не невядома куды, а ў сапраўдную СІНЕЧУ. РАЗУМНЫ ціхенька падышоў да іншай лесьвіцы, ціхенька стаў на першую прыступку й палез, палез...

І калі да сапраўднае СІНЕЧЫ заставалася падаць рукою, РАЗУМНЫ шчасьліва засьмяяўся й ужо хацеў ухапіцца за апошнюю прыступку. Але хапануў толькі за паветра, таму што быў блізарукі, і з самае "верхотуры" (русызм!) са шчасьлівым сьмехам грымнуўся ўніз. СТРАШЭННАЯ ЦЕМРА нават спыніла сваё йржаньне — гэткае нахабства яна ўбачыла. Аднак яна была сытая ТЛУСТЫМ. Таму з РАЗУМНАГА толькі злупіла скуру.

8.

На тое й РАЗУМНЫЯ, каб лупіць зь іх скуры.

9.

Нарэшце да лесьвіцы (не да іншай, а да той, што вяла невядома куды) прышлэпаў? падпоўз? падкрочыў? падшкандыбаў? пад?.. пад?.. Карацей, каля яе ўжо стаяў НІЯКІ. А паколькі ён НІЧОГА не рабіў і НІЯК ні на што не рэагаваў, то й чапляцца ні за што НІЯКАГА НАМЭРУ таксама НЯ МЕЎ. Ён, можа, гэтай самай лесьвіцай і быў, га? Хто яго ведае.

10.

І СТРАШЭННАЕ ЦЕМРЫ нічога не заставалася, як зглынуць самую лесьвіцу. Аднак на гэты раз вар'яцкага рогату не было чутно, бо ад гэтага яна ПАМЕРЛА. (ХТО памёр канкрэтна — засталося невядома. Аўтар так і не ўдакладніў, да каго ці чаго аднесьці слова яна — да ЦЕМРЫ ці да лесьвіцы?)

11.

З тых часоў ад НІЯКІХ адныя плачуць, а іншыя — баяцца...

12.

Відаць, першыя ніколі не зазіралі ў С.К.Л.Е.П, а другія зазіралі туды надта часта.

13.

Але жудам была яшчэ іншая лесьвіца?!

---

Трэба адзначыць, што напрыканцы 80-х — у пачатку 90-х гг. кардынальных зьменаў у ідэйна-тэматычным ды эстэтычным пляне афіцыйныя літаратурна-мастацкія часопісы "Полымя", "Маладосьць" не прапанавалі. Больш таго, імёны некаторых таленавітых і пэрспэктыўных аўтараў літаральна пазьнікалі са старонак ворганаў-прапагатараў дзяржаўнага афіцыёзу. Атрымліваецца падвойны парадокс. З аднаго боку, наміналіна дэкляраваная свабода й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ павінны спрыяць распаўсюджваньню плюралізму ў мастацтве, спарадзіць творы значнае эстэтычнае вартасьці, актывізаваць шырокую літаратурную й чытацкую аўдыторыю. Але гэтага не назіраецца. З другога боку, прадстаўнікі новае генэрацыі могуць карыстацца "нецэнзураванаю" друкарскаю плошчаю ды рэалізоўваць свой патэнцыял. Аднак новая генэрацыя не ўяўляецца нечым аднародным, гэткім адзіным целам. У ейным асяродзьдзі паглыбляецца інтэнсыўны працэс дыфэрэнцыяцыі. Частка колішніх дэбютантаў, наглытаўшыся трупехлае атруты, далучаецца да мэтафізычнага "трупа татальнасьці", суаднольваецца зь ягоным анэмічным чэлясам — структураю Саюзу пісьменьнікаў. Другая частка літаратараў, адчуўшы небясьпеку суцэльнае нэкрафілізацыі, знайшла альтэрнатыву — гадаваньне ўласнага *здаровага* цела. Бо ў здаровым целе — здаровы дух.

Такім чынам плюралізацыя літаратурнага жыцьця пашыраецца праз стварэньне суполак, якія ігнаруюць дзяржаўны афіцыёз і дыстанцуюцца ад "трупа татальнасьці". І вось нас зьдзіўляе наступны парадокс: улада, зацікаўленая ў захаваньні прасторы нагляду, час ад часу падпітвае й бальзамуе соцрэалістычнага мерцьвяка. Здаецца, што аб'ект згнілізна жыве й рухаецца ці, прынамсі, знаходзіцца ў стане пэрманэнтнае агоніі. Аднак гэта ўжо залежыць ад маніпуляцыяў улады.

Паводле Сяргея Зімаўца, авангард спараджае сябе за парогам прасторы нагляду, мае асаблівы вопыт уцёкаў на дыстанцыю, які адрозьнівае ў складзе стартавага цела мастацтва стурктуры й мову, вонкавыя самому мастацтву. Яны акрэсьліваюць фігуру цела мастацтва й дыскурсы, якія дыстанцуюць зь ягонага корпусу й якія ня можа схапіць ды падпарадкаваць сабе татальная дэспатыя. Сапраўды, выраджэньне спыняецца, бо вынайдзены эфэктыўны сродак — пачуцьцё дыстанцыі як унутранай мэты мастацкае сьвядомасьці й стырылізацыі ад трупехлага смуроду татальнага арганізму.

Гэта абсалютна не азначае, што прыхільнікі "санітарнае зоны" будуюць бабілёнскую вежу на голай глебе ці запаўняюць "чыстую" культурную прастору. Папершае, глеба ня ёсьць tabula rasa. Яна ўвабрала ў сябе як досьвед папярэдніх фармацыяў і мноства сацыякультурных кодаў, так і сучасныя адкіды афіцыйнае ідэалёгіі, спарахнелыя нацыянальна-акадэмічныя канцэпцыі ды "отвалившиеся члены" рэпрэзэнтантаў татальнасьці. Па-другое, сёньняшняя культурная прастора ў той ці іншай ступені заражана соцрэалістычным вірусам, здольным перафарбавацца ў залежнасьці ад

(Заканчэньне на стар. 10)



Сяргей МІНСКЕВІЧ

# ЗАЦЕМКІ НА ПАЛЯХ КАНФЕРЭНЦЫІ...




***Гэтыя зацемкі, прысьвечаныя транслёгізму (Т-М), бо першыя маніфеставаньні і дэкляраваньні транслёгізму былі апублікаваны ў "ЗНО" напярэдадні канферэнцыі і фактычна на ёй, зь некаторымі дадаткамі і выдаткамі, агучваліся. Няма рацыі зноў паўтараць іх, таму тут даюцца толькі рэфлексіі на дыскусіі, у якіх бурна абмяркоўваліся пэўныя прынцыпы транслёгізму.***

а не маргіналіі, бо ў беларускай мове ўзнікае адпаведны Т-М пераход паміж "цем-ра" і "цяміць".

## БЕЛЫ, ЧОРНЫ І ПУСТЫ АРКУШЫ

Тры асноўныя творы-сымбалі-вяхі-пункты-паняткі-лёгасы...

Пасьля таго як Т-М выйшаў на панятак "Капірка — Чорны аркуш паперы" (гл. "ЗНО", "Культура" № 43 ад 26 кастрычніка 1994 г.) можна любы твор мастацтва ўспрымаць як імкненьне пераўтварыць Белы аркуш паперы ў Капірку. Безумоўна, кожны "цэнтралёгас", які ствараў... зацямняў аркуш імкнуўся захаваць пэўныя белыя пляміны, каб можна было разабраць тое, што напісана. Але таму, што ўсё пісалася на адным аркушы (бо мы ведаем толькі адно пакуль што чалавецтва), гэтых белых плямачак заставалася ўсё менш і менш, і нарэшце стварылася сытуацыя зьмяшаньня, сумяшчэньня, зьліцьця знакаў (пісьма) і поўнай страты цэнтралёгічнай здольнасьці іх "разрашэньня", якую цяпер называюць постмадэрнізмам.

сапраўды ці не зьяўляецца прыкмета "клясычнага", "высокамастацткага" твора — яго здольнасьць спараджаць вывучэньне, тлумачэньне, пераймаеньне сябе, іншымі словамі ствараць пэўныя свае адбіткі альбо адлюстраваньні — прыкметай "капірнасьці"? Трэба зазначыць, што аркуш ці Капірка — гэта ня дзьвюх- і ня трохмерныя сістэмы, як можна памылкова ўявіць візуальна, а бясконцамерныя.

Пласты на Капірцы не пакладзены адзін на адзін, а знаходзяцца АДЗІН У АДНЫМ, адсюль і ня мае вялікага значэньня, які пласт быў напісаны... запоўненны... зацемнены раней.

тэрмін з астраноміі — разрашальная здольнасьць тэлескопа

Транслёгізм уводзіць уласны панятак — Пусты аркуш (па некаторых прапановах яго можна было б называць Праз-зрыстым аркушам), які знаходзіцца паміж пластамі на Капірцы. Адсюль, фактычна, пісаньне... стваранньне... зацямненьне — гэта ёсьць трансфармацыя Пустога (Праз-зрыстага) аркуша паперы і пры пэўных каардынатах ён можа быць ці Белым аркушам, ці Чорным, ці самім сабой — Пустым (Праз-зрыстым). А кожная зацемка на ім — зьяўляецца адтулінай-адсюлінай (гл. "ЗНО", "Культура" № 35 ад 31 жніўня 1994 г.), зь якіх можна пабудаваць пераходы — лёгемы (гл. "ЗНО" там жа), а зь іх сістэму лабірынтаў... галерэяў — творы.

— ідэя, індывідыум, мэтад, накірунак, школа, рэлігія...

усялякая спроба пісьма

Тут узьнікае праблема паэтыкі — што такое транслёгічныя творы? Напрыклад, паліндром — гэта транслёгічны твор. Але ён вядомы з даўніх часоў і транслёгізм, па словах апанэнтаў, нічога новага ў гэтым жанры не адкрывае. Прывядзем аналёгію: электрычнасьць людзі ведалі таксама з даўніх часоў, але растлумачыць змаглі толькі ў XIX стагодзьдзі. Паводле Т-М паліндромнасьць, калі слова чытаецца як зьлева направа, так і справа налева — ёсьць замкнуты сэміятычна — сэмантычны пераход, які добра ўпісваецца ў сыстэму паняткаў Т—М і выступае як яе ПРЫВАТНЫ прыклад.

Можна таксама сказаць, што любы прыклад паэтыкі пэўнага накірунку (цэнтралёгічнага пласта Капіркі) — таксама ёсьць альбо прыватны прыклад транслёгізму, альбо адзін з магчымых яе складнікаў, накшталт таго, як Ньютанава мэханіка зьяўляецца складнікам Агульнай тэорыі адноснасьці Энштэйна.

## КРОК НАПЕРАД, НА МЕСЦЫ, НАЗАД?

На думку мадэрністаў, ці лепей сказаць да-постмадэрністаў — транслёгізм — тантаньне на месцы, бо ён (пакуль) выкарыстоўвае... паразітуе на старых прыёмах і сродках, праўда, можа з большай... іншай вынаходлівасьцю ў дачыненьні да таго ж мадэрнізму, але Т-М не зьбіраецца, як сказалі б постмадэрністы, будаваць новую парадыгму тэксту-сьвету.

На думку постмадэрністаў — транслёгізм крок назад, бо кіруецца пэўнымі ствральнымі прынцыпамі, а стварыць новае ў замкнутым адрэзку паміж белым і чорным аркушамі ўжо немагчыма. Ёсьць ліміт — застаецца толькі дубляваць, перарабляць, рэканструяваць і дэканструяваць пэўныя мадэлі этапаў на шляху яго дасягненьня.

На думку транслёгістаў — Т-М робіць крок усярэдзіну альбо вонкі!

Напэўна, крок усярэдзіну і крок вонкі — гэта адно і тое ж...

У прыватнасным плане транслёгізм можа знаходзіцца паміж рознымі лёгасамі да-постмадэрнізму і гуляцца зь імі, накшталт як гэта робіць постмадэрнізм. Аднак у шырокім сэнсе, дзякуючы апераваньню адтулінамі-адсюлінамі, можна дапусьціць магчымасьць прабіцьця Капіркі (постмадэрнізму) і трапіць у выйсьце па-за ліміт.

Хаця па словах В.Акудовіча — чалавечы розум выйсьці па-за Капірку ня можа і нават здольнасьцяў ДЭМАНА Максвела (гл. "ЗНО", "Культура" № 43 ад 26 кастрычніка 1994 г.) ня хопіць для гэтага, бо ён таксама дапушчаны чалавекам,— тады, выкарыстоўваючы прынцып транслёгізму, выйсьці па-за... Капірку зможа БОГ Мінскевіча, які транслёгічны ДЭМАНУ Максвела (па невядомых нам якасьцях).

Тут можна зноў знайсьці аналёгію — дапусьціць існаваньне НІРВАНЫ тэксту-сьвету.

Іншымі словамі, тэорыя транслёгізму дапускае існаваньне гэткіх каардынатаў, пры якіх уся Капірка можа "адкрыцца" і стаць (новым... іншым... нейкім) Пустым (Праззрыстым) аркушам (паперы), чым яна і была... і ёсьць.

# ПОСТМАДЭРНОВЫ ПРАРЫЎ І ПАЧУЦЬЦЁ ДЫСТАНЦЫІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ напрыканцы 1980-х — у пачатку 1990-х гадоў

*(Заканчэньне. Пачатак на стар. 8,9)*

кан'юнктуры.

Тут паўстае шэраг праблемаў, шчыльна зьвязаных з нестабільнаю палітычнаю ды эканамічнаю сытуацыяй, якія непасрэдна альбо ўскосна ўплываюць на кшталтаваньне і афіцыйнае, і альтэрнатыўнае эстэтыкі. Справа ў тым, што афіцыёз на Беларусі па сутнасьці антыпатрыятычны, хаця дзяржава прэтэндуе на ролю нацыянальнага мэцэната, ілюструючы сваю няшчырасьць і раздвоенасьць. Фактычна адбываецца дыскрыдытацыя нацыянальных каштоўнасьцяў. Выйсьце — дыстанцаваньне й стварэньне альтэрнатыўных парадыгмаў.

Сяргей Зімавец у сваім артыкуле "Дыстанцыя як мера мовы мастацтва..."[9] прапануе наступную канвэнцыянальную тыпалёгію дыстанцаваньня: тэхнічнае д., тэхналягічнае д., сьцёбавы соцарт, нігілізм як псэўдадыстанцыя й дыстанцыя дыстанцыі. Няма сэнсу падрабязна разглядаць гэтыя формы. Тым больш на беларускай глебе ня ўсе яны рэалізоўваюцца. Несумненна тое, што яны ўзаемадзейнічаюць зь целам соцрэалізму, якое для іх у пераважнае большасьці ня ёсьць атрута, а пажыўнае ўгнаеньне.

Напрыканцы 80-х гадоў, бадай, эфэктыўным сродкам дыстанцаваньня быў СЬЦЁБАВЫ СОЦАРТ, зьвязаны з унутранай эміграцыяй сьвядомасьці зь мярцьвяцкае татальнае мадэлі. Соцарт усьведамляе сябе так, што бяз шкоды для сябе карыстаецца матар'ялам татальнасьці. Беларускі соцарт жывіцца ня толькі савецкімі клішэ эпохі "разьвітога сацыялізму", яго цікавіць і гульня сугестыўна напрацаванымі сацыякультурнымі кодамі розных эпох і народаў (Ю.Гумянюк, Ю.Пацюпа, І.Сідарук)[10], што сьведчыць аб ягонай постмадэрновай сутнасьці.

Як асаблівую форму дыстанцаваньня трэба разглядаць НІГІЛІЗМ. Ня будзем заглыбляцца ў гісторыю гэтага паняцьця й выкарыстоўваць яго ў сёньняшнім перакручаным значэньні. Нігілізм — гэта ўяўная псэўдадыстанцыя, нэгацыя "шчасьлівага" савецкага мінулага, самакатаваньне. Поўны крах сэнсажыцьцёвае ўтопіі й адсутнасьць альтэрнатывы паварочвае сьвядомасьць суб'екта супраць тае глебы, зь якой ён ня ў стане сысьці. Так, дапрыкладу, колішнія соцрэалісты сёньня заўзята трыбушаць труп соцрэалізму. Гэткая апэрацыя ператвараецца ў бессэнсоўную маніпуляцыю знакамі татальнасьці, ілюструе нясьцёбавы цынізм мастацкае сьвядомасьці, якая, выкарыстаўшы інэрцыю ўтопіі, выплыла на паверхню ў чаканьні новае кан'юнктуры. Усе спробы рэпрэзэнтантаў татальнасьці вытлумачыць сябе па-за татальнаю мадэльлю, прадставіць сябе як нейкую апазыцыю да ўлады (тым часам як знакі іхняе мовы належаць татальнасьці) — усё гэта адлюстроўвае амаральнасьць нігілізму як псэўдадыстанцыі.

Варта прыгадаць, што зь цягам часу апазыцыя андэграўнду набывае ўласнае цела, уцягваецца ў большае ці меншае ступені ў дзяржаўныя структуры, траціць сваю апазыцыйнасьць і радыкальнасьць, але й уплывае на дзяржаўную палітыку адносна мастацтва. Адбываецца павольная дэмакратызацыя афіцыйных інстытутаў культуры. Аднак дыстанцаваньне не спыняецца. Узьнікаюць новыя суполкі, якія дыстанцуюцца ўжо ад колішніх апазыцыянераў. Вось і атрымліваецца своеасаблівая ДЫСТАНЦЫЯ ДЫСТАНЦЫІ.

Што тычыцца сучаснага беларускага друку, то пачуцьцё дыстанцыі ўласьціва такім выданьням, як "НАША НІВА", "КАЛОСЬСЕ", "КСЭРАКС БЕЛАРУСКІ" і літаратурна-філязофскі сшытак "ЗНО".

Другая характэрная рыса НОВАЕ КУЛЬТУРНАЕ СЫТУАЦЫІ — гэта тэатралізацыя ўсіх відаў мастацтва, якія ўвабралі ў сябе элемэнты сцэнічнага дзеяньня й спарадзілі паняцьці, радавод якіх выводзіцца з колаў г.зв. performing arts, г.зн. тэатру, танцу, музыкі — мастацтваў, якія вымагаюць выкананьня для таго, каб запрэзэнтавацца й стаць прадметам эстэтычнага пераживаньня. Безумоўна, тэатралізацыя ня ёсьць нешта прынцыпова новае ў гісторыі культуры (прыгадайма сьвяты Дыяніса ў Старажытнай Грэцыі), аднак ў XX ст. яна пераасэнсоўваецца й мае ўжо асобную эстэтычную вартасьць. У 50-я — 60-я гады тэатралізацыя на Захадзе рэалізавалася ў форме *пэрформэнсу* (performans) — сукупнасьці дзеяньняў і асацыяцыяў, якія акрэсьліваюць пэўную сьвядомасьць і пачуцьцёвасьць. У гэтым сэнсе пэрформэнс — катэгорыя, якая сінтэзуе ўсе гатункі й гібрыдныя формы мастацтва, каторыя не прымаюць статычную канцэпцыю мастацтва як імітацыі рэчаіснасьці. Яшчэ існуе папулярная фармулёўка "пэрформэнс" — сплянаванае абсурднае дзеяньне перад публікай". Так ці інакш, галоўнае — дынаміка, дзеяньне, функцыянаваньне.

У сувязі з гэтым мэтазгодна зьвярнуцца да твораў драмы, якая й трымаецца менавіта за кошт дзеяньня. Прыкладам постмадэрновае драмы ў беларускай літаратуры зьяўляюцца п'есы Ігара Сідарука "ГАЛАВА" (1991), "ЗАТУРХАНЫЯ" (1991), "ТОРБА" (1992). Зьнешне гэтыя "містэрыі" нагадваюць вядомыя творы Самуэля Бэкэта й Эжэна Ёнэскі, ці Данілы Хармса й Аляксандра Увядэнскага. Але Ігар Сідарук, улічваючы эстэтыку й мастацкі вопыт славутых папярэднікаў, стварыў рэчы крыху іншага кшталту, выкарыстаўшы, зразумела, эфэктыўную форму "тэатру абсурду". Моўнае рэчышча савецкае эпохі, афіцыйныя лёзунгі, тэксты соцрэалізму й народны досьціп — вось крыніца інсьпірацыі беларускага драматурга. Адметна й тое, што аўтар выкарыстоўвае часам тыпова соцрэалістычны канфлікт, бінарныя апазыцыі кшталту "пан-мужык", празрыстыя сымбалі й алюзіі, якія дапамагаюць ідэнтыфікаваць дэнацыяналізаваную масу.

Паводле Эдуарда Надточыя, тэксты соцрэалізму адлюстроўваюць струмень жаданьняў масы "распаўсюдзіць індывідуальныя канфігурацыі біялагічных цел у татальнае роўнасьці элемэнтаў адзінага звышцела, жаданьня расьці, адвечна паўтарацца ў кожнай новай адзінцы..."[11] Паводле Барыса Гройса, мастацтва соцрэалізму карыстаецца дэміургічнаю практыкаю мадэрнізму, а таму й не зьяўляецца рэалістычным у традыцыйным сэнсе слова. Соцрэалізм — гэта хутчэй дэманалягічная мэдытацыя, тыпова сынкрэтычнае мастацтва. І тут наіўна сьцьвярджаць, што прадстаўнікі новае літаратурнае генэрацыі імкнуцца "беларусізаваць" нейкія "нянаскія формы", навязаць "чужынскі постмадэрнізм", "засвоіць зьнешні прыём" і г.д. Айчынны постмадэрнізм — зьява заканамерная, узгадаваўся ён якраз на глебе айчыннага соцрэалізму, карыстаецца ягонымі "дасягненьнямі" — канфліктамі, канцэптамі, тэматыкаю. Аб гэтым і сьведчаць п'есы Ігара Сідарука, напоўненыя як авангардоваю дэструкцыяй, так і соцрэалістычнаю нэгацыяй адносна рэцыдываў індывідуалізацыі адзінкі.

Цікавыя праявы постмадэрнізму можна знайсьці ў паэзіі апошніх гадоў, калі адкінуць постсоцрэалістычную псэўдарамантыку й "бел-чырвона-беласьць" зь ейным ілжэпафасам. У беларускай постмадэрновай паэзіі найперш адлюстраваліся архетыпы масавай падсьвядомасьці. Яны далі жыцьцё соцарту, канцэптуалізму й мэтафарызму-візіянэрызму. Прычым, як адзначалася вышэй, у друку зьявіліся ня столькі новыя імёны, колькі якасна новыя тэксты ўжо вядомых аўтараў, што дэбютавалі напрыканцы 80-х гадоў. Цяжка сьцьвярджаць, ці адбылася эвалюцыя эстэтычных поглядаў паэтаў гэтае генэрацыі, бо іхняя паэзія дужа эклектычная, а зьмест шматлікіх вершаў рэлятыўны. Але бясспрэчна адно: суаднольваньне адраджэнскае рамантыкі й авангардовае нэгацыі, мэтафарызацыі рэчаіснасьці й соцартаўскіх канцэптаў сьведчыць аб наяўнасьці постмадэрнізму.

Падобны сынтэз прысутнічае ў зборніках Славаміра Адамовіча "Кальварыйскія клёны"[12] і "Зямля Ханаан"[13]. Гэта дзівоснае спалучэньне паганскага міталягізму, сублімаванае як адраджанізм, з элемэнтамі урбанізму й тэхнакратызму, супраць якіх аўтар падсьвядома пратэстуе ды прапануе сэнтымэнтальны ідэал узаемаадносінаў спаміж людзьмі на ўлоньне натуры. Менавіта прырода для С.Адамовіча — невычарпальная крыніца натхненьня й адначасова аб'ект культу. Лірычны герой у вершах паўстае нібыта артадаксальны прыхільнік пантэізму. Аднак падкрэсьленая эклектычнасьць і эстэтычны анархізм дэфармуюць сапраўднае аблічча лірычнага героя. Ды й сам аўтар не хавае пад мэтафарычнаю маскаю раздвоенасьці ўласнае асобы, пра што гаворыць у сваёй прадмове "Прэлюдыя": "Я — маё любімае слова, мой знак сэнсабыцьця. Гаспадар майго цела ня любіць прышлых. Толькі ЁН і толькі Я. На двох у нас адзін твар, адныя вочы, што ўвабралі ў сябе чысьціню й бруд мільёнасьветаў..."

Увогуле справа не ў філязофскай заглыбленасьці, інтэлектуальнасьці, складанай мэтафарычнай сыстэме ды падобных азначэньнях, якімі крытыкі акрэсьліваюць тэксты альтэрнатыўных літаратараў. Напрыклад, Ігара Бабкова й Юрася Пацюпы, паэтаў у чымсьці блізкіх, але й аднačасова супрацьлеглых. Безумоўна, іх творчасьць аб'ядноўваюць характэрныя для абодвух аўтараў рысы: лучнасьць імправізацыі й лёгікі, зьмена аксіялягічных значэньняў, архетыповыя элемэнты міту. Адрозьненьні — вельмі істотныя — у крыніцах паэтычнае інсьпірацыі. Ігар Бабкоў будуе сваю мэтафарычную сыстэму на рэінтэрпрэтацыі гістарычных стыляў і гісторыка-літаратурных паралелях, узбагачае яе філязофскаю тэрміналёгіяй, прапануе постмадэрновую мадэль "сумежжа культур", зснаваную на геаграфічных (Парыж — Менск, Эўропа — Усход) і часовых (старажытнасьць — сучаснасьць) апазыцыях.[14] Ствараецца ўражаньне, быццам паэт адмаўляе досьвед айчыннае літаратуры. Юрась Пацюпа, наадварот, карыстаецца сымбалямі соцрэалізму — знакамі татальнасьці, гуляе кодамі мастацтваў розных ідэйна-эстэтычных эпох. Ягоную паэзію можна разглядаць аднačасова і ў кантэксьце мэтафарызму-візіянэрызму, і ў кантэксьце соцарту. Міталягізацыя архетыпаў масавай падсьвядомасьці й мэтафарызацыя акаляючай рэчаіснасьці, бадай, асноўныя кіты артыстычнае экзістэнцыі Юрася Пацюпы, які пераасэнсоўвае тэксты соцрэалізму, а эстэтычныя вартасьці гэтае творчае мэтоды падвяргае рэвалёрызацыі. Так адбываецца ў вершы

### САНЭТ МАЙГО ШЧАСЬЛІВАГА САВЕЦКАГА ДЗЯЦІНСТВА

*Палае сон пра дальнія краіны,*
*і пяцікутнае сьвятло зьвязды*
*на падушку ліецца, паязды*
*злучаюць мары у саюз адзіны;*
*вось соцрэалістычная карціна:*
*цьвітуць, нібы працоўны май, сады,*
*на палатне сьмяецца праз гады*
*ў пракураныя вусы дзед Скарына.*
*Ах, мне і сорамна, і страшна жыць,*
*бо я ня ўмею партыю любіць,*
*бо я нічога іншага ня ведаў;*
*а на гумавай трактарнай хадзе*
*праз стэпы атамная лодка едзе —*
*ад нас гасьцінцы ў камунізм вязе.*[15]

* * *

Элемэнты гіранічнае гульні знакамі розных гістарычна-культурных эпох, пэрформэнс, як эстэтычная правакацыя, тэатралізацыя мастацкага жыцьця, прынцыповы плюралізм ды разнастайнасьць і канкурэнцыя парадыгмаў робяць постмадэрн паўсюднаю зьяваю. Нездарма адзін з лідэраў наваёрскае эскпэрымэнтальнае школы Black Mountain College паэт-праэктывіст Чарльз Ольсан замяніў словы Картэзія "мысьлю — значыць існую" постмадэрністычнаю фармулёўкаю "забаўляюся– значыць існую" й запытаўся: "Ці ж ня маем мы на ўвазе гульню розуму, ці ж не яна ёсьць сьведчаньне наяўнасьці розуму?"[16] А спалучэньне інтэлектуальнасьці й забаўляльнасьці ў літаратурных творах спрыяе папулярнасьці самое літаратуры як галіны мастацтва. Гэта, бадай, аксіёма.

Безумоўна, прааналізаваць больш глыбока творчасьць айчынных літаратараў-постмадэрністаў у межах невялікае штудыі не магчыма. Дый ня гэта зьяўлялася задачаю артыкула. Дастаткова выявіць тэндэнцыі разьвіцьця літаратуры апошніх гадоў, каб пераканацца, што постмадэрновы прарыў на Беларусі рана ці позна, але адбыўся. Соцрэалізм, як адзіная дагэтуль творчая мэтода, трансфармуецца сёньня, з аднаго боку, у г.зв. адраджэнізм, з другога — у постмадэрнізм. Калі адраджанізм — гэта даволі шырокая й паўнаводная плынь, дык беларускі постмадэрнізм яшчэ толькі разьвіваецца, нарошчвае магутнасьці. Што тычыцца адраджанізму, дык ягоная экзістэнцыя абмежаваная "пераходным перыядам". Беларусь, калі яна стане сапраўды незалежнаю дзяржаваю, зь цягам часу мусіць інтэгравацца у Эўропу. Дый сам тэрмін "постмадэрн" мае больш шырокае значэньне. Гэта, паводле Арнольда Тойнбі, сёньняшняя фаза эўрапейскае культуры, прызнак якой — пераход ад палітыкі, якая абапіраецца на мысьленьне ў катэгорыях нацыянальных дзяржаў, да палітыкі, якая ўлічвае глябальны характар міжнародных зносінаў.

*1993 г.*

---

[1] Сыс А. Паэт // Пан лес: Вершы. Мн., Маст.літ., 1989.

[2] Назва канцэпцыі А.Сіняўскага ўмоўная, паводле перафразаванае мэтафары з ягонае працы 1957 году. Гл.Синявский А. Что такое социалистический реализм // Избавление от миражей: Соцреализм сегодня. М., Сов. писатель, 1990. С.54 — 79.

[3] Гройс Б. Соцреализм — авангард по-сталински/Декоративное искусство. 1990, № 5 (390). С.35 — 37.

[4] Вельш В. "Постмодерн". Генеалогия и значение одного спорного понятия // Путь. 1992, № 1. С.132.

[5] Аркуш А. Пад покрывам натоўпу // Ксэракс беларускі. 1993, № 4. С.48.

[6] Дубавец С. Практыкаванні: Проза, эсэ, крытыка. Мн., Маст.літ., 1992.

[7] Глобус А. Адзінота на стадыёне. Апавяданні. М., Маст.літ., 1989.

[8] Вельш В. "Постмодерн". Генеалогия и значение одного спорного понятия // Путь. 1992, № 1. С.133.

[9] Зимовец С. Дистанция как мера языка искусства (к вопросу о взаимоотношении соцреализма и авангарда). Даугава. 1989, № 8. С.122 — 125.

[10] Творчасьць згаданых аўтараў не зьяўляецца адно сьцёбавым соцартам, яна разнастайная, з элемэнтамі шматсэнсоўнае кадыфікацыі.

[11] Надточий Э. Друк, товарищ и Барт (несколько предварительных замечаний к вопрошанию о месте социалистического реализма в искусстве XX века). Даугава. 1989, № 8. С.114—121.

[12] Адамовіч С. Кальварыйскія клёны. Мн., Б-ка часопіса "Маладосць", 1990, № 7.

[13] Адамовіч С. Зямля Ханаан: Вершы. Полацк, Полацкае ляда, 1993.

[14] Бабкоў І. Solus Rex: Вершы, імпрэсіі, калоквіумы. Мн., Маст. літ., 1992.

[15] Пацюпа Ю. Санэт майго шчаслівага савецкага дзяцінства // Кола: Зборнік вершаў. Гродна, Белфондкульт., 1993. С.3.

[16] Kutnik I. Performens i postmodernizm w literaturze amerykańskiej // Akcent: Literatura i sztuka, 1991, nr 4 (46). S.53.

---

**1.** У ліку розных пазіцый, якія фармуюць прастору размовы аб літаратуры, — пазіцыя аўтара, чытача, даследчыка, — да гэтай пары застаецца не вывучанай і практычна не артыкуляванай спецыфічная пазіцыя літаратурнага дзеяча, арганізатара літаратурнага працэсу (гэтая пазіцыя адно часткова вырашаецца пазіцыяй рэдактара ці выдаўца, чыя прафесійная этыка не патрабуе таясаміцца з літаратурнай сітуацыяй у цэлым, а стасуецца адно з абраным накірункам). Між тым гэтая пазіцыя надзвычай актуальная для XX стагоддзя і дазваляе ўбачыць некаторыя найбольш шырокія заканамернасці сітуацыі і працэсу.

**2.** У складзе такіх заканамернасцяў — даўменне аб тым, што літаратурная прастора не проста сістэмная, а ўяўляе сабой сістэму сістэм.

**3.** У святле гэтага ўяўленне аб "альтэрнатыўнай літаратуры" як аб маргінальнай з'яве, якая мае тэндэнцыю (згодна адкрытаму Тынянавым закону літаратурнага развою) займаць месца ў цэнтры, патрабуе пэўнай карэкціроўкі.

**4.** У розных сістэмах літаратурнай прасторы маргінальнасць выяўляе сябе па-рознаму.

**4.1.** Можна казаць пра маргінальнасць з гледзішча мастацтва і з гледзішча культуры. Так, феномен "савецкай літаратуры", акрамя ўсяго іншага, у тым, што застаючыся глыбока маргінальнай з гледзішча праблематыкі мастацтва XX стагоддзя (якую яна, па сутнасці, ігнаравала), гэтая літаратура ўяўляе сабой безумоўны майстрым культуры савецкага таталітарызму (чыя, у сваю чаргу, маргінальнасць у кантэксце сусветнай культуры XX стагоддзя зусім не такая відавочная, як гэтага некаторым хацелася б).

**4.2.** Можна казаць пра маргінальнасць з гледзішча нацыянальнага і сусветнага літаратурнага працэсу. Вядомым прыкладам стае спроба ўвесці ў японскую паэзію еўрапейскую сістэму вершаскладання. Увогуле такі падзел вельмі актуальны для нацыянальных літаратур, якія вымушаны пераадольваць разрывы традыцыі: радыкальны авангард, які зноў з'явіўся ў расейскай літаратуры на мяжы 60-70-х гг. і які абапіраўся на перапыненую футурыстычную традыцыю 1910-1920-х гг. (гэты ж працэс, наколькі можна меркаваць, трохі пазней пачаўся ў украінскай і беларускай літаратурах), маргінальны і мае ў сабе сур'ёзны інавацыйны патэнцыял, хаця для сусветнага літаратурнага кантэксту авангард уяўляе сабой устойлівую плынь майстрыма. (У дужках заўважым — у сувязі з палемікай вакол "трох аркушаў" Алеся Туровіча, — што, на наш погляд, прыярытэтнасць таго ці іншага кантэксту для аналізу і ацэнкі той ці іншай

---

... Адзін з найсучасных папрокаў да тэкстаў хаўруснікаў новай літаратуры — брак асветніцтва. Хаця, я ўпэўнены, кожны з навалітаўцаў без асаблівай шкоды для здароўя праінтэрпрэтуе тэкст кожнага са сваіх абвінаваўцаў. У 60-х Эжэн Ёнэска, студзячы крытычны запал дзеячоў ад музыкі адносна п'есы Рамана Вейнгартэна "Гадавальніцы" пісаў: "калі паэт выяўляе ўвесь жах існавання ў вобразах, напоўненых жахам, яму кажуць, што ён не ведае, што гаворыць і што брэша, і слабенькія разумочкі вінавацяць у неразумнасці яго самога..."

Яшчэ адзін з папрокаў — гульня. Гэта несур'ёзна, гэта гульня, бо маладыя. Пераржованы ўсёй Еўропай, але не саўком Ёган Хэйзінга ставіць акцэнты гранічна: "Культура, так бы мовіць, заўсёды прагне быць разыгранай адпаведна пэўных правіл, сапраўдная культура заўсёды патрабуе сапраўднай гульні. Справядлівая гульня ёсць ні што іншае, як сумленне, выяўленае ў тэрмінах гульні. Той, хто падманвае ці бурыць гульню, руйнуе саму культуру. Каб быць здаровую культуратворчаю сілаю, складнік гульні павінен зберагаць чысціню. Ён не павінен зацямняць ці змяшчаць нормы, напрацаваныя розумам, вераю або людствам. Ён не павінен быць фальшам, падробкай, маскаваннем палітычных мэтаў, імітацыяй сапраўдных нормаў гульні. Шчырая гульня выключае ўсялякую прапаганду. Яе мэта — у ёй самой..." Вынікам гульні ў новую эстэтыку сталі жоўтыя карткі, вар'ятні, пазбаўленне грамадзянства, бамжаванне без надзеі...

Але ж так караюць толькі за палітыку, а за светапогляд? У тым і справа, што гульня і рэальнасць інтэграваны ў нешта непадзельнае. Непадзельнае — толькі тэкст. "... тэкст — як жывы арганізм, як другое "я" паэта, у якім усе адказы на ўсе запытанні, толькі не здраджвай яму" (Міхаліна Кацюбінска пра Стуса). Дзеля тэксту на плаху клаліся жыцці. Гэта істотна зразумець, седзячы ля каміна і дажоўваючы старыя запасы. Сухары старой эстэтыкі ўжо немагчыма размачыць, кодэкс гонару зняважаны і крык — што напамінае пра калабаранства — яшчэ адна спроба нагадаць пра сваё існаванне. Маральны змест таго крыку быў чысты і празрысты, без двухсэнсоўнасцяў і патаемных змыслаў, што сведчыць пра сур'ёзнасць гэтай дзеі. Але той

Дзмітрый КУЗЬМІН (Расія)

# ПРАБЛЕМА МАРГІНАЛЬНАСЦІ І ЗМЕНА ПАРАДЫГМЫ КРЫТЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ

## (Тэзісы да канферэнцыі "Альтэрнатыўная літаратура: новыя імёны новай Усходняй Еўропы")

літаратурнай з'явы вызначаецца мерай актуалізаванасці ў ёй спецыфікі нацыянальнай мовы).

**4.3.** Можна казаць пра маргінальнасць з гледзішча літаратурнай тэхнікі і з гледзішча оптыкі, якая прэзентуецца тэкстам: оптыка забойцы ў вершах Вепра Пятрова (літаратурная маска Ігара Леўшына), оптыка пубертата ў лірыцы Дзмітрыя Сакалова, урэшце, найбольш распрацаваная мадэль — гомасексуальная оптыка (не тэматыка!) у паэзіі, прозе, драматургіі Яўгена Харытонава і такіх яго пераймальнікаў, як Аляксандр Ільянен і Аляксандр Анашэвіч.

**4.4.** Можна, урэшце, казаць пра маргінальныя з'явы ў рамках пэўнага віду мастацтва, якія дэфармуюць ягоную прастору знутры, і пра маргінальныя з'явы, якія выламваюцца з гэтых рамак і мяняюць агульную марфалогію мастацтва і дэфармуюць прастору гэтага віду мастацтва ўжо звонку. Гэтая праблематыка лемантуе да моўкнасці тэарэтыкаў сённяшняга выяўленчага мастацтва і тэатра ў сувязі са з'явамі інсталяцыі і перформэнса, але і ў літаратуры шэраг з'яў ставіць з усёй вастрынёй пытанне пра перагляд межаў: гэта паперад усяго эксперыменты з адмаўленнем ад слова як асновы тэксту (на пачатку XX стагоддзя — А.Чычэрын, з сучасных рускіх аўтараў перш за ўсё Р.Ніканава і Сяргей Сігей), ці хаця б з перавагай відарыснага (графічнага) аспекту над гукавым (некаторыя працы Аляксандра Гарнона, Андрэя Сень-Сянькова і многіх іншых аўтараў, кнігі Людкі Сільновай "Рысасловы", якая ўводзіць гэтую праблематыку рускіх у беларускую традыцыю); тут жа не лішне згадаць праблемы "санорнай паэзіі" і "вакуумнай паэзіі" (тэрміны Р.Ніканавай), літаратурную (?) тэхніку ready-made і г.д.

**5.** Шматузроўневая структура літаратурнай прасторы, якая карэспандуе са шматузроўневай структурай тэксту, выключае, такім чынам, магчымасць татальных дыхатамій, якія дазволілі б перавесці пытанне пра маргінальнасці ("альтэрнатыўнасці" і г.д.) у ацэначную плоскасць. Вызначэнне ці самавызначэнне літаратуры як "альтэрнатыўнай" ("другой", "новай"...) становіцца метадалагічна некарэктным ва ўсіх ракурсах, акрамя адзінага — сацыяльнага (супрацьстаянне літаратурнай альбо палітычнай уладзе і г.д.).

**6.** Літаратурная сітуацыя настойліва патрабуе адмаўлення ад дыхатаміі, што імкнецца да парадыгмы супрацьстаяння, якая аджыла сваё яшчэ на рубяжы XIV — XV стст. і затрымалася ва ўжытковым крытычным мысленні адно ў якасці савецкага менталітэту. Ёй на змену павінна прыйсці парадыгма самастаяння, якая аналізуе і ацэньвае тэкст адпаведна з тымі ўнутранымі характарыстыкамі, што стасуюць яго з пэўнымі мовамі і ўзроўнямі літаратурнай прасторы і арганізуюць карэляцыю ўзроўняў у самым тэксце.

**7.** Трэба адзначыць, што менавіта выкладзены падыход, які народжаны оптыкай літаратурнага дзеяча, мог бы запоўніць дыскурсійны вакуум у сучаснай усходнееўрапейскай крытыцы і адэкватна дапоўніць сабой постструктуралісцкі падыход у оптыцы чытача і фармальна-структурны падыход у оптыцы даследчыка, тым самым пераадолеўшы непрадуктыўную і бесперспектыўную экспансію постструктуралісцкага вобраза мыслення ў крытыку і літаратуразнаўства.

Валянціна АКСАК

# АНТЫЧНЫ ДОЖДЖ

### ГЕФЕСТУ

*Бяссоніца,*
*як бессаромніца,*
*з вачэй здымае*
*покрыва павекаў,*
*аголеныя зрэнкі адбівае*
*люстэрка шыбаў.*
*Іх далей люструюць*
*за амальгаму промняў,*
*пазбаўленых вясёлкавай*
*апраткі,*
*дыёптры зораў.*
*Там ёсць далягляд,*
*дзе не прымружыш вочы,*
*і не схаваешся ў гушчэчы*
*вейкаў,*
*стракаты цень*
*не спросціць відарысы*
*бялюткай выспы —*
*змесціва Эрота.*
*Ты, мабыць, чуў,*
*што з семені Арэса*
*ўспухае выспа,*
*сын мой там расце,*
*мяне ён не пакіне*
*нават для Псіхеі.*
*У спрэчках з дзецьмі шлюбу*
*цябе ён бацькам*
*будзе называць,*
*але ж ты ведаеш,*
*што таленту кавальства*
*стае,*
*каб штосьці*
*мёртвае*
*ствараць.*

* * *

*Пялёсткі пальчыкаў*
*вакол галоўкі*
*спадобіліся*
*да суквету ружы,*
*бутончык набрыняў*
*у водах зіхатлівага Хаосу,*
*Сусвет успомніў*
*нешта пра былое,*
*паволі новым*
*кветам*
*расцвітае.*

### СІРЫНГА

*Галоўка кноту*
*постаццю манашкі*
*ўчарнела ў чырвані*
*вагню стаіць,*
*пах воску цноту засціць*
*і прымруж нянаскі*
*страчаю ў поглядзе*
*вачэй тваіх.*
*Такія прыцемкі*
*блукалі ў зрэнках*
*яснавяльможных*
*нетутэйшых ды*
*з парады Жыценя*
*нявестаў пекных*
*даслалі ім*
*паслужліва Дзяды.*
*Цяпер іх шлюбныя*
*пасцелі млечныя*
*ў аздобе марыва*
*з бясчасся сну,*
*жаной адпрэчнаю*
*з сяброўкай Мараю*
*я да цябе, мой Пан,*
*іду.*

* * *

*Люструймася,*
*Як Лада з Цёцяю,*
*жывая з мёртваю*
*і з брагай жмых.*
*Прыструньвайся*
*святло да поцемку,*
*папар да ворыва,*
*да шлюбных — мніх.*
*Красуймася*
*элінка й рымлянка,*
*Сапфо й Юдзіф.*

### САПФО

*З маіх пялёсткаў*
*Геліос даўно*
*расу й кунегу,*
*як віно,*
*збірае,*
*Гею жывіць імі.*
*На донцы ў асяродку*
*вільгаць быць*
*заўсёды мусіць,*
*іначай Гея,*
*нератомленая ўдзень*
*турботамі стварэння*
*новых ружаў,*
*не згасіць уначы*
*гарачкі пасляроднай...*
*Алкей з'явіўся тут.*
*Ад неспатольнай смагі*
*шорсткі корань.*
*У вытертанай глебе*
*куртызанак*
*ён марна цэлы дзень*
*шукаў крыніцу,*
*і прыгадаў бутон*
*з жывіцаю нязводнай,*
*не меўшы нат патрэбы*
*сумнявацца ў тым,*
*ці ўся яна*
*яму належыць.*
*Бо ўранні так бывае —*
*гневаецца Эос,*
*не акрапляе звялыя*
*суквецці,*
*і высnажаны коранем*
*настырным*
*мой асяродак*
*скрышыцца.*
*Пялёсткі*
*Эол падхопіць,*
*Пасейдону перадасць,*
*аквамарын ягоны*
*бутон ускрэсіць.*
*Убачыўшы мяне ізноў*
*жывою ў хвалях,*
*Алкей гулліва ўсклікне —*
*Панна Афрадыта!*
*Трызубец Пасейдона*
*шал астудзіць,*
*корань перасмяглы*
*ўпадзе,*
*як састарэлы сук...*
*А Лесбас*
*ружамі замлее,*
*адна адную*
*яны імгліць*
*расою будуць.*

Уладзімір ЦЫБУЛЬКА (Украіна)

# НОВАЛІТАРЫЗМ, або "НОВЫХ" "СЛОВЕС ТОЛКОВАНИЕ"*



крык быў пачуты ўсімі, акрамя тых, каму ён адрасаваўся.

Эстэтызацыя палітыкі, выкліканая перш за ўсё палітызацыяю эстэтыкі, не азначае яе ачалавечвання. Проста палітыка губляе сваю ўплывовасць праз традыцыйныя палітычныя прыёмы і таму будзе змушана імкнуцца да гуманізаваных, эстэтызаваных формаў і шляхоў, аж да моманту падмены паняткаў. Камуністычная практыка апошніх дзесяцігоддзяў адпрацавала гэты езуіцкі прыём да найвышэйшай дасканаласці; аперыруючы асноўнымі сродкамі інфармацыі, атрымалася нават пераканаць ахвяру, што кат ёсць яшчэ большаю ахвяраю, і таму кат не толькі мусіць быць забяспечаны прывілеямі, але ахвяра яшчэ павінна спачуваць кату за ягоную ахвярнасць. Вось такі параліч свядомасці.

Пасля маршавання ў калонах так хочацца павалэндацца адзінотнікам, пасля суб'ектывізму агулу заканамерна прыходзіць суб'ектывізм індывіда. Пануючы цяпер постмадэрнізм ёсць не што іншае, як панаванне суб'ектывізму індывідаў, прусачыныя пераганкі творчых эго, політэізм, паганства. Постмадэрн (паводле О.Дубовіка) толькі адна з апошніх выяваў сапраўднага ўсведамлення небяспекі, якая пагражае цывілізацыі ў цэлым. Гэта ідэя агульнай долі, цэласнасці культуры, пераход ад "паразнай" занядбанасці рэальнага чалавечага быцця да жыцця ў культуры, культураю і для культуры — як адзінага паратунку. Зноў на кругі свая, толькі ўжо з досведам дэгуманізацыі, з досведам паралічa свядомасці. Але ж з часам змяняюцца нават функцыі звычайных рэчаў, а з тэхналагічнай пульсацыяй нараджаюцца новыя функцыі акаляючага нас асяродка, трансфармуючы адпаведна і псіхічныя рэакцыі. Ведаючы, што новае хрысціянне, як постпаганства, мусіць адбыцца рана ці позна, новая эстэтыка зможа зрэзанаваць толькі ў варыянце дакладна вылічанай стадыі, у якой ёсць чалавецтва ў набліжэнні да новага хрысціянства. Новая кан'юнктура, кан'юнктура новай літаратуры якраз у тым і палягае — у пошуку рэзанансу, у фіксацыі стану грамадства ў цяперашні момант, у матывацыі паводзін асобы на зломе ідэалогіі і маралі. Удзячны для творчасці час перанараджэння замкнутага грамадства — гэта яшчэ адна спроба засваення пакаленнем, здатным адно падлічваць страчанае, але якое пры гэтым яшчэ намагаецца тварыць свой шлях засваення не ім згубленага. У гэтым плане новалітарызм — эстэтыка страчанага: эстэтыка яшчэ не прыватніка — эстэтыка ўнука прыватніка...

Кулішоўскі народ, гераічна-эпічныя дзядзькі ніколі не заселяць тэкстаў новай літаратуры хаця б таму, што іхняя псіхіка настроеная ў першую чаргу на пачуццёвае ўспрыняцце, а не на нюансы сітуацыйных матывацый. Абагульняючы тыпаж мусіць шукаць сваю адпаведнасць у тэксце, тэкст мусіць адпавядаць рытму рэальнасці, а з'яўленне новатэхналагічных мастацтваў, асабліва відарысных, змушае вызваляць тэкст ад завалаў апісальнасці, звяртаючы большую ўвагу на лінгвістычныя слоўна-моватворчыя моманты і на пошукі асноўнай прычыны псіхікі таго асяродка і тыпажу, што выяўляюцца. Не памяць упадаблення, а памяць засваення засяляе новалітарны тэкст, што, як ні дзіўна, і ёсць аб'яднаўчай ідэяй і для маргінэсу, і для нуварышаў; герой новалітарнага тэксту гатовы да засваення, ён шукае сваю незасвоеную прастору — і толькі тут і цяпер; згодна Шапэнгаўэру форма волевыяўлення — ні мінулае, ні будучае, а толькі цяперашняе; першыя два існуюць адно для дзеі свядомасці, падпарадкаванай рацыянальнаму прынцыпу. Ніхто не жыў у мінулым, нікому не выпадзе жыць у будучым: цяперашчына і ёсць форма жыцця. Уцёкі ад цяперашчыны — абсурдны прыём сацрэалізму. Сусветнае дрэва можна ўціснуць у адну выяўленчую плоскасць, але нават яго сімвалічнае адлюстраванне патрабуе некалькіх ракурсаў, а значыць і ўзроўняў, — сітуатыўна нават адно слова, напісанае на сцяне, можа быць актам паэзіі, калі фактура сцяны зможа быць антытэзаю гэтаму слову, або нечым такім, што здолее паглыбіць асацыяцыю да ўзроўню сімвала, які справакуе да дзейнасці шматвымерны ўспрымальны апарат чалавека. Цяперашняе як выяўленчая катэгорыя прадбачыць існаванне мінулага і будучага, але не болей. Цяперашняе — гэта двухбаковае люстэрка і ў яго глядзяцца мінулае і будучае, аднак пры гэтым матэрыялізуецца толькі цяперашняе. Само існаванне новалітарызму — амаль абсалют; працэс, які не прадбачыць завяршэння — тварэнне мовы; зрэшты мова і ёсць галоўны герой новалітаўскіх тэкстаў. Манатэізм мовы мажліва і стане завяршэннем постталітарнага паганства, політэізму такіх, што самапаўтараюцца, эстэтык. Аднойчы Борхес (той, што косіць паляны за С.Квітам) прыдумаў такое апавяданне ў духу Леона Блуа: пэўны тэолаг пакладае сваё жыццё, каб павергнуць пэўнага святара. У хітрамудрых спрэчках ён бярэ над святаром вяршэнства, выкрывае таго, дамагаецца яго спалення, але, патрапіўшы на неба, даведваецца, што для Бога ён і святар былі адной і той жа асобаю.

Аб'явіўшы галоўным героем мову, мы далучыліся да больш маштабнага спасціжэння сутнасці ўжо не зважаючы на сваю ролю тэолага ці святара — у грамадстве падмененых паняткаў улада заўсёды надае пазітыўнае значэнне лаяльнаму да сябе мастацтву. Таму актыўнасць нашых апанентаў тлумачыцца арыфметычна-прагрэсіўна ў залежнасці ад меры іх прыкарытніцтва ці стукацкай эпісталярнасці. Такім чынам, соцыум і ўлада — наступныя пасля мовы пытанні, — сярэдзінны ўзровень новалітарызму, этнас і дух — трэці, асновядны ўзровень сусветнага дрэва новалітарызму. Нам трэба шукаць паралелі свайго метаду ў розных адзнаках Гайдэгераўскага стылю, як то: скрупулёзнае вывучэнне моўнай формы, пранікненне ў дух старажытнага мыслення, адважны пераход ад старажытнасці да найактуальнейшых праблем сучаснасці. Мы былі сведкамі аднаго з уражваючых Гайдэгераўскіх прадбачанняў: "... атамны век пагражае нам яшчэ большай небяспекай якраз у выпадку, калі пагроза трэцяй сусветнай будзе знята. Дзіўнае цверджанне, ці не так? Зразумела, дзіўнае, але толькі да той пары, пакуль мы не мыслім. У якім сэнсе вернае гэтае цверджанне? А ў тым, што тэхнічная рэвалюцыя атамнага веку зможа захапіць, зацугліць, асляпіць і адурыць чалавека так, што аднойчы матэматычнае мысленне станецца адзіным дзейным і ўжытковым спосабам мыслення..." (...)

Голас пра безбіяграфічнасць удзельнікаў новалітарнага працэсу пралунаў, не закрануўшы свядомасці адрасата, і не ўзбудзіў чаканай дыскусіі. Але ж следствам такой дыскусіі магло стаць не толькі тыканне сляпых кацянят — шануйце іерархію! Можа, тады і паўстаў бы на экранах вобраз новалітарнага героя, рамантызавана-малажавага, які, дапяўшы мікрафона, крыкнуў бы, як на божым судзе: "вы ўсе для мяне — адно,

(Заканчэньне на стар. 12)









# НОВАЛІТАРЫЗМ, або "НОВЫХ" "СЛОВЕС ТОЛКОВАНИЕ"*

*(Заканчэньне. Пачатак на стар. 10,11)*

адно для вас і я, давайце будзем узаемна добразычлівымі, толькі памятайце — пасягнуўшы на маю свабоду, вы страціце сваю. Колькі там мільёнаў тых, на кім стаіць украінскі мацярык, абаронены пакуль што, і навекі, адным ваяром — словам. Іншы аніка-воін наўрад ці з'явіцца, хіба абывацельства ваенізуецца псіхічна да стану свайго пабытовага рэкету. І ўсе закіды старэйшага пакалення гэта крык таго, хто тоне ў палонцы, якую сам для сябе выдзяўб, — знямоглы Адам вашага мастацтва затуляецца пажухлым лістком; адзінае, што зразумела пры гэтым, што ўласна мастацкая шкарлупіна не ратуе ідэалагічнага зместу вашай пісаніны; самотнасць і адзінокасць майго пакалення — па словах Івана Драча: гульня ў самотных ваўкоў — нішто іншае, як непазбежны адыход ад вашай партыйнай арганізацыі і партыйнай літаратуры. Ваша пісьмо, момантамі найдасканалейшае, згубілася ў ваколпалітычнай мышынай бегатні. І за гэтым завіханнем і мігуснёй незаўважна перарвалася традыцыя, і ўжо недзе ў пад'ездах ды лагерах, творчасцю адольваючы самазаспакоенасць, грамадства пачало адраджаць сябе наноў (застаючыся пакуль вульгарным і хімерычным у густах ды псіхіцы). Карэнны конь славянства намагаецца стаць пегасам, не выпрагаючыся з воза; кіроўца пасля інсульта не ў стане размаўляць, але спрабуе кіраваць тым паўставаннем, натоўп рагоча: дык хто дзе пасажыр? І нават выпадзенне з каляіны стылю ўжо не з'яўляецца злачынствам, бо злачынная сама каляіна — мы не хацелі, ды нас прывялі. Так прывялі ў эміграцыю на ўласнай зямлі, у Глеваху ды на Чарторый. Прывялі? Муха з валом таксама аралі, але пасля работы вол маўчаў. Вол пасля пералому 1991 года маўчыць, як маўчаў і да пералому. Ягоная справа — ралля і ралля незалежна ні ад чаго родзіць, у адрозненне ад кнігавыдавецтва і маралі, фармуючай сілай якіх і былі цяперашнія мае перабрэхачы, прыкарытнікі ўсіх улад. Ніводнай непрадажнай улады за апошнія трыста год у гэтых краях немагчыма прыгадаць".

Гэта змадэляваная сітуацыя, у выніку якой сівыя валасы і разуменне таго, што праўдаю ў вочы нічога нельга змяніць, але перліны гэтага сітуацыйнага досведу прымушаюць да чыну мысліўнага, разумовага і маральнага. Можна ўявіць іерархічную піраміду з тымі ці іншымі персаналіямі, але апраўданнем існавання застаецца толькі мараль як адна з прычын волі да мыслення. Тарас Вазняк нагадвае нам даўно вядомыя словы Эклізіаста: "Усё ўжо было" — і працягвае — аднак было ў тым сэнсе, што ўсё было закладзена ў сусвет з самага пачатку як патэнцыя. І зусім інакш у такім не-вольным свеце будзе выглядаць і мараль, дзе яна стане арганізуючай структурай, — як змярцвелы прарыў, як тыя дзесяць запаветаў, што адкрыліся Майсею і закамянелі ў скрыжалях. Сімптаматычны і сам вобраз тых скрыжаляў — яны высечаныя з каменю. Хіба можа быць больш пераканаўчым вобраз закону, закону сусвету? Матэрыяльнага, закамянелага.

Вось тут і паспрабуем запярэчыць Тарасу Вазняку, перанёсшы акцэнт з матэрыяльнасці на аб'ект. Аб'ектам у свеце пазаматэрыяльным і пазачасавым з'яўляецца тэкст. Тэкст у сваёй нематэрыяльнай выяве і ёсць уласна часам. Уяўляючы тэкст у часе, мы тэкстам і творым уласна час. Мова, будучы героем і аб'ектам навалітарнага аб'екту, ёсць адначасна і завяршаючым эліпс змыслам. Уёс замыкаецца ў пэўны прычынна-паследкавы эліпс — тэкст. Што да складнікаў, гэта значыць прычын і абставін стварэння канкрэтнага тэксту, то яны застаюцца падставай для адасобленых аб'ектаў доследаў, доследаў як нашчадкаў тэксту, якія ўжо ніяк не ўплываюць ні на трансфармацыю, ні на пераадкрыццё ўсё новых і новых рэзанатараў, што панукаюць да ўсё новага і новага чытання тэксту. У гэтым сэнсе скрыжалі ёсць матэрыяльным упадабленнем тэкставасці сусвету. Мусім на момант адасобіцца ад правакуючага творчасць ірацыю і ўсвядоміць, што ідэальны тэкст ўсё ж не за межамі магчымага, мусім раз і назаўсёды адрозніць для сябе магчымыя ракурсы для аналізу і тэксту і творцы: соцыум соцыумам, ідэалогія ідэалогіяю, мастацтва мастацтвам, псіхалогія псіхалогіяю. І што б хто ні казаў, але толькі прагматызм кіраваў творцамі найідэальнейшых тэкстаў, зноў жа Гайдэгераўскі варыянт узнікнення пагрозы яшчэ большай у выпадку знікнення наяўнай. Адсюль у выпадку знікнення новалітарнай гульні, як найбольшай пагрозы ў вачах апанентаў, з'явіцца гульня іншых сілаў, гульня не інтэлекту, а гульня свастыкі — мясцовым шыкльгруберам так пасуюць лампасы маскоўскага вырабу — гэта ж нашыя.родныя апаненты, так і не зразумеўшыя крыку пра калабаранства, спрычыніліся да іх з'яўлення. Мы ж, верачы ў абсалют тэксту, спадзяемся, што ў лацінскім ludens (від Homo ludens) славянін пачуе: людства. Наіўная філалогія наіўнага грамадзяніна ў псеўдадзяржаве. Наіўнае разуменне творцы тэксту, што на яго няма нават каменя — усе каменні пайшлі на ПСС, а партбілеты на даносы як на найактуальнейшы жанр багатай творчасці нашых нібыта калег. Ці не да месца тут будзе прыгадаць страшную і сумнасімвалічную прытчу Макарыя Каніўскага, у якой каты адсеклі яму галаву і кінулі цела і галаву ў Днепр. І пайшло цела яго за галавою... І пайшла галава яго супраць плыні.

Дык хто ў нашым часе цела, а хто вада, хто галава, а хто кат? На ўсе гэтыя запытанні даць адказ можа толькі час. Час, што ўжо пачынае закіпаць у новалітарных рэтортах.

* Тэкст падаецца ў скарочаным выглядзе.

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў.*

МАСТЫХІН

# ШКОЛА СТВАРЭННЯ СУЧАСНАСЦІ

## Да 75-годдзя БАЎХАЎЗа

Летась беларускі мастак М.Баразна наведаў федэральную зямлю Нямеччыны Паўночны Рэйн — Вестфалія і меў магчымасць сустрэцца са старэйшым мастаком Гайнрыхам Ноем, што жыве ў мястэчку Бокхарст. Цікавасць да гэтага творцы ў нас далёка не прыпадковая, бо гэта адзіны паслядоўнік і жывы вучань Васіля Кандзінскага, які не стамляецца падкрэсліваць сваю далучанасць да "віцебскай школы", прагне зрабіць у Беларусі сваю выставу і нават прыехаць на адкрыццё, хоць яго ўзрост не вельмі спрыяльны для далёкіх падарожжаў. Як так сталася, што Гайнрых Ной, ніколі не быўшы на нашай зямлі, мае такую сімпатыю да яе? Канешне, дзякуючы свайму вялікаму настаўніку, што прыехаў у Нямеччыну пасля Віцебска з вялікімі ідэямі, знаходкамі, здолеўшы паўплываць на сваіх студэнтаў, не аднойчы распавядаючы аб той вялікай мастацкай рэвалюцыі ў Беларусі, сведкай і ўдзельнікам якой быў сам. Але і на нямецкай зямлі ўжо кіпела творчая прага ўсебаковага абнаўлення, як толькі рэвалюцыя вызваліла нацыю з-пад уціску кайзераўскага мілітарызму. У непасрэдным кантакце ўзгаралася небывалая творчая энергія, якая яднала нямецкіх мастакоў і іх замежных калег, што з'ехаліся з мэтай выкладання ў самых рэфарматарскіх і нетрадыцыйных формах.



А пачалося ўсё з таго моманту, калі ў сакавіку 1919 года вядомы архітэктар-наватар Вальтэр Гропіус узначаліў у цюрынгскім горадзе Ваймары Вышэйшую мастацкую школу, якая атрымала назву "Дзяржаўны БАЎХАЎЗ" (Летась быў 75-гадовы юбілей БАЎХАЎЗа). У літаральным перакладзе гэта б азначала "Школа будаўніцтва дамоў", але у сваім вобразным сэнсе новы тэрмін сімвалізуе вялікую рэформу і кансалідацыю ўсіх відаў мастацтва і архітэктуры да стварэння аднаго сучаснага стылю жыцця. Так праз некалькі месяцаў пасля абвяшчэння ў Ваймары рэспублікі (лістапад 1918) гэты горад стаў адной з новых рэвалюцыйных сталіц мастацтва.

У маніфесце школы Вальтэр Гропіус падкрэсліваў наступнае: "Давайце створым новы цэх рамеснікаў без фанабэрлівасці, што расслайвае на класы, што мкнецца ўзвесці высакамерны мур між рамеснікамі і мастакамі". У падставе праграмы навучання ляжала адвечная ідэя інтэграцыі ўсіх відаў мастацтва і сінтэз іх у архітэктуры. Таму калектывізм агульных намаганняў увенчаны ў новай архітэктуры, дзе няма межаў між структурнымі і дэкаратыўнымі пачаткамі. Форма і яе эстэтыка залежаць ад функцыі, што творыцца ў згодзе шматлікіх прафесіяналаў, якія выхаваныя ў рэчышчы адной стылістычнай наватарскай канцэпцыі. Яны робяць культурна-рэчавае абнаўленне свету, каб чалавек мог быць гарманічна-развітым і выхаваным на ўзорах новай эстэтыкі.

Як арганічна блізкая гэта ідэя да маніфеста віцебскіх сцвярджальнікаў новага мастацтва, што намагаліся, літаральна кажучы, "перавярнуць свет" і зрабіць яго годным сучасных перамен: "Мы заклікаем дзейнічаць, галасаваць, рухацца не толькі тых, хто творыць мастацтва, але таксама нашых сяброў кавалёў, наладчыкаў, меднікаў, каменячосаў, бетоншчыкаў, ліцейшчыкаў, цесляроў, канструктараў... — усіх тых, хто стварае ўтылітарны свет рэчаў, каб нам усім разам стварыць на зямлі новыя формы і новыя кірункі" (з матэрыялаў УНОВИС за 1920 год). Таму так варта прыгадаць пра пачаткі замежнай школы, з якой можна яшчэ шукаць і шукаць размаітых повязей, кантактаў, звязаных з асобамі і вялікімі творчымі здабыткамі.

Услед за кіраўніком у школу прыйшлі такія разнастайныя творцы, як швейцарац Ёханэс Ітэн, немцы Герхард Маркс, потым Пауль Клее, Оскар Шлемер, Жорж Мухэ і інш., а ў 1922 годзе, пасля закрыцця віцебскай школы, — Васіль Кандзінскі і потым венгерац Ласла Магой-Надзь. Яны стварылі надзвычай дэмакратычную форму навучання мастацтву. Не было "афіцыёзнай" прафесуры. Ніхто не давіў сваім аўтарытэтам. Былі проста студэнты і старэйшыя калегі — майстры, што дапамагалі засвойваць самыя новыя прадметы ў галіне канструявання, архітэктурнага праектавання, колеразнаўства, малявання з натуры, новых прынцыпаў рэкламы, сцэнаграфіі і да т.п.. Не выпадкова, што першыя таленавітыя выпускнікі, як Ёзаф Альбэрс і Марсель Броер становяцца потым выкладчыкамі-майстрамі школы, а многія іншыя пачынаюць рэфармаваць свет рэчаў ва ўсіх галінах прафесійнай дзейнасці як дызайнеры, архітэктары, фотамастакі, друкары і да т.п.



Вальтэр Гропіус і яго паплечнікі паслядоўна пашыралі наватарскую канцэпцыю: "служыць сучаснаму развіццю жытла, пачынаючы з простага побытавага прадмета і завяршаючы гатовым жылым ці грамадскім будынкам". У 1923 годзе ў Ваймары прайшла значная культурная падзея — выставовы, музычны, тэатральны "Тыдзень БАЎХАЎЗа", на якім ганаровым госцем быў сярод іншых навукоўцаў і мастакоў — Марк Шагал. Думкі рэзка падзяліліся. Дэмакратычнае, творчае асяроддзе горача вітала маладыя пачынанні, а кансерватыўныя колы, што марылі пра рэстаўрацыю імперскай дзяржавы, успрынялі як "ворага №1", што перакрэслівае іх агрэсіўныя планы.

У сувязі з цемрашальскімі цкаваннямі, школа пераязджае ў больш дэмакратычны прамысловы горад Дэсаў — зямлі Саксонія — Анхальт. Тое адбылося ў 1925 годзе і азначае класічны перыяд дзейнасці БАЎХАЎЗа. Сведчаннем — новы будынак школы па праекту В.Гропіуса і іншыя міжнародныя здабыткі ў галіне практычным і тэарэтычным. Школа стала найбуйнейшым еўрапейскім асяродкам, лабараторыяй па выпрацоўцы эталонаў сучаснага міжнароднага стылю. З ёю былі звязаны лепшыя архітэктары свету першай паловы XX стагоддзя. Тут утварылася фенаменальная супольнасць творцаў сучаснага жывапісу і графікі па прынцыпах фармальнага сінтэтызму ўсіх магчымых вобразатворчых пачаткаў. Суполка называлася "блакітная чацвёрка", а яе сябры — В.Кандзінскі, П.Клее, А.фон Яўленскі і Л.Файнінгер. Прынцыпы сучаснага балета выдатна пашыраліся дзякуючы канцэпцыям О.Шлемера, як і яго тэарэтычным схільнасцям.

З 1927 года пачынае выходзіць часопіс "БАЎХАЎЗ", дзе друкуюцца як супрацоўнікі школы, так і ганаровыя госці. Пачалі выходзіць і асобныя выданні ў бібліятэчцы школы. Як, напрыклад, "Беспрадметны свет" К.Малевіча, яго працяг віцебскіх тэарэтычных абагульненняў. Аўтар у 1927 годзе наведаў гэту школу і правёў вялікую працу па наладжванні сувязей, абмену ідэямі і да т.п. Гэта магло б яшчэ больш узняць узлёт новага мастацтва для гуманістычнай перабудовы свету. Але, на жаль, як на Усходзе, так і на Захадзе ўжо насоўваліся карычнева-чырвоныя хмары агрэсіі і таталітарызму. І першым сведчаннем нецярпімасці да новага мастацтва была яго забарона ўладамі фашыстоўскай Германіі і сталінскага Савецкага Саюза.

У 1928 годзе Вальтэр Гропіус пакідае школу. Але яго наступнікам, дырэктарам Ханэсу Майеру і Людвігу Міс Ван дэр Роэ не ўдалося выратаваць становішча. У 1932 годзе БАЎХАЎЗ пераязджае ў Берлін, а ў наступным новая ўлада — нацыянал-сацыялісты, што прыйшлі да ўлады на выбарах пры дапамозе палітычнага папулізму, распачынаюць тэрор у мастацтве, ахвярай якога сталі дзеячы БАЎХАЎЗа. А неўзабаве і сам будынак школы быў разбураны, як "узор архітэктурнага выраджэ_нства".

Але на гэтым не спынілася гісторыя новага мастацтва. У 1937 годзе ва ўмовах эміграцыі ў Амерыцы В.Гропіус, Л.Міс Ван дэр Роэ, Л.Магой-Надзь у горадзе Чыкага працягнулі сваю дзейнасць у "Новым БАЎХАЎЗе". І росквіт архітэктуры, дызайну, мастацтва Новага Свету ў 40-х — 80-х гг. — адзін з вынікаў гэтае вучобы. Увогуле, уплыў дзейнасці БАЎХАЎЗа ў свеце агромністы. Многія пасляваенныя здабыткі сучаснай культуры развіваюцца па яго прамой лініі, закладзенай у Дэсаў, Ваймары. І зараз, калі наша краіна скінула ідэалагічныя путы таталітарызму, прыгадаць пра юбілей школы вельмі актуальна. Гэта значыць разумець і гісторыю, і будучыню. Заўважым, 75 гадоў — тэрмін даволі сімвалічны, бо гэта своеасаблівая апазіцыя, альтэрнатыва, што існавала насуперак усяму цемрашальскаму, анты-сучаснаму, пачварна панаваўшаму на зямлі вялікага наватарства. І менавіта зараз, калі нам трэба пачынаць асвойваць прастору сучаснасці ў нашым незалежным жыцці, хоць цемрашальства яшчэ не склала зброі, гэты юбілей прыгадвае, як і з чаго пачынаць, каб яшчэ раз "...усім разам ствараць на зямлі новыя формы і новыя кірункі".

**Яўген ШУНЕЙКА**

*На здымках:*
будынак БАЎХАЎЗа і кампазіцыя В. КАНДЗІНСКАГА, выкананая ў 1923 г.

# АЧЫШЧЭННЕ ГУМАНІЗМАМ

У праграме вялікіх утопій, якія нарадзіліся на беларускай, нямецкай і галандскай зямлі ў першай палове XX стагоддзя (УНОВІС, БАЎХАЎЗ, "ДЭ СТЫЛ") ёсць ідэі аб абсалютным пераўтварэнні грамадства сродкамі мастацтва і архітэктуры. Эстэтызаванае асяроддзе павінна вызваліць чалавека ад ціску сацыяльных супярэчнасцяў і канфліктаў, што маюць свае вытокі ў хаатычнасці грамадскіх дачыненняў, люмпенізаванасці, духоўнай прыніжанасці людзей. Інтэлект, розум індывідуума, логіка яго паводзін — вышэйшая і гуманная зброя, якая выратуе чалавека. Гэта, так бы мовіць, мятла, якая вымеце ўсё смецце, закладзенае стагоддзямі ў свядомасць, калі афіцыйнае мастацтва апраўдвала, услаўляла, узвялічвала прыгнёт большасці людзей меншасцю, гвалт дзяржавы над асобай. Разумны чалавек імкнецца да гармоніі і маральнай чысціні. Абмежаваны, наадварот, не давярае свайму мысленню, схільны падпарадкавацца ўсялякім псіхозам, гатовы апраўдаць любое насілле, не церпіць ніякіх перамен.

Але колькі можна выкарыстоўваць "гома анты-сапіенса" для варожых яму мэтаў! Мастацтва змагаецца за чалавека самым гуманным шляхам. Вялікімі ўтапістамі XX стагоддзя былі супрэматысты, канструктывісты, функцыяналісты, нэапластыцысты. Іх вялікія праекты на паперы былі рэцэптамі выздараўлення чалавецтва. Архітэктурная прастора 1920-х гадоў стала першым прыкладам гуманізацыі асяроддзя, фарміравання зусім новых псіхалагічных стэрэатыпаў. Мэта гэтай архітэктуры — грамадства, арганізаванае па законах здаровага сэнсу. Абстрактныя жывапіс, графіка і пластыка, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, дызайн пачалі мяняць уяўленні аб "нязменнасці стэрэатыпаў". Творцы новай культуры хацелі новай рэчаіснасці, новага свету ў выніку ачышчэння мастацтвам. Але менавіта войны, што абудзілі сілы зла і разбурэння, не дазволілі рэалізавацца гэтым праектам у такой ступені, калі ўжо немагчыма было б вярнуцца да старога, ідэалагізаванага мастацтва. А можа і сапраўды толькі мастацтва ў стане развязаць вузлы грамадскіх супярэчнасцяў?

Але як бы то ні было на справе, ідэятворцы 20-х гадоў К.Малевіч, В.Гропіус, У.Стрэмінскі, П.Мандрыян ды іншыя ў гэта свята верылі.

У канцы стагоддзя мы міжволі азіраемся назад. Што адбылося на нашай зямлі за гэты час? К.Малевіч марыў аб архітэктуры, разумнай супрэматычнай будучыні, агульнай для Старога і Новага свету. Калі параўнаць гэта з сённяшнім днём — атрымаецца сумная карціна заняпаду. Стыль казарменнага, амаль канцлагернага жыцця з бяссэнсавай працай ніяк нельга лічыць увасабленнем той мары. На жаль, за пазітыўнымі



прыкладамі трэба звяртацца да чужога вопыту...

Летась мінула 50 гадоў, як адышоў з жыцця славуты мастак-жывапісец Піт Мандрыян. У ціхай Галандыі, на яго радзіме, за гэты перыяд многае здзейснена паводле ягоных праектаў. У Амстэрдаме нарадзілася цікавая ініцыятыва — правесці выставу "Вялікая Утопія", што пазалетась літаральна ўскалыхнула нашыя эстэтычныя арыенціры. Прыклады пацверджваюць вартасць "утопій" у рэальнасці. На пачатку 50-х гадоў архітэктар Альда ван Эйк у гонар сваіх вялікіх нэапластыцыстаў-папярэднікаў збудаваў вялікі дзіцячы дом у Амстэрдаме. Гэта пабудова па сваёй канструкцыйнай яснасці і гарманічнасці нагадвала жывапісныя кампазіцыі П.Мандрыяна і была ўзорам новага асэнсавання прасторы. Твор архітэктуры па сутнасці стаў помнікам вялікаму мастаку-творцу, які належыць не толькі Галандыі, але і ўсяму свету. Сёння нам нельга абмінуць маўчаннем зусім невясёлую гадавіну, звязаную з памяццю Піта (дакладней — Пітэра Карнеліуса) Мандрыяна (1872-1944), летась споўнілася 50 год з дня ягонай смерці.

Няма пільнай патрэбы паўтараць ужо вядомыя факты біяграфіі і мастацкай перыядызацыі. Але вельмі актуальна падкрэсліць духоўна-гуманістычны аспект творчасці П.Мандрыяна. Здаецца, усё было наладжана ў асабістым жыцці настаўніка малявання з Амстэрдама, які вырас у строгай кальвінісцкай сям'і. Але ў 1892 годзе ён паступіў на жывапіснае аддзяленне сталічнай Акадэміі мастацтваў і больш ніколі не спазнаў уладкаванасці, багацця, стабільнасці. Усё для іншых, для гарманізацыі свету. Гэтым і праславіўся, і атрымаў (непараўнальны з матэрыяльным самазадавальненнем) аўтарытэт трэцяга ў Галандыі генія пасля Рэмбранта і Вінцэнта Ван Гога.

Ён не мог не звярнуць увагі на ідэі галандскага містыка, яго сучасніка Шоэнмаэкерса, тэорыя якога грунтуецца на барацьбе супрацьлегласцей — актыўнага і пасіўнага пачаткаў, духа і матэрыі, мужчынскага і жаночага сэнсу. Гэтая барацьба з'яўляецца галоўным рухавіком развіцця Сусвету і характарызуе яго двухкірункавасць: вертыкаль і гарызанталь. У першым выпадку — гэта мужчынскі пачатак, прастора, статыка, гармонія, у другім — жаноцкасць, час, дынаміка. Уся рэчаіснасць абапіраецца на гэтую канструкцыю. Трэба было толькі маладому жывапісцу знайсці выяўленчыя сродкі, каб выявіць гэтую ідэю.

Піт Мандрыян маляваў дрэвы, што страцілі лістоту, застаўшыся ў сваёй канструкцыйнай аголенасці, потым — рыштаванні сабораў. Крок за крокам, твор за творам ён знаходзіў у прадметным свеце логіку рытмічных сувязей па вертыкальным і гарызантальным крытэрыям. А потым, прадметнасць, ачышчаная ад розных суб'ектыўных дэталей, трансфармуецца ў рытм мінусавых і плюсавых ліній, што ствараюць вельмі прыцягальныя і магічныя кампазіцыі. Дзякуючы таму, што Галандыя не варагавала з суседзямі і займала пазіцыю нейтралітэту, яна пазбегла жаху першай сусветнай вайны. 1914-1917 гады — гэта час няспынных пошукаў П.Мандрыяна, які, здаецца, вынаходзіў для ачмурэлага, з操мілітарызаванага чалавецтва формулу паратунку, формулу захавання цывілізацыі ад знішчэння. І калі ў 1917 годзе на ўсходзе Еўропы адбыўся страшэнны па сваіх крывавых наступствах кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот, дык у ціхай мірнай Галандыі адбылася падзея, што звеставала пачатак мастацкага перавароту, апярэджваючы ў гэтай справе іншыя краіны, занятыя ў гэты час самазнішчэннем на полі бою.

У Амстэрдаме ў 1917 — 1924 гг.пачаў выходзіць часопіс "Дэ Стыл" і склалася аднайменная суполка мастакоў і архітэктараў на чале з П.Мандрыянам. Сябры суполкі займаліся форматворчасцю на падставе спалучэння вертыкаляў і гарызанталяў. Праўда, сам Мандрыян найбольш паслядоўны і аскетычны ў выяўленчых сродках, хутка адыходзіць ад грамады, каб у сваёй творчай лабараторыі (калі так можна назваць яго сціплую парыжскую майстэрню) працягваць свае геніяльна простыя і шматзначныя распрацоўкі. Яго чысты стыль жывапісных кампазіцый, дзе белы квадрат, абмежаваны чорнымі вертыкалямі і гарызанталямі ліній, мяжуецца з блакітнымі і жоўтымі прамавугольнікамі, можна назваць не меншай "іконай новага мастацтва", чым супрэматычныя кампазіцыі К.Малевіча ці уністычныя творы У.Стрэмінскага. Нездарма ж гэтыя асобы так шчыра віталі свае ўзаемныя адкрыцці.

Жывапіс — каталізатар, што ўздзейнічае на ўсе віды сучаснага мастацтва і архітэктуру. Першыя сучасныя будынкі квадратных і прамавугольных форм (квадрат Малевіча), як егіпецкія піраміды, ужо ўвасабляюць касмічнасць! Яшчэ б крыху намаганняў, веры ў новыя сілы гуманістычнай культуры — то, можа, інакш склалася б гісторыя ў 30-40-х гадах.

У 1938 годзе П.Мандрыян вымушаны быў пакінуць Парыж, каб праз Лондан з'ехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі. У канцы 30-х гадоў Нью-Ёрк, вялікая метраполія свабоднага свету, стаў месцам гуртавання многіх выгнаннікаў Еўропы, найбольш яскравых яе талентаў. Майстэрня Мандрыяна стала для іх месцам паломніцтва. Сціплы геній, без асаблівых сродкаў для пражывання, быў кумірам, што сваім прыкладам сцвярджаў нязломнасць духу і вернасць ідэі. Апошнім акордам яго творчасці быў абстрагаваны вобраз Брадвея ды й іншых перпендыкулярна размешчаных адна да адной вуліц і авеню. Але гэта не адлюстраванне ўпарадкаванага горада, а найперш — вялікай і гарманічнай прасторы, дзе пульсуе жыццё, пануе гармонія і раўнавага. Такой убачыў будучыню без трыумфальных арак і іншых адзнак пампезнасці адзін з сучасных прарокаў.

Кажуць, што Захад, з прычыны сваёй прагматычнасці, аднабакова зразумеў спадчыну Малевіча, Мандрыяна і іншых вялікіх утапістаў. Магчыма, што свабоднаму свету не хапала прасторы для больш дасканалай іх рэалізацыі. Зараз да гэтай прасторы далучаецца і наша Беларусь, зямля вялікіх гуманных ідэй у мастацтве. Усведамляючы гэта, спрабуючы зразумець нашыя гістарычныя сувязі з наватарскімі традыцыямі Еўропы, мы не паўторым памылкі мінулых пяцідзесяцігоддзяў. Хай нарэшце стане рэчаіснасцю мара вялікіх утапістаў.

**В.БОГУШ**

*На здымку:*
дзіцячы дом у Амстэрдаме (архітэктар А. ван Эйк).

БЕЛАРУСЬ ЗА МЕЖАМІ РБ

# “АСАБЛІВА СІМПАТЫЧНЫЯ НАМ БЕЛАРУСЫ...”

## (на агледзінах беларуска-латышскага культурнага суполля)

*Як чалавек не існуе сам па сабе, так і народ, нацыя шукае паразумення з гістарычнымі сучаснікамі. Шукае і знаходзіць блізкасць і адзінства супольных культур, не баючыся экспансіі, зацьмення свайго, роднага магутнейшым крылом суседа. Таму Ян Райніс так смела мог гаварыць 3 чэрвеня 1929 г. на адкрыцці “Таварыства культурнага збліжэння з народамі СССР”: “Ад гэтага дня мы пачынаем збліжэнне з усходам, з народамі ўсходу. Два вялікія народы з якімі мы хочам зближаць сваю культуру, гэта беларусы і велікарусы. Асабліва сімпатычныя нам беларусы, якія так блізкія да літоўцаў...”*



Культура традыцыйных узаемаадносін у яе высокім, райнісаўскім, гучанні дала свой плён. Яна выступала супраць чалавечага нацыянальнага раз'яднання, за пазнанне сябе і свету, за магчымасць ацаніць, узважыць духоўныя скарбы народаў, атрымаць дадатковыя імпульсы да самаразвіцця.

Паспрабуем звярнуць увагу на тое, як трапляла ў Латвію беларускае мастацкае слова, увасобленае ў п'есу, спектакль.

Яшчэ ў 1949 г. Латвійскі акадэмічны тэатр імя Я.Райніса паставіў “Паўлінку” Я.Купалы (пераклад У.Пігулеўскага). Дарэчы, у гэтым жа тэатры ішла “Паўлінка” яшчэ пры жыцці самога Я.Райніса. Ён, дырэктар тэатра, запрашаў у Рыгу ў 1924 г. драмгурток Дзвінскай беларускай гімназіі...

У 1949 г. п'еса Я.Купалы асаблівага поспеху не мела і пастаноўка яе не аднаўлялася. Два разы, у 1950 і 1960 гг., ставіўся ў Латвіі спектакль па п'есе К.Крапівы “Хто смяецца апошнім”. Больш за ўсё пашанцавала драматургу А.Макаёнку. У 1954 г. латышы глядзяць яго п'есу “Выбачайце, калі ласка”, у 1972 г. — “Зацюканы апостал”, у 1974 г. — “Трыбунал”...

З таго часу шмат разоў апладзіравалі латышы мастацкім здабыткам беларусаў, і не толькі тэатру, але і “Песнярам, і “Беларусьфільму”, і лепшым нашым аркестрам — сімфанічнаму і камернаму...

У 1990 годзе Латвійскі фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур адзначыў у Рызе 500-годдзе Ф.Скарыны. Была арганізавана выстава “Францыск Скарына і яго час”...

З партрэта В.Ціхановіча глядзеў Ф.Скарына, яшчэ раз вярнуўшыся ў горад сваёй маладосці, дзе ён — бясспрэчна ж! — быў пры жыцці разам са сваім братам Іванам. З гэтага эпізоду і пачнем гаворку аб прысутнасці беларускага мастацтва на мацерыку латвійскай культуры.

А след майстроў застаўся такі. Гэта гутнікі з-пад горада Ліды вырабілі дэталі для унікальных люстраў адноўленага палаца ў Рундале. Гэта паводле праекта мінскіх архітэктараў рэстаўраваны шпіль царквы Пятра, каштоўнейшага помніка XIII — XVII стагоддзяў.

Трэба спадзявацца, што назаўсёды пасяліўся ў Музеі гісторыі медыцыны імя П.Страдыня (вул. Л.Паэглэс, 1) у лекарскіх навуках доктар Ф.Скарына. Яго партрэт выкананы мастаком Т.Страўтманісам. Пад рамкаю надпіс: “Выдатны ўрач і дзеяч беларускай культуры...”

Аднаго разу паэт М.Чаклайс сказаў: “Я думаю, што нам трэба павучыцца берагаць чалавечую памяць у беларусаў — у Алеся Адамовіча, Святланы Алексіевіч...” Аберагаюць, зберагаюць чалавечую памяць і ў Латвіі. Мастак-графік К.Буш (1912 — 1990), былы вязень канцлагера Саласпілс, выказаўся так: “Тады (у лагеры. — Рэд.) ніхто не думаў, што трэба будзе расказваць...” Але праз многія гады пасля вайны К.Буш адчуў неабходнасць зафіксаваць для гісторыі ўсё, што бачыў і перажыў. І вось са знакамітай саласпілскай графічнай серыі паўстаюць вобразы вязняў-асвейцаў. Згадваючы лёс беларусаў, стварыў ён у 1960 — 62 гадах такія работы, як “У лазню”, “На тарфяным балоце”, “У апошні шлях”, “У матак адбіраюць дзяцей”... Гэтыя вялізныя лісты дэманстраваліся і ў Саласпілсе, і ў Рызе.

Але мала хто ў свеце змог так спазнаць і “праявіць” Беларусь, як гэта зрабіў скульптар-медальер Я.Струпуліс (1949 года нараджэння). Ён зацікавіўся беларускай культурай, ствараючы медаль у гонар Я.Райніса. Фотаздымак латышскага паэта ў акружэнні беларускіх пісьменнікаў (Мінск, 1926 г.) спраўна паслужыў Я.Струпулісу ў яго творчых доследах. І вось ён робіць мініяцюрныя партрэты ў бронзе Я.Купалы, Я.Коласа, К.Каліноўскага (1976 г.). Глыбокае вывучэнне гісторыі культуры суседзяў паспрыяла стварэнню знакамітай серыі медалёў “Беларускія гуманісты XVI — XVII стагоддзяў” (Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Мялецій Смятрыцкі, Сімяон Полацкі). Упершыню яна экспанавалася на традыцыйнай выставе “Восень-79”. А ўвогуле работы Я.Струпуліса дэманстраваліся на Украіне, у Літве, Венгрыі, у Люксембургу, Японіі, Нямеччыне, Францыі... Толькі ў Саюзе мастакоў Беларусі не адгукнуліся на шматлікія прапановы прывецць арыгінальнага, непаўторнага латышскага мастака-медальера. Таму ў апошнія гады да беларускай тэматыкі ў сваёй творчасці ён ужо не вяртаўся.

І яшчэ адзін факт можа паслужыць урокам для будучыні. У свой час скончылі Люцынскую гімназію ў К.Езавітава Я.Доўгі, А.Тамашыцкі, П.Масальскі, М.Калінін. П.Масальскі стаў перакладчыкам дайнаў і паэтам, акварэлі М.Калініна захоўваюцца зараз у Скарынаўскім цэнтры... А Я.Доўгі пасля высокапатрыятычных вершаў стаў здраднікам Беларускай Ідэі і пра сваіх настаўнікаў стаў пісаць-даносіць як пра нацыянал-фашыстаў. Здэнацыяналізаваны Л.Тамашыцкі (Л.Тамашыцкіс) не ўзняўся ў сваёй анемічнай творчасці вышэй тэракотавай работы пад назвай “Будучыя касманаўты” (двое хлапчукоў спрабуюць запусціць папяровую ракету). А зямляк-“інтэрнацыяналіст” М.Карнецкі жывапісаў “Калгаснае поле”, стварыў вобраз брыгадзіра...

Сапраўднае ж мастацтва заўсёды мае нацыянальную аўру. І ў Латвіі высока ацэньвалі свячэнне беларускіх талентаў: да прыкладу, на выставе твораў графікаў у 1960 годзе. На адным са штогадовых пленэраў акварэлістаў асаблівая ўвага была звернута на стэнд Пятра Драчова, дзе быў размешчаны яго алегарычны трыпціх. Цёпла была сустрэта выстава віцебскіх жывапісцаў, графікаў і скульптараў у Даўгаўпілсе. Пры нагодзе латышскі чытач мог атрымаць у друку кваліфікаваную ацэнку прафесійнага ўзроўню беларускіх майстроў або з першых вуснаў пачуць ад гасцей з Мінска цікавую інфармацыю, як гэта было, напрыклад, у 1988 годзе на канферэнцыі ў Рундальскім палацы-музеі, калі супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі А.Ярашэвіч і аспірант гэтага ж інстытута А.Хадыка выступілі з дакладамі аб беларускім скульптурным надмагіллі і жывапісным партрэце.

Можна гаварыць аб удзеле беларусаў у традыцыйных выставах экслібрысістаў (В.Целеш, Я.Ціхановіч, М.Мінкевіч), філакартыстаў і ў іншых культурных мерапрыемствах. На вялікае шчасце, ёсць і пастаянны фактар прысутнасці беларускай культуры ў Латвіі — гэта жыццядзейнасць у Рызе з 1988 года Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак”. Адзін з арганізатараў яго — мастак В.Целеш (1938 года нараджэння). Калі гаварыць толькі пра выставачныя клопаты таварыства, то на яго рахунку арганізацыя выставаў “Беларусы ў Латвіі” (з фондаў рыжскіх бібліятэк і прыватных архіваў) — у Музеі гісторыі Рыгі і мараходства (1989 г.), ужо згаданая вышэй выстава ў гонар 500-годдзя Ф.Скарыны (1990 г.). Першая выстава Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” — у Ваенным музеі (1991 г.). У тым жа Ваенным музеі адбылася персанальная выстава В.Целеша (1992 г.). Выпускнік Акадэміі мастацтваў Латвіі (1975 г.), В.Целеш стварыў карціны, прысвечаныя Ф.Скарыне, М.Гусоўскаму, М.Багдановічу, Я.Райнісу, Я.Купалу, П.Масальскаму, В.Дуніну-Марцінкевічу, экслібрысы для У.Караткевіча, Зоські Верас, А.Мальдзіса... Доўгі час яго майстроўня ў цэнтры Рыгі — “Беларуская хатка” — была культурным асяродкам і ў многім паспрыяла беларуска-латышскаму ўзаемаразуменню, збліжэнню.

У “Беларускай хатцы” беларусы сустракаліся з латышскімі мастакамі, пісьменнікамі, вучонымі. Згадаю імя сябра Рады “Сьвітанка”, кандыдата філалагічных навук, былой супрацоўніцы Акадэміі навук Латвіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі — М.Абалы. Яна многа зрабіла для Беларусі не толькі як перакладчыца, але як і даследчыца ўзаемасувязяў, як стваральніца латышска-беларускага і беларуска-латышскага слоўнікаў (па 15 тысяч слоў кожны).

Часта і годна выступае ў Рызе фальклорны ансамбль “Надзея”, арганізаваны пры Таварыстве беларускай мовы. Мацуюць свае стасункі з латышамі сябры культурнага таварыства “Уздым” у Даўгаўпілсе. Бо толькі творчыя кантакты могуць зняць многія непаразуменні.

Неабходна адзначыць, што многія аўтары ў Балтыі да сённяшняга дня карыстаюцца гістарычна несправядлівымі прыёмамі ў вызначэнні нацыянальнага аблічча суседзяў. Вось некалькі сказаў з першага абзаца кнігі Л.Тайвана “По Латгалии”: “Ранние культурные контакты Латгалии связаны прежде всего с соседними русскими землями. Население, жившее в долине Западной Двины, платило дань полоцкому князю. Латгальское княжество Герцике (нынешняя Ерсика) приняло православие от русского народа. Первые слова, связанные с христианством — “церковь”, “колокол”, “святой”, “пост” и другие, пришли из России”.




Такое “вучонае” невуцтва пайшло ад няправільнага азначэння слова “кріевс”, якім латгалы называлі крывічоў. Зараз “кріевс” ужываецца ў значэнні “расіянін”. Беларус па-латышску — “балткріевс”: бела-расіянін. І вось даўняе найменне беларусаў — русін, рускі — пераносіцца на жыхароў Расіі. Таму ў Л.Тайвана ставіцца знак роўнасці паміж паняццямі “руская зямля”, “полацкі князь”, “Расія”. У падобных “вучоных” ад інтэрнацыяналізму даходзіла да абсурду ў ідалапаклонстве перад Масквою. Бо “царкоўь” не магла “прыйсці з Расіі”. Па-латышску гэта слова гучыць як “базніца” (бажніца). “Колокол” перакладаецца словам “званс” (звон). “Пост” — “гавеніс” (гавенне). Свята — гэта “свэткі”, а не “праздник”, кніга — “грамата”, істопка — “істаба”, гасцініца — “весніца” (успомнім весніцы!) і т.д., і да т.п.

Пачарговая страта імёнаў нашых продкаў (крывічы, ліцьвіны, русіны (рускія), беларусцы) прывяла да трагедыйных наступстваў. І першачарговая задача абаронцаў беларускае нацыі — даводзіць свету: хто мы такія, як нас называць.

У Латвіі гэта чэсна рабіў сябар С.Сахарава, К.Езавітава — гісторык, археолаг, археограф, мовазнаўца Б.Брэжга (1887 — 1957). Ажно з VIII стагоддзя, як выявіў ён, пачынаюцца кантакты продкаў латышоў і палачан, і гістарычным стасункам на Падзвінні прысвяціў Б.Брэжга нямала даследаванняў. Працуючы прафесарам кафедры славянскай філалогіі ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце, вёў спецыяльны курс па старой беларускай пісьменнасці, — каб даць студэнтам на аснове даных мовы карціну гістарычнага развіцця беларускага народа.

Крыніцаю для вывучэння жыццядзейнасці карэннага беларускага насельніцтва ва ўсходняй Латвіі з'яўляецца выдадзеная Б.Брэжгам у 1956 годзе манаграфія “Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии. 1577 — 1907”.

Былы супрацоўнік (да 1925 г.) Віцебскага цэнтральнага архіва, ён свабодна пісаў па-беларуску (кірыліцай і лацінкай). Многія каштоўныя рукапісы Б.Брэжгі яшчэ чакаюць сваёй публікацыі. Яго спадчына раскідана па многіх архівах Рыгі, рукапісных аддзелах бібліятэк. Асабісты фонд Б.Брэжгі захоўваецца ў гістарычным архіве (вул. Слокас, 16), у аддзеле літонікі Нацыянальнай бібліятэкі (вул.Екаба, 6/8), у Акадэмічнай бібліятэцы (вул.Ліелвардэс, 24), у Нацыянальнай бібліятэцы (вул.Кр.Барана, 14).

Яшчэ Я.Карскі, а за ім В.Ластоўскі сцвярджалі, што многа беларускіх дакументаў ёсць у Рыжскім гарадскім архіве. Сапраўды, Рыга — найбагацейшая скарбніца кніг, часопісаў, рукапісаў, дакументаў розных эпох (пачынаючы ад першых грамат), якія асвятляюць прысутнасць беларускай культуры ў Латвіі. Калісьці К.Езавітаў кожны паасобнік выдрукаванай прадукцыі перадаваў у Бібліятэку Місыня (вул.Рупніецыбас, 10). А якія патаемы хавае фонд Я.Райніса ў Музеі гісторыі літаратуры і мастацтва імя Я.Райніса (Пл.Пілс, 3)! Унікальныя матэрыялы з Беларусі знаходзяцца на захаванні ў Музеі гісторыі медыцыны імя П.Страдыня (вул.Л.Паэглэс, 1). Картатэку на асвейскіх дзяцей, ратаваных у Латвіі, можна прагледзець у Вайсковым музеі (вул.Смілшу, 20), зірнуць на карціны І.Хруцкага — у Дзяржаўным мастацкім музеі (вул.Кр.Вальдэмара, 10-а)... Рыга — неабдымная скарбонка духоўнай спадчыны беларусаў. У статусе першакрыніцы для вывучэння культурнага слоя, вытваранага беларусамі на мацерыку агульначалавечай цывілізацыі, Рыга можа канкурыраваць з такімі асяродкамі, як Вільня, Львоў, Прага, Санкт-Пецярбург... Але і на гэтай дзялянцы прараслі за апошні час парасткі трывогі. Да прыкладу, амаль уся друкаваная прадукцыя беларусаў даваеннага часу — як нацыяналістычная — знаходзілася ў савецкіх “спецхранах”. У новых умовах беларускія выданні былі вызвалены з кагэбісцкіх штольняў і перанесены ў архівы. І зноў аказаліся зачыненымі ад даследчыкаў. Аднавіць даваенны статус беларускамоўных скарбаў, спраўдзіць мару К.Езавітава аб існаванні Беларускай бібліятэкі ў Рызе — задача, у першую чаргу, дыпламатаў і ўладных структур абедзвюх дзяржаў. Але пагадненне аб культурным супрацоўніцтве з Латвіяй Беларусь пакуль што не падпісала.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня рады таварыства “Беларусь — Латвія”**

